рыя часы інтэлігенцыя рэкрутавала сваіх членаў сярод дваран, буржуазіі, часткова сярод сялян і толькі ў самай нязначнай ступені сярод рабочых. У наш, совецкі час інтэлігенцыя рэкрутуе сваіх членаў галоўным чынам сярод рабочых і сялян. Але як-бы яна ні рэкрутавалася і які-б характар яна ні насіла, інтэлігенцыя ўсё-ж з'яўляецца праслойкай, а не класам.

Ці не ўшчамляе гэтая акалічнасць правоў працоўнай інтэлігенцыі? Ніколькі! Першы артыкул праекта Канстытуцыі гаворыць не аб правах розных слаёў совецкага грамадства, а аб класавым складзе гэтага грамадства. Аб правах розных слаёў совецкага грамадства, у тым ліку аб правах працоўнай інтэлігенцыі, гаворыцца галоўным чынам у дзесятым і адзінаццатым раздзелах праекта Канстытуцыі. З гэтых раздзелаў відаць, што рабочыя, сяляне і працоўная інтэлігенцыя зусім роўнаправаўныя ва ўсіх сферах гаспадарчага, палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Стала быць, аб ушчамленні правоў працоўнай інтэлігенцыі не можа быць і гутаркі.

Тое-ж самае трэба сказаць аб нацыях і расах, якія ўваходзяць у склад СССР. У другім раздзеле праекта Канстытуцыі ўжо сказана, што СССР ёсць свабодны саюз роўнаправаўных нацый. Ці варта паўтараць гэтую формулу ў першым артыкуле праекта Канстытуцыі, трактуючым не аб нацыянальным складзе совецкага грамадства, а аб яго класавым складзе? Ясна, што не варта. Што датычыць правоў нацый і рас, якія ўваходзяць у склад СССР, то аб гэтым гаворыцца ў другім, дзесятым і адзінаццатым раздзелах праекта Канстытуцыі. З гэтых раздзелаў відаць, што нацыі і расы СССР карыстаюцца аднолькавымі правамі ва ўсіх сферах гаспадарчага, палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Стала быць, не можа быць і гутаркі аб ушчамленні нацыянальных правоў.

Таксама няправільна было-б замяніць слова «селянін» словам «калгаснік» або словамі «працоўны соцыялістычнага земляробства». Па-першае, сярод сялян апрача калгаснікаў ёсць яшчэ звыш мільёна двароў не-калгаснікаў. Як быць з імі? Ці не думаюць аўтары гэтай папраўкі скінуць іх з рахунку? Гэта было-б неразумна. Па-другое, калі большасць сялян стала весці калгасную гаспадарку, то гэта яшчэ не значыць, што яна перастала быць сялянствам, што ў яе няма больш сваёй асабістай гаспадаркі, асабістага двара і т. д. Па-трэцяе, прыйшлося-б тады замяніць таксама слова «рабочы» словамі «тружанік соцыялістычнай прамысловасці», чаго, аднак, аўтары папраўкі чамусьці не прапануюць. Нарэшце, хіба ў нас ужо зніклі клас рабочых і клас сялян? А калі яны не зніклі, то ці варта выкрэсліваць з лексікона ўстанавіўшыяся для іх найменаванні? Аўтары папраўкі, відаць, маюць на ўвазе не цяперашняе, а будучае гра-

мадства, калі класаў ужо не будзе і калі рабочыя і сяляне ператорацца ў тружанікаў адзінага комуністычнага грамадства. Яны, стала быць, яўным чынам забягаюць наперад. Але пры складанні Канстытуцыі трэба выходзіць не з будучага, а з сучаснага, з таго, што ўжо ёсць. Канстытуцыя не можа і не павінна забягаць наперад.

2) Далей ідзе папраўка да 17-га артыкула праекта Канстытуцыі. Папраўка заключаецца ў тым, што прапануюць выключыць зусім з праекта Канстытуцыі 17-ы артыкул, які гаворыць аб захаванні за Саюзнымі рэспублікамі права вольнага выхаду з СССР. Я думаю, што гэтая прапанова няправільная і таму не павінна быць прынята З'ездам. СССР ёсць добраахвотны саюз роўнапраўных Саюзных рэспублік. Выключыць з Канстытуцыі артыкул аб праве вольнага выхаду з СССР,—значыць парушыць добраахвотны характар гэтага саюза. Ці можам мы пайсці на гэты крок? Я думаю, што мы не можам і не павінны ісці на гэты крок. Гавораць, што ў СССР няма ні адной рэспублікі, якая-б хацела выйсці са складу СССР, што з прычыны гэтага артыкул 17-ы не мае практычнага значэння. Што ў нас няма ні адной рэспублікі, якая-б хацела выйсці са складу СССР, гэта, вядома, верна. Але з гэтага зусім не вынікае, што мы не павінны зафіксіраваць у Канстытуцыі права Саюзных рэспублік на вольны выхад з СССР. У СССР няма таксама такой Саюзнай рэспублікі, якая-б хацела падавіць другую Саюзную рэспубліку. Але з гэтага зусім не вынікае, што з Канстытуцыі СССР павінен быць выключан артыкул, які трактуе аб роўнасці правоў Саюзных рэспублік.

3) Далей ёсць прапанова дапоўніць другі раздзел праекта Канстытуцыі новым артыкулам, змест якога зводзіцца к таму, што аўтаномныя совецкія соцыялістычныя рэспублікі пры дасягненні адпаведнага ўзроўню гаспадарчага і культурнага развіцця могуць быць пераўтвораны ў саюзныя совецкія соцыялістычныя рэспублікі. Ці можна прыняць гэтую прапанову? Я думаю, што не трэба яе прымаць. Яна няправільная не толькі з боку яе зместу, але і з боку яе матываў. Нельга матывіраваць перавод аўтаномных рэспублік у разрад саюзных рэспублік гаспадарчай і культурнай іх сталасцю, таксама як нельга матывіраваць астаўленне той ці іншай рэспублікі ў спісе аўтаномных рэспублік яе гаспадарчай або культурнай адсталасцю. Гэта быў-бы не марксісцкі, не ленінскі падыход. Татарская Рэспубліка, напрыклад, астаецца аўтаномнай, а Казахская Рэспубліка становіцца саюзнай, але гэта яшчэ не значыць, што Казахская Рэспубліка з пункту гледжання культурнага і гаспадарчага развіцця стаіць вышэй, чым Татарская Рэспубліка. Справа абстаіць якраз наадварот. Тое-ж самае трэба сказаць,

напрыклад, аб Аўтаномнай Рэспубліцы Немцаў Паваложжа і аб Кіргізскай Саюзнай Рэспубліцы, з якіх першая ў культурных і гаспадарчых адносінах стаіць вышэй, чым другая, хоць і астаецца аўтаномнай рэспублікай.

Якія-ж тыя адзнакі, наяўнасць якіх дае падставу для пераводу аўтаномных рэспублік у разрад саюзных рэспублік?

Іх, гэтых адзнак,—тры.

Па-першае, неабходна, каб рэспубліка была акраіннай, не акружанай з усіх бакоў тэрыторыяй СССР. Чаму? Таму што калі за Саюзнай рэспублікай захоўваецца права выхаду з Саюза ССР, то неабходна, каб гэтая рэспубліка, стаўшая Саюзнай, мела магчымасць лагічна і фактычна паставіць пытанне аб яе выхадзе з СССР. А такое пытанне можа паставіць толькі такая рэспубліка, якая, скажам, мяжуе з якой-небудзь замежнай дзяржавай і, стала быць, не акружана з усіх бакоў тэрыторыяй СССР. Вядома, у нас няма рэспублік, якія-б фактычна ставілі пытанне аб выхадзе з СССР. Але раз астаецца за Саюзнай рэспублікай права выхаду з СССР, то трэба абставіць справу так, каб гэтае права не ператваралася ў пустую і бяссэнсную паперку. Возьмем, напрыклад, Башкірскую або Татарскую Рэспубліку. Дапусцім, што гэтыя аўтаномныя рэспублікі перавялі ў разрад саюзных рэспублік. Ці маглі-б яны паставіць пытанне лагічна і фактычна аб сваім выхадзе з СССР? Не, не маглі-б. Чаму? Таму што яны з усіх бакоў акружаны совецкімі рэспублікамі і абласцямі і ім, уласна кажучы, няма куды выходзіць са складу СССР. (А г у л ь н ы с м е х, а п л а д ы с м е н т ы.) Таму перавод такіх рэспублік у разрад саюзных рэспублік быў-бы няправільным.

Па-другое, неабходна, каб нацыянальнасць, якая дала совецкай рэспубліцы сваё імя, прадстаўляла ў рэспубліцы больш ці менш кампактную большасць. Узяць, напрыклад, Крымскую Аўтаномную Рэспубліку. Яна з'яўляецца акраіннай рэспублікай, але крымскія татары не маюць большасці ў гэтай рэспубліцы, наадварот,—яны прадстаўляюць там меншасць. Стала быць, было-б няправільна і нелагічна перавесці Крымскую Рэспубліку ў разрад саюзных рэспублік.

Па-трэцяе, неабходна, каб рэспубліка была не вельмі маленькай у сэнсе колькасці яе насельніцтва, каб яна мела насельніцтва, скажам, не менш, а больш хоць-бы мільёна. Чаму? Таму што было-б няправільна дапусціць, што маленькая совецкая рэспубліка, якая мае мінімальную колькасць насельніцтва і нязначную армію, магла разлічваць на незалежнае дзяржаўнае існаванне. Наўрад ці можна сумнявацца, што імперыялістычныя драпежнікі жыва прыбралі-б яе к рукам.

Я думаю, што без наяўнасці гэтых трох аб'ектыўных адзнак

было-б няправільна ў сучасны гістарычны момант ставіць пытанне аб пераводзе той ці іншай аўтаномнай рэспублікі ў разрад саюзных рэспублік.

4) Далей прапануюць выкрэсліць у артыкулах 22-ім, 23-ім, 24-ым, 25-ым, 26-ым, 27-ым, 28-ым і 29-ым падрабязнае пералічэнне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу саюзных рэспублік на краі і вобласці. Я думаю, што гэтая прапанова таксама непрыймальна. У СССР ёсць людзі, якія гатовы з вялікай ахвотай і безустанку перакройваць краі і вобласці, уносячы гэтым блытаніну і няўпэўненасць у рабоце. Праект Канстытуцыі стварае для гэтых людзей узду. І гэта вельмі добра, бо тут, як і ва многім іншым, патрабуецца ў нас атмасфера ўпэўненасці, патрабуецца стабільнасць, яснасць.

5) Пятая папраўка датычыць 33 артыкула. Лічаць немэтазгодным стварэнне двух палат і прапануюць знішчыць Совет Нацыянальнасцей. Я думаю, што гэтая папраўка таксама няправільная. Аднапалатная сістэма была-б лепш двухпалатнай, калі-б СССР прадстаўляў адзіную нацыянальную дзяржаву. Але СССР не ёсць адзіная нацыянальная дзяржава. СССР ёсць, як вядома, многанацыянальная дзяржава. У нас ёсць вярхоўны орган, дзе прадстаўлены **агульныя** інтарэсы ўсіх працоўных СССР незалежна ад іх нацыянальнасці. Гэта—Совет Саюза. Але ў нацыянальнасцей СССР апрача агульных інтарэсаў ёсць яшчэ **свае асобыя, спецыфічныя** інтарэсы, звязаныя з іх нацыянальнымі асаблівасцямі. Ці можна пагарджаць гэтымі спецыфічнымі інтарэсамі? Не, нельга. Ці патрэбен спецыяльны вярхоўны орган, які-б адлюстроўваў гэтыя іменна спецыфічныя інтарэсы? Безумоўна патрэбен. Не можа быць сумнення, што без такога органа немагчыма было-б кіраваць такой многанацыянальнай дзяржавай, як СССР. Такім органам з'яўляецца другая палата, Совет Нацыянальнасцей СССР.

Спасылаюцца на парламенцкую гісторыю еўрапейскіх і амерыканскіх дзяржаў, спасылаюцца на тое, што двухпалатная сістэма ў гэтых краінах дала толькі мінусы, што другая палата выраджаецца звычайна ў цэнтр рэакцыі і ў тормаз супроць руху ўперад. Усё гэта верна. Але гэта адбываецца таму, што ў гэтых краінах паміж палатамі няма роўнасці. Як вядома, другой палаце даюць нярэдка больш правоў, чым першай, і затым, як правіла, другая палата арганізуецца недэмакратычным шляхам, нярэдка шляхам назначэння яе членаў зверху. Несумненна, што гэтых мінусаў не будзе, калі правесці роўнасць паміж палатамі і другую палату арганізаваць так сама дэмакратычна, як і першую.

6) Прапануюць далей дадатак да праекта Канстытуцыі, які патрабуе ўраўнення колькасці членаў абодвух палат. Я думаю,

што гэтую прапанову можна было-б прыняць. Яна дае, па-мойму, яўныя палітычныя плюсы, бо падкрэслівае роўнасць палат.

7) Далей ідзе дадатак да праекта Канстытуцыі, у сілу якога прапануецца выбіраць дэпутатаў у Совет Нацыянальнасцей так сама, як і ў Совет Саюза, шляхам прамых выбараў. Я думаю, што гэтую прапанову таксама можна было-б прыняць. Праўда, яна можа стварыць некаторыя тэхнічныя нязручнасці пры выбарах. Але затое яна дасць вялікі палітычны выйгрыш, бо яна павінна павысіць аўтарытэт Совета Нацыянальнасцей.

8) Далей ідзе дадатак да артыкула 40-га, у сілу якога прапануецца прадаставіць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета права выдаваць часовыя законадаўчыя акты. Я думаю, што гэты дадатак няправільны і не павінен быць прынят З'ездам. Трэба, нарэшце, пакончыць з тым становішчам, калі законадаўствуе не адзін які-небудзь орган, а цэлы рад органаў. Такое становішча супярэчыць прынцыпу стабільнасці законаў. А стабільнасць законаў патрэбна нам цяпер больш, чым калі-б то ні было. Законадаўчая ўлада ў СССР павінна ажыццяўляцца толькі адным органам, Вярхоўным Советам СССР.

9) Далей прапануюць дадатак да 48-га артыкула праекта Канстытуцыі, у сілу якога патрабуюць, каб старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюза ССР выбіраўся не Вярхоўным Советам СССР, а ўсім насельніцтвам краіны. Я думаю, што гэты дадатак няправільны, бо ён не адпавядае духу нашай Канстытуцыі. Паводле сістэмы нашай Канстытуцыі ў СССР не павінна быць аднаасабовага прэзідэнта, які выбіраецца ўсім насельніцтвам, нароўні з Вярхоўным Советам, і можа процістаўляць сябе Вярхоўнаму Совету. Прэзідэнт у СССР калегіяльны,—гэта Прэзідыум Вярхоўнага Совета, уключаючы і старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Совета, выбіраемы не ўсім насельніцтвам, а Вярхоўным Советам, і падсправаздачны Вярхоўнаму Совету. Вопыт гісторыі паказвае, што такая пабудова вярхоўных органаў з'яўляецца найбольш дэмакратычнай, гарантуючай краіну ад непажаданых выпадковасцей.

10) Далей ідзе папраўка да таго-ж 48-га артыкула. Яна гаворыць: павялічыць колькасць намеснікаў старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР да адзінаццаці з тым, каб ад кожнай Саюзнай рэспублікі быў адзін намеснік. Я думаю, што гэтую папраўку можна было-б прыняць, бо яна паляпшае справу і можа толькі ўмацаваць аўтарытэт Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

11) Далей ідзе папраўка да артыкула 77-га. Яна патрабуе арганізацыі новага агульнасаюзнага народнага камісарыята,—Наркамата Абароннай Прамысловасці. Я думаю, што гэтую папраўку таксама варта-б было прыняць (а п л а д ы с м е н т ы), бо на-

спеў час для таго, каб выдзеліць нашу абаронную прамысловасць і даць ёй адпаведнае наркамацкае афармленне. Мне здаецца, што гэта магло-б толькі палепшыць справу абароны нашай краіны.

12) Далей ідзе папраўка да артыкула 124-га праекта Канстытуцыі, якая патрабуе яго змены ў тым кірунку, каб забараніць адпраўленне рэлігійных абрадаў. Я думаю, што гэтую папраўку варта адхіліць, як не адпавядаючую духу нашай Канстытуцыі.

13) Нарэшце, яшчэ адна папраўка, якая мае больш або менш істотны характар. Я гавару аб папраўцы да 135-га артыкула праекта Канстытуцыі. Яна прапануе пазбавіць выбарчых правоў служыцеляў культа, былых белагвардзейцаў, усіх былых людзей і асоб, якія не займаюцца агульнакарыснай працай, або, ва ўсякім выпадку,—абмежаваць выбарчыя правы асоб гэтай катэгорыі, даўшы ім толькі пасіўнае выбарчае права, г. зн. права выбіраць, але не быць выбранымі. Я думаю, што гэтая папраўка таксама павінна быць адхілена. Совецкая ўлада пазбавіла выбарчых правоў непрацоўныя і эксплаататарскія элементы не на векі вечныя, а часова, да пэўнага перыяду. Быў час, калі гэтыя элементы вялі адкрытую вайну супроць народу і процідзейнічалі совецкім законам. Совецкі закон аб пазбаўленні іх выбарчага права быў адказам Совецкай улады на гэтае процідзеянне. З той пары прайшло нямала часу. За прайшоўшы перыяд мы дабіліся таго, што эксплаататарскія класы знішчаны, а Совецкая ўлада ператварылася ў непераможную сілу. Ці не прыйшоў час перагледзець гэты закон? Я думаю, што прыйшоў час. Гавораць, што гэта небяспечна, бо могуць пралезці ў вярхоўныя органы краіны варожыя Совецкай уладзе элементы, сёй-той з былых белагвардзейцаў, кулакоў, папоў і т. д. Але чаго тут уласна баяцца? Ваўкоў баяцца, у лес не хадзіць. (В я с ё л а е  а ж ы ў л е н н е  ў  з а л е,  б у р н ы я  а п л а д ы с м е н т ы.) Папершае, не ўсе былыя кулакі, белагвардзейцы або папы варожы Совецкай уладзе. Па-другое, калі народ сям-там і выбярэ варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна, і мы ўпаўне заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць, трэба працаваць, а не хныкаць (б у р н ы я  а п л а д ы с м е н т ы), трэба працаваць, а не чакаць таго, што ўсё будзе прадастаўлена ў гатовым выглядзе ў парадку адміністрацыйных распараджэнняў. Ленін яшчэ ў 1919 годзе гаварыў, што недалёкі той час, калі Совецкая ўлада палічыць карысным увесці ўсеагульнае выбарчае права без усякіх абмежаванняў. Звярніце ўвагу: **без усякіх абмежаванняў.** Гэта ён гаварыў у той час, калі замежная ваенная інтэрвенцыя не была яшчэ ліквіда-

вана, а наша прамысловасць і сельская гаспадарка знаходзіліся ў адчаянным становішчы. З той пары прайшло ўжо 17 год. Ці не пара, таварышы, выканаць указанне Леніна? Я думаю, што пара.

Вось што гаварыў Ленін у 1919 годзе ў сваёй працы «Праект праграмы РКП(б)». Дазвольце зачытаць:

«Р.К.П. павінна растлумачваць працоўным масам, каб пазбегнуць няправільнага абагульнення праходзячых гістарычных патрэб, што пазбаўленне выбарчых правоў часткі грамадзян зусім не датычыць у Савецкай рэспубліцы, як гэта бывала ў большасці буржуазна-дэмакратычных рэспублік, пэўнага разраду грамадзян, пажыццёва аб'яўляемых бяспраўнымі, а адносіцца толькі да эксплаататараў, толькі да тых, хто наперакор асноўным законам соцыялістычнай Савецкай рэспублікі ўпорствуе ў адстойванні свайго эксплаататарскага становішча, у захаванні капіталістычных адносін. Значыць, у Савецкай рэспубліцы, з аднаго боку, з кожным днём умацавання соцыялізма і скарачэння ліку тых, хто мае аб'ектыўна магчымасць аставацца эксплаататарам або захоўваць капіталістычныя адносіны, змяншаецца само сабой процант пазбаўляемых выбарчага права. Наўрад ці цяпер у Расіі гэты процант больш чым два, тры проценты. З другога боку, у самым недалёкім будучым спыненне знешняга нашэствія і давяршэнне экспрапрыяцыі экспрапрыятараў можа, пры пэўных умовах, стварыць становішча, калі пролетарская дзяржаўная ўлада выбярэ іншыя спосабы падаўлення супраціўлення эксплаататараў і ўвядзе ўсеагульнае выбарчае права **без усякіх абмежаванняў»** (Ленін, т. XXIV, стар. 94. Выданне Партвыдавецтва. 1935 год).

Здаецца, ясна.

Так абстаіць справа з папраўкамі і дадаткамі да праекта Канстытуцыі СССР.

## VI. Значэнне новай Канстытуцыі СССР.

Мяркуючы па рэзультатах усенароднага абмеркавання, якое прадаўжалася амаль 5 месяцаў, можна дапусціць, што праект Канстытуцыі будзе адобран гэтым З'ездам. (Бурныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Зала ўстае.)

Праз некалькі дзён Савецкі Саюз будзе мець новую, соцыялістычную Канстытуцыю, пабудаваную на пачатках разгорнутага соцыялістычнага дэмакратызма.

Гэта будзе гістарычны дакумент, які трактуе проста і сцісла, амаль у пратакольным стылі, аб фактах перамогі соцыялізма ў

СССР, аб фактах вызвалення працоўных СССР ад капіталістычнага рабства, аб фактах перамогі ў СССР разгорнутай, да канца паслядоўнай дэмакратыі.

Гэта будзе дакумент, які сведчыць аб тым, што тое, аб чым марылі і прадаўжаюць марыць мільёны чэсных людзей у капіталістычных краінах,—ужо ажыццёўлена ў СССР. (Бурныя апладысменты.)

Гэта будзе дакумент, які сведчыць аб тым, што тое, што ажыццёўлена ў СССР, цалкам можа быць ажыццёўлена і ў іншых краінах. (Бурныя апладысменты.)

Але з гэтага вынікае, што міжнароднае значэнне новай Канстытуцыі СССР наўрад ці можа быць пераацэнена.

Цяпер, калі мутная хваля фашызма аплёўвае соцыялістычны рух рабочага класа і змешвае з гразёй дэмакратычныя імкненні лепшых людзей цывілізаванага свету, новая Канстытуцыя СССР будзе абвінаваўчым актам супроць фашызма, гаворачым аб тым, што соцыялізм і дэмакратыя непераможны. (Апладысменты.) Новая Канстытуцыя СССР будзе маральнай дапамогай і рэальнай падмогай для ўсіх тых, хто вядзе цяпер барацьбу супроць фашысцкага варварства. (Бурныя апладысменты.)

Яшчэ большае значэнне мае новая Канстытуцыя СССР для народаў СССР. Калі для народаў капіталістычных краін Канстытуцыя СССР будзе мець значэнне праграмы дзеянняў, то для народаў СССР яна мае значэнне выніку іх барацьбы, выніку іх перамог на фронце вызвалення чалавецтва. У рэзультаце пройдзенага шляху барацьбы і лішэнняў прыемна і радасна мець сваю Канстытуцыю, якая трактуе аб пладах нашых перамог. Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты. (Працяглыя апладысменты.) Гэта ўзбройвае духоўна наш рабочы клас, наша сялянства, нашу працоўную інтэлігенцыю. Гэта рухае наперад і ўзнімае пачуццё законнай гордасці. Гэта ўмацоўвае веру ў свае сілы і мабілізуе на новую барацьбу для заваявання новых перамог комунізма. (Бурная авацыя, уся зала ўстае, грамавое «ура», агульныя воклічы: **«Няхай жыве таварыш Сталін!»** З'езд, стоячы, пяе «Інтэрнацыянал». Пасля выканання «Інтэрнацыянала» авацыя аднаўляецца. Крыкі «ура!» **«Няхай жыве наш правадыр таварыш Сталін!»**)

---

# Даклад правадыра

25 лістапада ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва як найвялікшая дата. З трыбуны вялікага Крэмлёўскага палаца ўвесь свет слухаў даклад любімага правадыра працоўных усяго свету—вялікага Сталіна аб праекце новай Канстытуцыі СССР.

Увесь зал Крэмлёўскага палаца, а разам з дэлегатамі і ўсе працоўныя Совецкага Саюза горача віталі свайго любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна.

У самых аддаленых кутках Совецкага Саюза, на астравах Ледавітага акіяна, на ўзбярэжжы Чорнага мора і Ціхага акіяна, на Беларусі і ў далёкіх рэспубліках—Туркменіі, Таджыкістане, Узбекістане, у Грузіі, Арменіі, Калмыцкіх стэпах—скрозь і ўсюды на фабрыках і заводах, у калгасах і соўгасах працоўныя слухалі даклад правадыра, прагна лавілі кожнае яго слова, горача апладзіравалі яму, захапляліся сталінскай логікай, бязмежнай глыбінёю думак.

Сталін—ініцыятар і творца новай Канстытуцыі.

Сталін—сцяг нашых поспехаў і перамог.

Наш вялікі Сталін разам з Леніным праз дзесяцігоддзі барацьбы прывялі народ да трыумфу пролетарскай рэволюцыі, да раднаснага, культурнага, заможнага жыцця.

Сталін у жорсткай барацьбе супроць подлай контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай банды забойцаў і шпіёнаў, супроць правых апартуністаў, у барацьбе супроць усіх ворагаў партыі і народу адстаяў вялікі непераможны ленінскі сцяг і падняў яго на недасяжную вышыню.

Усё, што здабыта намі за час рэволюцыі, усе перамогі соцыялізма звязаны з імем Сталіна, бо ён заўсёды накіроўваў і цвёрда вёў совецкі народ ад перамогі да перамогі.

Сталінскі геній, як маяк, асвятляе нам шлях пераможнага руху наперад, дае сілу, арыентыроўку і ўпэўненасць у перамозе.

У гістарычны дзень 25 лістапада сэрцы і погляды працоўных усяго свету былі звернуты да творцы новай Канстытуцыі СССР, правадыра працоўных і прыгнечаных усяго свету—вялікага Сталіна, які вывеў 170-мільённы народ на шлях шчаслівага, радаснага жыцця і ўказаў шлях да перамогі пролетарыята ва ўсім свеце.

Самае блізкае і дарагое імя ў сэрцах працоўных—Сталін. Аб ім складае народ песні і паэмы. Совецкі народ ганарыцца тым, што ён мае шчасце жыць і працаваць пад сталінскім кіраўніцтвам.

Народы многанацыянальнага Совецкага Саюза на ўсіх мовах васпяваюць імя Сталіна, як сцяг перамог, шчаслівага і раднаснага жыцця.

«Он велик. Слово его—
Сильней, чем устои гор.
Он собрал в себе слезы веков,
Он собрал в себе горе веков,

Он собрал в себе радость веков,
Он собрал в себе мудрость веков,
Он собрал в себе силу веков.
Его жизнь велика и проста,
Необ'ятна она как мечта,
Она как утро над миром встает,
Его «Сталиным» мир зовет!

У яркіх і глыбокіх словах вялікі Сталін злажыў праект новай Канстытуцыі—вялікай хартыі вызваленага чалавецтва, хартыі свабод і правоў працоўных неабсяжнага Совецкага Саюза.

Кожны пункт, кожнае слова сталінскай Канстытуцыі—гэта рэзультат велізарных перамог соцыялізма, барацьбы і перамог нашай партыі пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

За час з 1924 года (год прыняцця цяперашняй Канстытуцыі СССР) па 1936 год, за гэтыя 12 год адбыліся карэнныя змены і зрухі ў жыцці народаў СССР.

Вялікі Сталін сфармуляваў гэтыя змены так:

> «Такім чынам, поўная перамога соцыялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам.
>
> А што гэта значыць?
>
> Гэта значыць, што эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага совецкага грамадства. (Працяглыя апладысменты.)
>
> У рэзультаце ўсіх гэтых змен у галіне народнай гаспадаркі СССР мы маем цяпер новую, соцыялістычную эканоміку, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, не ведае галечы і разарэння і дае грамадзянам усе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця».

У адпаведнасці з гэтым адбыліся змены і ў класавай структуры нашага грамадства.

У выніку палітыкі, якую праводзіць партыя, канчаткова знішчаны эксплаататарскія класы. У нас цяпер застаўся клас рабочых, клас сялян, засталася інтэлігенцыя. Але і ў гэтых соцыяльных групах адбыліся карэнныя змены іменна ў сувязі з перамогамі соцыялізма.

Вялікі Сталін з уласцівай яму глыбінёй і яснасцю гаворыць у сваім дакладзе:

> «...Пролетарыят СССР ператварыўся ў зусім новы клас, у рабочы клас СССР, які знішчыў капіталістычную сістэму гаспадаркі, які ўцвердзіў соцыялістычную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і які накіроўвае совецкае грамадства па шляху комунізма.
>
> ...Рабочы клас СССР гэта—зусім новы, вызвалены ад эксплаатацыі, рабочы клас, падобнага якому не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва.
>
> ...Наша совецкае сялянства з'яўляецца зусім новым сялянствам. У нас няма больш памешчыкаў і кулакоў, купцоў і ліхвяроў, якія маглі-б эксплаатаваць сялян. Стала быць, наша сялянства ёсць вызваленае ад эксплаатацыі сялянства. Далей, наша совецкае сялянства ў сваёй пераважнай большасці ёсць калгаснае сялянства, г. зн. яно базіруе сваю работу і сваё дастаянне

не на аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай працы і сучаснай тэхніцы. Нарэшце, у аснове гаспадаркі нашага сялянства ляжыць не прыватная ўласнасць, а калектыўная ўласнасць, вырасшая на базе калектыўнай працы...

Совецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, падобнага якому яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

... 80—90 працантаў совецкай інтэлігенцыі—гэта выхадцы з рабочага класа, сялянства і іншых слаёў працоўных. Змянілася, нарэшце, і самы характар дзейнасці інтэлігенцыі. Раней яна павінна была служыць багатым класам, бо ў яе не было іншага выхаду. Цяпер яна павінна служыць народу, бо не стала больш эксплаататарскіх класаў. І іменна таму яна з'яўляецца цяпер роўнапраўным членам совецкага грамадства, дзе яна разам з рабочымі і сялянамі, у адной упражцы з імі, вядзе будоўлю новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства».

Усё больш і больш сціраюцца грані паміж гэтымі соцыяльнымі групамі:

«... грані паміж рабочым класам і сялянствам, роўна як паміж гэтымі класамі і інтэлігенцыяй—сціраюцца, а старая класавая выключнасць—знікае. Гэта значыць, што адлегласць паміж гэтымі соцыяльнымі групамі ўсё больш і больш скарачаецца» **(Сталін).**

Падаюць і сціраюцца паміж гэтымі соцыяльнымі групамі эканамічныя супярэчнасці так сама, як падаюць і сціраюцца паміж імі і палітычныя супярэчнасці.

Усе гэтыя акалічнасці прадугледжаны ў праекце новай сталінскай Канстытуцыі, аб іх з выключнай яснасцю і глыбінёй гаварыў таварыш Сталін на з'ездзе.

Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік ёсць многанацыянальная дзяржава, пабудаваная на базе соцыялізма. У брацкім адзінстве і дружбе народы вялікага СССР будуюць бяскласавае соцыялістычнае грамадства. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка спаяла ў адзіную сям'ю ўсе народы Саюза. За прашоўшыя гады будаўніцтва соцыялізма пад сталінскім сонцам выраслі, умацаваліся і расквітнелі нацыянальныя рэспублікі, краі, вырасла і расквітнела іх соцыялістычная эканоміка і культура. Выкліканы да жыцця народы, якія ў мінулым бесчалавечна прыгняталіся царскім самадзяржаўем.

«У рэзультаце мы маем цяпер многанацыянальную соцыялістычную дзяржаву, якая ўпаўне склалася і вытрымала ўсе іспыты, моцнасці якой магла-б пазайздросціць любая нацыянальная дзяржава ў любой частцы свету» **(Сталін).**

Вялікі Сталін з уласцівай яму геніяльнасцю і мудрасцю ярка вызначыў пяць асноўных асаблівасцей праекта новай Канстытуцыі СССР.

Па-першае:

«... Праект новай Канстытуцыі прадстаўляе сабой вынік пройдзенага шляху, вынік ужо здабытых заваяванняў. Ён з'яўляецца, стала быць, рэгістрацыяй і заканадаўчым замацаваннем таго, што ўжо здабыта і заваявана на справе».

Па-другое:

«... Галоўную аснову праекта новай Канстытуцыі СССР складаюць прынцыпы соцыялізма, яго асноўныя ўстоі, ужо заваява

ныя і ажыццёўленыя: соцыялістычная ўласнасць на зямлю, лясы, фабрыкі, заводы, і іншыя прылады і сродкі вытворчасці; ліквідацыя эксплаататацыі і эксплаататарскіх класаў; ліквідацыя галечы большасці і раскошы меншасці; ліквідацыя беспрацоўя; праца, як абавязак і доўг гонару кожнага працаздольнага грамадзяніна па формуле: «хто не працуе, той не есць». Права на працу, г. зн. права кожнага грамадзяніна на атрыманне гарантаванай работы: права на адпачынак; права на асвету, і т. д. і т. п. Праект новай Канстытуцыі апіраецца на гэтыя і падобныя ім устоі соцыялізма. Ён іх адлюстроўвае, ён іх замацоўвае ў законадаўчым парадку».

Па-трэцяе:

«У адрозненне ад буржуазных канстытуцый праект новай Канстытуцыі СССР зыходзіць з таго, што ў грамадстве няма ўжо больш антаганістычных класаў, што грамадства складаецца з двух прыязных адзін аднаму класаў, з рабочых і сялян, што ва ўладзе стаяць гэтыя іменна працоўныя класы, што дзяржаўнае кіраўніцтва грамадствам (дыктатура) належыць рабочаму класу, як перадавому класу грамадства».

Па-чацвертае, наша Канстытуцыя па сваёй сутнасці і мэтанакіраванасці глыбока інтэрнацыянальна. Кожны пункт, кожнае слова яе гучыць пролетарскім інтэрнацыяналізмам. Яна зыходзіць з роўнапраўя ўсіх рас і нацый. Праект Канстытуцыі:

«... зыходзіць з таго, што ўсе нацыі і расы, незалежна ад іх мінулага і цяперашняга становішча, незалежна ад іх сілы або слабасці,—павінны карыстацца аднолькавымі правамі ва ўсіх сферах гаспадарчага, грамадскага, дзяржаўнага і культурнага жыцця грамадства».

Па-пятае, праект новай Канстытуцыі—гэта паслядоўны і да канца вытрыманы дэмакратызм. У той час як буржуазныя канстытуцыі, абвяшчаючы правы грамадзян, цэлым радам агаворак фактычна зводзяць гэтыя правы на нішто,—наша сталінская Канстытуцыя чотка і ясна ўзаконьвае правы грамадзян і гарантуе іх ажыццяўленне. У нашай Канстытуцыі няма ніякіх агаворак і абмежаванняў. Па нашай Канстытуцыі няма актыўных або пасіўных грамадзян. Канстытуцыя СССР·

«... не прызнае розніцы ў правах паміж мужчынамі і жанчынамі, «аседлымі» і «неаседлымі», маёмнымі і немаёмнымі, адукаванымі і неадукаванымі. Для яго ўсе грамадзяне роўны ў сваіх правах».

У адрозненне ад буржуазных канстытуцый, якія абмяжоўваюцца фіксацыяй фармальных правоў грамадзян, не гарантуюць нічым ажыццяўлення гэтых правоў, наша сталінская Канстытуцыя не толькі фіксуе, але і гарантуе ажыццяўленне гэтых правоў. Совецкая ўлада ў сваёй новай Канстытуцыі:

«... не проста агалашае дэмакратычныя свабоды, але і забяспечвае іх у законадаўчым парадку вядомымі матар'яльнымі сродкамі. Таму зразумела, што дэмакратызм праекта новай Канстытуцыі з'яўляецца не «звычайным» і «агульнапрызнаным» дэмакратызмам наогул, а дэмакратызмам **соцыялістычным»**.

Сталінская Канстытуцыя ёсць дакумент сусветна-гістарычнага значэння, якога яшчэ не бачыла чалавецтва. Яна не абмяжоўваецца фіксацыяй фармальных правоў грамадзян, але пераносіць цэнтр цяжару на пытанні аб сродках ажыццяўлення правоў грамадзян.

Буржуазныя псы і іх прыхвасні ўсямерна імкнуліся апарочыць праект новай Канстытуцыі СССР. Вялікі Сталін з уласцівай яму геніяльнасцю даў сакрушальны адпор, паказаў усю нікчэмнасць, тупасць розуму «крытыкаў» з фашысцкага лагеру і іх агентаў.

Вялікі Сталін ярка намаляваў рэзкую розніцу, якая існуе паміж нашай Канстытуцыяй і канстытуцыямі буржуазных краін. Ён ускрыў усю фальш буржуазных канстытуцый, якія замацоўваюць буржуазны лад, увекавечваюць эксплаатацыю чалавека чалавекам. У капіталістычных краінах канстытуцыі пішуцца для буржуазіі і яе выгад. Фіксуючы фармальныя правы грамадзян, буржуазныя канстытуцыі не прадугледжваюць шляхоў і сродкаў для ажыццяўлення гэтых правоў, яны не даюць грамадзянам ніякіх гарантый. Словы свабода, роўнасць, брацтва у буржуазных канстытуцыях ёсць простая фальш, бо не можа быць роўнасці і свабоды, калі існуюць эксплаататары і эксплаатуемыя, калі на адным полюсе квітнеюць раскоша і лішкі, а на другім—галеча, голад і павольнае, пакутнае выміранне.

Фашызм знішчыў поўнасцю самыя элементарныя асновы дэмакратыі. Сякера, шыбеніца, турма—вось сродкі, якімі фашызм імкнецца ўтрымаць уладу ў сваіх руках.

Увесь свет поўны водгукаў на геніяльны даклад вялікага Сталіна. Радуюцца нашы прыяцелі і дружна, цёпла вітаюць словы мудрага правадыра. Шалеюць ворагі, але нават і яны не могуць замоўчваць гістарычную важнасць сталінскай Канстытуцыі. Большасць газет свету ўжо 26 лістапада змясціла водгукі на даклад таварыша Сталіна. Англійскія газеты, нават «Дэйлі экспрэс», вядомая сваімі непрыязнымі адносінамі да СССР, змясціла партрэт таварыша Сталіна і вытрымкі з яго даклада. У рэдакцыйным артыкуле яна адзначае: «Канстытуцыя СССР будзе садзейнічаць развіццю прыязных адносін паміж СССР і ўсімі дэмакратычнымі дзяржавамі».

Французскія, амерыканскія, чэхаславацкія, аўстрыйскія, польскія, латвійскія, грэчаскія, бельгійскія і іншыя газеты адзначаюць даклад таварыша Сталіна. Так, большасць грэчаскіх газет спыняе ўвагу на адказе таварыша Сталіна германскім фашысцкім крытыкам і падкрэслівае яго словы аб тым, што новая Канстытуцыя СССР будзе маральнай дапамогай і рэальным падспор'ем для ўсіх тых, хто вядзе барацьбу з фашысцкім варварствам.

Комуністычная газета Бельгійскай компартыі «Вуа дзюпепль» піша:

«VIII з'езд Советаў СССР з'яўляецца вынікам велізарных перамог соцыялізма, якія назаўсёды запісаны ў Канстытуцыі. Пролетарская рэволюцыя працягвае ісці наперад; яна змяце са свайго шляху ўсякага, хто ёй супраціўляецца».

Звыш пяці месяцаў працоўныя вялікага СССР абмяркоўвалі праект сталінскай Канстытуцыі. З пачуццем велізарнай любві і беззаветнай адданасці нашай комуністычнай партыі і вялікаму Сталіну працоўныя ўхвалялі пункт за пунктам. За гэты час сабрана значная колькасць дапаўненняў і паправак да Канстытуцыі.

Вялікі Сталін з бацькаўскай клапатлівасцю і любоўю вывучыў кожную прапанову, кожную заўвагу, і па-большэвіцку даў ім аналіз.

Важнейшыя з паправак і заўваг працоўных наш правадыр прапанаваў уключыць у Канстытуцыю.

Шматмільённы беларускі народ, разам з народамі вялікага СССР, абмеркаваў і аднадушна адобрыў праект сталінскай Канстытуцыі. Беларуская Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка—дзецішча вялікай Окцябрскай рэволюцыі ў СССР. Яна выпеставана і вырашчана вялікім правадыром чалавецтва—Сталіным. Зерні, пасеяныя вялікім Сталіным, знайшлі ўдзячную глебу ў беларускім народзе. Беларусь з адсталай, забітай, прыгнечанай калоніі рускага самадзяржаўя, пры дапамозе пролетарыяў усяго СССР і ў асаблівасці гераічнага рускага пролетарыята, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і мудрага Сталіна пераўтварылася ў квітнеючую ордэнаносную рэспубліку.

Многапакутны ў мінулым беларускі народ, дзякуючы совецкай уладзе, знайшоў шчаслівае радаснае жыццё. Ён бязмежна удзячны і да канца адданы вялікай комуністычнай партыі, правадыру і настаўніку народаў—таварышу Сталіну. Роднае, дарагое, любімае імя Сталіна не сходзіць з вуснаў беларускага народу. Гэта любоў, бязмежная адданасць ярка выражаны ў пісьме беларускага народу правадыру:

«Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў,
Ўзнімае народы нявольных краін.
... Твой вобраз, як пакліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас—пра цябе».

Сталінская Канстытуцыя адкрывае новую эпоху ў гісторыі чалавецтва.

Сталінская Канстытуцыя—гэта дакумент, аб якім марылі і марыць мільёны чэсных людзей капіталістычных краін.

Сталінская Канстытуцыя—дакумент перамогі соцыялізма, дакумент разгорнутага да канца совецкага дэмакратызма, хартыя вызвалення чалавецтва ад уціску капіталістычнага рабства.

Сталінская Канстытуцыя—гэта сцяг, вакол якога збіраюцца мільёны працоўных капіталістычных краін для барацьбы з фашызмам за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне. Яна з'яўляецца праграмай дзеянняў для народаў капіталістычных краін.

«У рэзультаце пройдзенага шляху барацьбы і лішэнняў прыемна і радасна мець сваю Канстытуцыю, якая трактуе аб пладах нашых перамог. Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты... Гэта ўзбройвае духоўна наш рабочы клас, наша сялянства, нашу працоўную інтэлігенцыю. Гэта рухае наперад і ўзнімае пачуццё законнай гордасці. Гэта ўмацоўвае веру ў свае сілы і мабілізуе на новую барацьбу для заваявання новых перамог комунізма» **(Сталін).**

Наша прыгожая сонечная радзіма, пад мудрым кіраўніцтвам Сталіна, з дня ў дзень расце і мацнее. Жыць стала лепш, жыць стала

весялей. Кожны грамадзянін Совецкага Саюза—бязмежны патрыёт сваёй радзімы, да канца адданы барацьбіт за справу Леніна—Сталіна.

Сталінская Канстытуцыя натхняе працоўных на новыя і новыя перамогі. Няма большага шчасця і радасці, як жыць і працаваць пад сталінскім кіраўніцтвам.

Узброіўшыся новай Канстытуцыяй, працоўныя СССР, пад мудрым кіраўніцтвам партыі і вялікага Сталіна, пойдуць да новых і новых перамог. Чотка выконваць абавязкі грамадзяніна СССР, мацаваць абароназдольнасць нашай краіны, да канца разграміць асколкі трацкісцка-зіноўеўскай банды, правых апартуністаў, нацыяналістаў і ўсіх ворагаў народу, зорка аберагаць свяшчэннасць і недатыкальнасць соцыялістычных граніц, падзесяцярыць рэволюцыйную пільнасць—важнейшыя задачы і абавязкі кожнага грамадзяніна СССР.

Даклад таварыша Сталіна з'яўляецца дакументам велізарнай гістарычнай важнасці. Давесці яго да кожнага рабочага, калгасніка, служачага, глыбока вывучыць яго—пярвейшы абавязак партыйных арганізацый.

---

# ГАДАВІНА ГІСТАРЫЧНАЙ НАРАДЫ

Год таму назад у Крэмлі разам з кіраўнікамі партыі і ўрада адбылася першая Ўсесаюзная нарада стаханаўцаў, паслужыўшая магутным штуршком у разгортванні стаханаўскага руху, які ператварыўся ў масавы рух працоўных нашай краіны за больш высокія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва.

Першая гадавіна гэтай нарады наватараў у нашай прамысловасці ўзбагацілася новым сусветна-гістарычнай важнасці дакументам—дакладам правадыра і арганізатара соцыялістычных перамог таварыша Сталіна на VIII Усесаюзным надзвычайным з'ездзе Советаў «Аб праекце новай Канстытуцыі Саюза ССР».

У сваім геніяльным дакладзе вялікі рулявы краіны соцыялізма з выключнай яркасцю паказаў тыя соцыяльна-эканамічныя зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне за перыяд ад 1924 па 1936 год, у выніку чаго яна ператворана ў непрыступную крэпасць соцыялізма. З вуснаў вялікага Сталіна ўвесь свет пачуў дэкларацыю правоў совецкага народу, заваяваных і запісаных у Канстытуцыі Саюза ССР, якая з'яўляецца плодам перамогі соцыялізма ў нашай краіне, плодам геніяльнага розуму мудрага Сталіна.

Вялікая Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя разам са звяржэннем капіталістычнай улады ліквідавала і панаванне прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, якая грунтавалася на жудасных формах прыгнечання і эксплаатацыі мільёнаў мас працоўнага насельніцтва ў карысць кучкі капіталістаў, фабрыкантаў, памешчыкаў, банкіраў. На змену капіталістычным формам вытворчасці і прыватнай ініцыятывы прышлі новыя, соцыялістычныя формы арганізацыі працы і вытворчасці, прышла ініцыятыва грамадская, соцыялістычная, накіраваная на ўздым прадукцыйных сіл перамогшага народу.

У артыкуле «Вялікі пачын» Ленін пісаў:

> «Прадукцыйнасць працы, гэта, у канчатковым выніку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу... Капіталізм можа быць канчаткова пераможаны і будзе канчаткова пераможаны тым, што соцыялізм стварае новую, значна больш высокую прадукцыйнасць працы» *).

У першых комуністычных суботніках, арганізаваных у 1919 годзе па ўласнай ініцыятыве рабочых, геній В. І. Леніна ўбачыў праяўленне велізарнай рэволюцыйнай свядомасці і зародак шырокага соцыялістычнага спаборніцтва сярод рабочых мас.

> «Комуністычныя суботнікі»,—пісаў Ленін,—іменна таму маюць велізарнае гістарычнае значэнне, што яны паказваюць нам свя-

*) т. XXIV, ст р. 342.

домы і добраахвотны пачын рабочых у развіцці прадукцыйнасці працы, у пераходзе да новай працоўнай дысцыпліны, у творчасці соцыялістычных умоў гаспадаркі і жыцця» *).

Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, якое разгарнулася сярод шырокіх мас рабочых у барацьбе за выкананне першай пяцігодкі за чатыры гады, з'яўляецца працягам і развіццём таго «вялікага пачыну», які выразіўся ў першых комуністычных суботніках.

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і вялікага прадаўжальніка справы Леніна—таварыша Сталіна—гэты магутны ўздым вытворчага энтузіязму, у першую і ў пачатку другой пяцігодкі, на аснове небывалага росту свядомасці рабочага класа і працоўных мас нашай краіны, ператварыўся ў масавы рух.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, з чыім імем звязаны ўсе перамогі соцыялістычнага будаўніцтва, партыя арганізавала і ўзначаліла вытворчы энтузіязм шырокіх мас працоўных, ператварыла соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў рух мільёнаў.

Ацэньваючы ролю і значэнне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, таварыш Сталін, з уласцівай яму геніяльнасцю, у сваім дакладзе на XVI партз'ездзе адзначыў:

> «Самае выдатнае ў спаборніцтве заключаецца ў тым, што яно ўтварае карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага брэмені, якою яна лічылася раней, у справу **гонару,** у справу **славы,** у справу **доблесці** і **геройства»** **).

Словы правадыра і арганізатара перамог соцыялізма ў нашай краіне апраўдаліся ўсім далейшым ходам соцыялістычнага будаўніцтва.

На аснове створанай першаю і пачаткам другой пяцігодкі тэхнікі і вырашчаных партыяй людзей, аўладаўшых гэтай тэхнікай, год таму назад зарадзіўся новы рух вытворчага энтузіязму совецкага народу. Ударам адбойнага молата Алексей Стаханаў у вугальнай шахце Донбаса імя Сталіна «Цэнтральнае Ірміно» паклаў пачатак стаханаўскаму руху. Вестка аб стаханаўскіх рэкордах з хуткасцю маланкі абляцела ўсю нашу вялікую краіну і з небывалаю сілай узняла вытворчую актыўнасць шырокіх мас. Крываносаўцы на соцыялістычным транспарце, сметанінцы ў скурабутковай прамысловасці, бусыгінцы ў металічнай, вінаградаўцы ў тэкстыльнай сталі ў рады стаханаўцаў—барацьбітоў за больш высокія нормы і прадукцыйнасць працы.

Сталінскія пяцігодкі, стварыўшыя на абломках старой, адсталай і бяссільнай Расійскай імперыі магутную індустрыяльную соцыялістычную краіну з перадавою тэхнікай, спрыялі ўзнікненню наспеўшага ў народзе стаханаўскага руху.

Год таму назад, у лістападзе, Цэнтральны Камітэт нашай партыі і Соўнарком Саюза ССР па ініцыятыве таварыша Сталіна склікалі першую нараду стаханаўцаў прамысловасці. З трыбуны гэтай гістарычнай нарады на ўвесь свет прагучэла незабываемая прамова таварыша Сталіна. Геніяльны розум правадыра, вялікага мысліцеля, творцы і арганізатара перамог соцыялізма ў нашай краіне, распазнаў у гэтым толькі што зарадзіўшымся руху лепшых прадстаўнікоў рабочага класа, магутную сілу, якая рухае наперад тэхнічны працэс, узнімае

---

*) т. XXIV, стар. 3-9.

**) Пытанні ленінізма, выд. X, стар. 393.

соцыялістычнае спаборніцтва на вышэйшую ступень і падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму.

«Хіба не ясна,—падкрэсліваў таварыш Сталін,—што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?»

З часу першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў прашоў год. За гэты час поўнасцю пацвердзілася правільнасць празарлівай сталінскай характарыстыкі. Натхняемыя геніем Сталіна, перадавыя рабочыя і калгаснікі на працягу першага стаханаўскага года ўзнялі прадукцыйнасць працы і выкарыстанне тэхнікі на нябачаную ў гісторыі вышыню. Няма такой галіны прамысловасці, чыгуначнага транспарту, сельскай і іншых галін народнай гаспадаркі, дзе стаханаўскія метады працы не разбілі-б звычайныя ўяўленні аб тэхнічных нормах.

Спраўдзіліся словы любімага правадыра і натхніцеля соцыялістычнага будаўніцтва таварыша Сталіна аб тым, што на даным этапе «кадры вырашаюць усё». Выраслі новыя людзі сталінскай эпохі, ауладаўшыя сучаснай тэхнікай вытворчасці. На фабрыках і заводах, на новабудоўлях і шахтах, на чыгуначным транспарце і ў МТС, у соўгасах і калгасах—усюды стаханаўскі рух апракінуў старыя праектныя магутнасці і нормы выпрацоўкі.

Распрацаваныя на падставе рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) новыя тэхнічныя нормы і новыя праектныя магутнасці нашых заводаў і фабрык з'явіліся новым магутным штуршком на барацьбу за далейшае павышэнне кваліфікацыі і тэхнічных ведаў рабочых, на далейшае асваенне тэхнікі і разгортванне стаханаўскага руху.

Рэкорды, пастаўленыя перадавымі стаханаўцамі ў апошнія месяцы, паказваюць, што і новыя нормы выпрацоўкі, новыя праектныя магутнасці станкоў і агрэгатаў не з'яўляюцца мяжой. Стаханаўскі рух з кожным днём выяўляе ўсё новыя і новыя вытворчыя рэзервы.

28 кастрычніка стаханавец-сталевар Марыупальскага завода імя Ільіча тав. Макар Мазай паставіў новы выдатны рэкорд, якім перакрыў існуючыя сусветныя рэкорды. Тав. Мазай дабіўся выплаўкі 15 тон сталі з квадратнага метра пода печы Мартэна, тады як лепшыя майстры Германіі даюць у сярэднім ад 5,2 да 7,6 тоны сплаву.

Стаханавец усесаюзнай вугальнай качагаркі—Донбаса—тав. Бараннікаў (шахта «За індустрыялізацыю») устанавіў у кастрычніку сусветны рэкорд выпрацоўкі ўрубавой машыны: 21.000 тон вугалю. Сярэдняя месячная выпрацоўка ўрубавых машын Рурскага басейна складае 2.600, у Англіі—2.000 тон.

Стаханавец горкаўскага аўтазавода імя Молатава Тав. Фаустаў у верасні перакрыў апошні рэкорд Бусыгіна—1.676 валоў. Ён адкаваў за змену 1.774 валы пры новай норме 1.100. 31 кастрычніка брыгада Фаустава ўстанавіла новы рэкорд коўкі шасцяронак каробкі хуткасцей, даўшы 2.705 штук пры новай норме 1.200.

Падобныя рэкорды ўстаноўлены перадавымі стаханаўцамі многіх іншых галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі як па ўсяму Совецкаму Саюзу, так і ў БССР. Лепшыя стаханаўцы тт. Скабло, Рушко, Лучкоўскі, Гладышаў, Кісялёва і многія іншыя вядомы не толькі

ў БССР, але і ва ўсім Совецкім Саюзе. Лік стаханаўцаў з кожным днём множыцца. Усё гэта гаворыць аб тым, што ў нашай прамысловасці, сельскай гаспадарцы, на транспарце і т. д. ёсць велізарныя рэзервы новых вытворчых магчымасцей, што няма граніц далейшаму разгортванню стаханаўскага руху, завяванню тэхнічных вышынь.

Як першыя ўдарныя брыгады ў 1928—1929 гг. азнаменавалі сабою пафас новага будаўніцтва, так і стаханаўскі рух знамянуе сабою пафас асваення новай тэхнікі на фабрыках, заводах, у соцыялістычным земляробстве.

Першы год стаханаўскага руху паказаў, што совецкая тэхніка на чале з аўладаўшымі ёю людзьмі здольна рабіць цуды. Слова «стаханавец» у нашай краіне стала сімвалам новага чалавека сталінскай эпохі. Па стаханаўцу раўняюцца масы рабочых і калгаснікаў, з яго бярэ прыклад наша моладзь і старыя рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы. Стаханавец—ганаровае званне. Яно сведчыць аб высокім культурна-тэхнічным узроўні, аб высокай кваліфікацыі, аб майстэрстве і ўменні выкарыстоўваць сучасную перадавую тэхніку.

Стаханаўскі рух выражае свядомае імкненне працоўных соцыялістычнай дзяржавы ўкласці ў соцыялістычнае будаўніцтва свой энтузіязм, творчую ініцыятыву, усе свае сілы, веды і здольнасці. Ён, па меткаму выражэнню таварыша Сталіна, заклікан утварыць у нашай прамысловасці вытворчую рэволюцыю; даць больш высокую прадукцыйнасць працы, чым пры капіталізме, зрабіць нашу соцыялістычную краіну багацейшай у свеце.

Гістарычная прамова таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў з выключнаю сілай паказала працоўным усяго свету, што толькі пролетарская рэволюцыя, толькі дыктатура пролетарыята пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі адчыняе шлях неабмежаванаму развіццю грамадскай ініцыятывы, стварае ўмовы для ўздыму вытворчых сіл і прадукцыйнасці працы на такую вышыню, якой не ведае гісторыя чалавечага грамадства.

Гэты год прынёс далейшы ўздым нашай цяжкай прамысловасці. Уся прадукцыя машынабудаўніцтва і металаапрацоўкі за 9 месяцаў 1936 года дала 43 проц. прыросту, а паасобныя галіны цяжкай прамысловасці—яшчэ больш. Так, па выпуску паравозаў прырост прадукцыі за 10 месяцаў складае 71 проц., па таварных вагонах—356 проц. (16.934 вагоны замест 3.710), па камбайнах—105 проц., па грузавых аўтамабілях — 63 проц. і т. д. Станоўчыя вынікі дало ўжо спаборніцтва металургаў за 60.000 тон сталі замест 46.200 тон па плану і за 45.000 тон пракату, замест 36.000 тон.

Велізарных поспехаў дабіўся соцыялістычны чыгуначны транспарт пад умелым кіраўніцтвам свайго наркома тав. Кагановіча. Многія фабрыкі і заводы харчовай прамысловасці перавыконваюць свае планы. Вялікі перамогі ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, лёгкай і мясцовай прамысловасці.

Значнымі дасягненнямі сустрэла гадавіну гістарычнай прамовы таварыша Сталіна і прамысловасць БССР. Рабочыя Беларусі ўзялі абавязацельства не толькі выканаць промфінплан, але і даць соцыялістычнай краіне на 131,8 млн. руб. звышпланавай прадукцыі. Цэлы рад фабрык і заводаў к гадавіне першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў выканаў і перавыканаў гадавы промфінплан. Віцебскі завод «Чырвоны металіст» імя Кірава выканаў гадавы план к 11 ліпеня. Калектыў рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў узяў абавязацельства выпусціць к канцу года на 1.200 тыс. руб. прадукцыі звыш плана. Рэчыц-

кая запалкавая фабрыка «Х Окцябр» выпускае зараз 4.200 скрынак запалак у суткі, замест ранейшых 2.500 і 13 лістапада закончыла выкананне гадавога плана. Фанерны завод імя Галадзеда к 13 лістапада выканаў гадавы план на 109 проц. Падобных паказчыкаў дабіўся цэлы рад заводаў і фабрык як рэспубліканскай, так і мясцовай прамысловасці.

Не менш выдатных поспехаў на аснове разгортвання стаханаўскага руху дасягнула і соцыялістычная сельская гаспадарка нашай ордэнаносцай рэспублікі. Не гледзячы на неспрыяльныя кліматычныя ўмовы, рад перадавых калгасаў і брыгад паставіў рэкорды ўраджайнасці лёну, бульбы, зернавых. Не мала стаханаўцаў-трактарыстаў выпрацавалі за сезон больш 1000 га на трактар.

Абмеркаванне праекта сталінскай Канстытуцыі выклікала новую хвалю ўздыму вытворчага энтузіязму і росту стаханаўцаў.

Лік стаханаўцаў к гадавіне гістарычнай нарады па ўсёй прамысловасці нашай Рэспублікі складае 32,9 проц. агульнага ліку рабочых прамысловасці. У металапрамысловасці 35,1 проц. стаханаўцаў, у дрэваапрацоўчай—38,2 проц., скуранай—54,3, швейнай 31,9 і харчовай 33,1. У соцыялістычнай сельскай гаспадарцы БССР налічваюцца тысячы стаханаўцаў—барацьбітоў за сталінскі ўраджай, за высокую прадукцыйнасць жывёлагадоўлі, максімальнае выкарыстанне навейшай сельскагаспадарчай тэхнікі і т. д.

У вялікім Совецкім Саюзе няма цяпер такой галіны соцыялістычнага будаўніцтва, у якой стаханаўскі рух не пусціў-бы глыбока свае карэнні.

* * *

Таварыш Сталін на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў адзначыў прычыны, якія выклікалі зараджэнне і хуткае пашырэнне стаханаўскага руху, заваяванага ўсім папярэднім ходам соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта, па-першае,—карэннае палепшанне матар'яльнага становішча рабочых: «Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца»; па-другое, адсутнасць эксплаатацыі ў Совецкай краіне; па-трэцяе, наяўнасць у нас новай тэхнікі, створанай першай і пачаткам другой пяцігодкі, і, па-чацвертае, наяўнасць людзей, якія аўладалі новай тэхнікай і з кожным днём усё лепш і лепш яе асвойваюць. Гэтыя прычыны з усё ўзрастаючай сілай садзейнічаюць далейшаму росту і паглыбленню стаханаўскага руху.

1936 год з'явіўся годам далейшага палепшання матар'яльнага добрабыту працоўных нашай краіны. З разгортваннем стаханаўскага руху ўзрастае заработак, шырыцца спажыванне прадуктаў, расце попыт на высокаякасныя прадукты харчавання і прамысловасці, на розныя кнігі, мастацкую літаратуру, радыё і іншыя рэчы культурнага ўжытку.

Практыка першага стаханаўскага года ўшчэнт разбіла злосныя намеры ворагаў соцыялізма апошліць выдатны рух совецкага народу. Заядлыя ворагі совецкай улады імкнуліся даказаць, што стаханаўскі рух і ўвядзенне новых норм пагоршыць матар'яльнае становішча рабочых, створыць беспрацоўе і т. д. Уся гэта агідная хлусня рабілася для таго, каб перашкодзіць нашай барацьбе за павышэнне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Колькасць рабочых, занятых у прамысловасці, на транспарце і іншых галінах народнай гаспадаркі, не толькі не паменшылася, а наад-

варот—значна павялічылася. Узбагачанае стаханаўскімі метадамі работы жыццё савецкага народу стала яшчэ больш радасным, заможным, культурным і вясёлым.

* * *

Першая гадавіна ўсесаюзнай нарады стаханаўцаў—наватараў нашай прамысловасці—амаль супадае са скліканнем VIII надзвычайнага з'езда Саветаў СССР.

Рыхтуючыся да надзвычайнага з'езда саветаў, увесь савецкі народ, натхнёны вялікім Сталіным, з яшчэ большай энергіяй і энтузіязмам змагаўся за выкананне і перавыкананне плана 4-га года другой пяцігодкі.

На раённых з'ездах і XII надзвычайным з'ездзе Саветаў працоўныя нашай ордэнаноснай рэспублікі дэманстравалі сваю бязмежную любоў і адданасць любімаму правадыру і арганізатару соцыялістычных перамог—таварышу Сталіну, партыі большэвікоў і аднадушна адобрылі праект новай Канстытуцыі.

Нашы дасягненні к гадавіне першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў і гістарычнай прамовы таварыша Сталіна велізарны. Аднак многа яшчэ нам трэба зрабіць, каб ператварыць усе нашы фабрыкі і заводы, калгасы і соўгасы ў суцэльна стаханаўскія, дабіцца на ўсіх участках сапраўдных соцыялістычных метадаў працы.

Тав. Молатаў у газеце «Правда» ад 7 лістапада адзначае:

> «Дасягнутымі поспехамі мы не можам задаволіцца. Мы яшчэ далёкі ад сапраўднай соцыялістычнай прадукцыйнасці працы. Больш таго. Мы не дагналі яшчэ па прадукцыйнасці працы, не гаворачы ўжо аб якасці прадукцыі, добра арганізаваных прадпрыемстваў капіталістычных краін. Сярэдняя выпрацоўка савецкага рабочага пакуль што ніжэй сярэдняй выпрацоўкі рабочага ў перадавых па тэхніцы капіталістычных краін.
>
> Значыць, нам яшчэ трэба многа папрацаваць над арганізацыяй прамысловасці, над арганізацыяй гаспадаркі, над сабою».

Наша задача—дабіцца, каб сусветныя рэкорды перадавых стаханаўцаў сталі штодзеннымі нормамі выпрацоўкі ўсіх рабочых рознастайных галін нашай народнай гаспадаркі. А для гэтага неабходна многа працаваць над далейшым павышэннем кваліфікацыі, над уздымам прадукцыйнасці працы, асваеннем тэхнічных магутнасцей і новых норм выпрацоўкі, уцягненнем усёй масы рабочых і калгаснікаў у стаханаўскі рух.

Наша рэспубліка ў гэтай галіне, што трэба прызнаць з усёй большэвіцкай самакрытычнасцю, мае яшчэ буйнейшыя недахопы. Яшчэ значная частка рабочых не асвоіла новых норм выпрацоўкі. Так, напрыклад, у адной толькі мясцовай прамысловасці не асвоіла новыя нормы каля 7.000 рабочых. Па ўсёй прамысловасці 67,1 проц. рабочых не ахоплена стаханаўскім рухам. Гэта сведчыць аб тым, што не ўсе партыйныя, профсаюзныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы ўдзяляюць патрэбную ўвагу арганізацыі тэхнічнай вучобы, барацьбе за асваенне новых норм і ўцягненне ў стаханаўскі рух шырокіх мас рабочых.

Паасобныя прадпрыемствы БССР ганебна адстаюць у выкананні плана, асваенні новых норм і разгортванні стаханаўскага руху. На віцебскай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» яшчэ не асвоілі новых норм 1.779 рабочых, на фабрыцы «КІМ»—2.378 і т. д. На фабрыцы «КІМ» дзе працуе больш 7.000 рабочых, толькі 1.331 з'яўляюцца ста-

ханаўцамі. На фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» працуе больш 4.000 рабочых, а стаханаўцаў толькі 934 чал. У адставанні раду буйнейшых прадпрыемстваў Віцебска вінаваты ў першую чаргу партыйныя, профсаюзныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы, якія не выканалі ўказанняў таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б.

Абсталяваныя навейшай тэхнікай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ» і рад іншых у найкарацейшы тэрмін павінны ліквідаваць сваё адставанне. Партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў, райкомы і гаркомы партыі абавязаны дабіцца, каб усе прадпрыемствы ордэнаноснай БССР сталі ў рады перадавых прадпрыемстваў Совецкага Саюза.

Толькі большэвіцкая арганізацыя тэхнічнай вучобы, павышэнне кваліфікацыі стаханаўцаў і ўсіх рабочых, добрая пастаноўка масавай палітвыхаваўчай работы сярод рабочых, канкрэтнае кіраўніцтва кожным цэхам, агрэгатам, станком, зменай, брыгадай забяспечаць далейшы рост і разгортванне стаханаўскага руху. Вопыт і практыка работы перадавых стаханаўцаў павінны стаць набыткам усёй масы рабочых і калгаснікаў, трактарыстаў і вадзіцеляў машын.

Няўхільна выконваючы ўказанні таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, даб'емся далейшых поспехаў, дагонім і перагонім у найкарацейшы тэрмін тэхнічна высока развітыя капіталістычныя краіны.

* * *

Гістарычная прамова таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў з'яўляецца важнейшым палітычным і тэарэтычным дакументам сталінскай эпохі, бо ён даў працоўным нашай краіны і ўсяго свету новую перспектыву, паказаў шлях да вырашэння сусветна-гістарычнай задачы—пабудовы комуністычнага грамадства.

Натхнёныя гістарычнаю прамовай таварыша Сталіна на VIII надзвычайным з'ездзе Советаў і сталінскай Канстытуцыяй, безупынна змагаючыся за ажыццяўленне яго ўказанняў, рухаючы наперад стаханаўскі рух, развіваючы творчую энергію працоўных мас нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, на аснове цеснай дружбы і брацтва паміж усімі народамі СССР—забяспечым новыя сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма.

**Н. М. Галадзед**

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР

# Беларуская ССР напярэдадні VIII Усесаюзнага з'езда Советаў

Набліжаецца VIII з'езд Советаў Саюза ССР. Гэта гістарычны з'езд, які ўвойдзе ў гісторыю Вялікай Социялістычнай Рэволюцыі адною з самых яркіх старонак яе развіцця, бо з'езд Советаў збіраецца для таго, каб зацвердзіць вялікую сталінскую Канстытуцыю, у якой запісаны гіганцкія заваяванні социялізма.

Найшырэйшыя масы гераічнага совецкага народу з жывейшай цікавасцю абмяркоўваюць і глыбока вывучаюць праект сталінскай Канстытуцыі і аднадушна яго адабраюць. Асаблівую цікавасць да праекта Канстытуцыі праяўляюць працоўныя масы раней прыгнечаных нацыянальнасцей. Дзесяткі і сотні тысяч людзей у час абмеркавання праекта Канстытуцыі ўспамінаюць сваё мінулае жыццё, параўноўваюць яго з жыццём сучасным.

Працоўныя масы Беларускай ССР, так сама як і іншыя народы Саюза, праводзяць гэтыя параўнанні сучаснага з мінулым. Такія параўнанні з'яўляюцца натуральнымі і зразумелымі, бо мінулае беларускага народу—гэта галеча і голад, гэта патройны гнёт: палітычны, социяльна-эканамічны і нацыянальны, гэта бяспраўе, гэта панская кабала і опіум рымска-каталіцкай і праваслаўнай царквы. Пры рускім царызме былі беларусы, але не было Беларусі, а была калонія рускага царызма з «чартой аседласці» для яўрэйскага насельніцтва.

Беларускі народ упершыню ў гісторыі свайго развіцця набыў сваю дзяржаўнасць толькі ў выніку перамогі Вялікай Окцябрскай рэволюцыі, у выніку перамогі пролетарскай дыктатуры.

Чым глыбей заглядваеш у гістарычнае мінулае, тым больш велічна ўзвышаецца над гісторыяй вякоў вялікая Канстытуцыя Саюза ССР і яе вялікі творца таварыш Сталін. Кожны грамадзянін нашай магутнай краіны Советаў, да якой-бы нацыянальнасці ён ні належаў, адчувае сябе поўнапраўным членам вялікай сям'і народаў СССР, ён разумее, што яго правы абараняюцца сталінскай Канстытуцыяй.

Беларуская ССР, як самастойная рэспубліка, створана партыяй Леніна—Сталіна, а непасрэдным яе творцам і арганізатарам з'яўляецца таварыш Сталін. Дастаткова заглянуць у гістарычныя дакументы, каб убачыць непасрэдную гістарычную ролю таварыша Сталіна ў справе стварэння Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі і Беларускай ССР. З гэтых гістарычных дакументаў відаць, як уважліва, крапатліва і клапатліва працаваў таварыш Сталін над арганізацыяй БССР і КП(б)Б.

У кароткім артыкуле не прадстаўляецца магчымым прывесці ўсе дакументы. Аб іх яшчэ многа прыдзецца пісаць і гаварыць пры напісанні гісторыі КП(б)Б і гісторыі БССР. Напомню толькі некаторыя з гэтых дакументаў, якія захоўваюцца ў нашых партыйных архівах.

30 снежня 1918 года VI Заходняя канферэнцыя большэвікоў вынесла пастанову аб арганізацыі Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, а сама партыйная канферэнцыя, па прамому ўказанню таварыша Сталіна, перайменавала сябе ў Першы з'езд Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.

На падставе рашэння гэтай канферэнцыі 1 студзеня 1919 года быў апублікаван маніфест першага Рабоча-Сялянскага Ўрада Беларусі, якім Беларусь абвешчана самастойнай совецкай рэспублікай; гэтым-жа маніфестам буржуазная беларуская рада («БНР») абвешчана па-за законам, як арганізацыя контррэволюцыйная, створаная нямецкім імперыялізмам і яму прадаўшаяся.

Але ўсім гэтым афіцыйным пастановам і актам прадшэствавала паслядоўная і глыбокая арганізацыйна-палітычная работа таварыша Сталіна, які сістэматычна, крок за крокам, падрыхтоўваў стварэнне КП(б)Б і Беларускай ССР. Таварыш Сталін у той час неаднаразова выклікаў да сябе кіраўніка беларускіх большэвікоў і большэвікоў Заходняга фронту тав. А. Мяснікова і іншых работнікаў і даваў ім канкрэтныя ўказанні, як практычна арганізаваць Комуністычную партыю (большэвікоў) Беларусі і Беларускую рэспубліку. Ён растлумачваў палітычнае значэнне гэтага гістарычнага мерапрыемства.

Аб гэтым ёсць таксама і рад пісьмовых указанняў таварыша Сталіна, адрасаваных на імя тав. Мяснікова. Таварыш Сталін асабіста кіраваў фармаваннем першага ўрада Совецкай Беларусі і падбіраў у яго людзей. Ён вызначаў, цярпліва і настойліва растлумачваў задачы, якія ўставалі перад маладой Беларускай рэспублікай.

Некаторыя мясцовыя работнікі, якія адлюстроўвалі нацыяналістычныя ўплывы, памылкова падыходзілі да пытанняў, што стаялі перад БССР як у час, так і пасля яе ўтварэння. Таварыш Сталін цвёрда і настойліва патрабаваў ад усіх работнікаў дакладнага правядзення ў жыццё дырэктыў нашай партыі. Аб гэтым сведчыць і тэлеграма таварыша Сталіна некаторым мясцовым работнікам, якія, пад дауленнем нацыяналістаў і, памылкова разумеючы задачы ўтварэння БССР, дапускалі скажэнне дырэктыў партыі і тым самым ігралі на руку нацыяналістам.

Да Окцябрскай рэволюцыі ў Беларусі былі паасобныя большэвіцкія арганізацыі, а таксама і большэвіцкая арганізацыя Заходняга фронту, якая звязвалася непасрэдна з ЦК РСДРП(б). Напрыклад, існавала Менская партыйная арганізацыя і Менскі камітэт, кіруемы тт. Мясніковым і Фрунзе, Палеская партыйная арганізацыя і Палескі камітэт, кіруемы тав. Кагановічам Л. М., Бабруйская арганізацыя і інш. А ў 1918 годзе, пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, была створана партыйная арганізацыя—КП(б)Б, якая аб'яднала ўсіх большэвікоў, працаваўшых на тэрыторыі Беларусі, і атрымала сваё арганізацыйнае афармленне як нацыянальная партыйная арганізацыя на VI Заходняй партыйнай канферэнцыі, перайменаваўшай сябе ў Першы з'езд КП(б)Б.

Вельмі характэрнай з'яўляецца тая акалічнасць, што і назва партыйнай арганізацыі Беларусі—«КП(б)Б»—дана асабіста таварышом Сталіным, аб чым сведчаць дакументы, пісаныя таварышом Сталіным.

Усе ўпамянутыя, а таксама і іншыя сталінскія дакументы і ў далейшым будуць служыць беларускаму народу і членам КП(б)Б яркім

напамінаннем аб гістарычным пераходзе працоўных мас Беларусі з мінулага бяспраўнага быцця ў новы свет соцыялізма, аб пераходзе ад жыцця жабрацкага і забітага да жыцця радаснага, шчаслівага і заможнага.

У святле гэтых гістарычных фактаў яшчэ больш гнуснымі выглядаюць спробы беларускіх буржуазных нацыяналістаў і іх агентаў нацыянал-апартуністаў фальсіфікаваць гісторыю Беларусі і гісторыю КП(б)Б.

Контррэволюцыйныя беларускія нацыяналісты актыўна перашкаджалі стварэнню БССР; яны прадавалі беларускі народ нямецкім і польскім імперыялістам, імкнуліся ператварыць Беларусь у каланіяльны прыдатак заходнееўрапейскіх буржуазных дзяржаў (Германіі, Польшчы), але яны пралічыліся ў сваіх разліках, і іх стаўка аказалася бітай, як аказаліся бітымі і акупанты—нямецкія і польскія імперыялісты.

Будучы разгромленымі ў адкрытым баі, беларускія контррэволюцыйныя нацыяналісты, прымяняючы метад двурушніцтва ўжо ва ўмовах Совецкай Беларусі, імкнуліся працягнуць сваю варожую тэорыю аб тым, што «роданачальнікам беларускай дзяржаўнасці з'яўляецца Крывія» (тэорыя нацдэма Ластоўскага), а нацыянал-апартуністы ўнутры КП(б)Б, як прамыя суўдзельнікі контррэволюцыйных нацдэмаў, прапаведвалі аб тым, што «КП(б)Б бярэ свой пачатак ад Беларускай Соцыялістычнай Грамады» («БСГ»)—гэтай буржуазнай нацыяналістычнай арганізацыі, што быццам-бы «БСГ» з'яўляецца прабацькам комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.

Нажаль, гэтыя буржуазныя тэорыі хадзілі ў Беларусі доўгі час. Яны прапаведваліся так званымі «гісторыкамі»: Ігнатоўскім—гэтым двурушнікам і агентам дэфензівы, фашыстамі Ластоўскім, Трамповічам і не толькі імі. Знаходзілася нямала іх саюзнікаў з партбілетам у кішэні, якія прапаведвалі аб тым, што «рэволюцыя ў Беларусі прышла ад сахі», што «эканамічнаму ўкладу беларускага народу родственны ўклад заходніх буржуазных дзяржаў (Польшча, Літва і інш.), значыць Беларусі па дарозе з Захадам, а не з Масквой» і т. п.

Адсюль, г. зн. з гэтых антысовецкіх контррэволюцыйных тэорый, узнікла вядомая прышчэпаўшчына ў зямельным пытанні.

Спаборнічаючы з беларускімі нацдэмамі, яўрэйскія нацыяналістыбундаўцы са свайго боку працягвалі свае варожыя тэорыі аб тым, што «КП(б)Б бярэ свой пачатак ад бунда і што былыя бундаўцы складаюць асноўнае ядро КП(б)Б».

І тыя і другія, прыпісваючы сабе «рэволюцыйную» ролю, абяляючы контррэволюцыйнае мінулае сваіх буржуазных нацыяналістычных партый, забыліся аб тым, што іменна сярод гэтых катэгорый двурушнікаў знаходзілі сабе падтрыманне і апору тройчы ганебныя мярзаўцы, шкоднікі і тэрарысты—забойцы-трацкісты і зіноўеўцы. І трацкісты, і зіноўеўцы, і правыя апартуністы як раней, так і ў апошні час, знаходзілі сабе саюзнікаў іменна сярод беларускіх і яўрэйскіх нацыянал-апартуністаў, аб чым таксама сведчаць факты і апошняга часу.

Зрошчванне і змыканне трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў, правых апартуністаў, бундаўцаў і беларускіх нацыянал-апартуністаў у адзіную шарэнгу контррэволюцыі з'яўляецца характэрным фактам.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), кіруючыся ўказаннямі таварыша Сталіна, выкрыла гэтыя буржуазна-кулацкія тэорыі і на-галаву разграміла нацыяналістычную контррэволюцыю і яе ідэолагаў.

Аднак нельга думаць, што з нацыяналістычнымі ворагамі ўсё па-

кончана, што іх «тэорыі» не будуць мець рэцыдываў. Трэба мець на ўвазе, што падонкі нацыяналістычнай контррэвалюцыі паспрабуюць яшчэ сям-там праявіць сябе. Таму патрэбна максімальная рэвалюцыйная пільнасць; патрэбна ўсямерна авалодваць большэвіцкім майстэрствам—уменнем распазнаваць ворагаў, якой-бы маскай яны ні прыкрываліся.

Абмяркоўваючы праект сталінскай Канстытуцыі і выпрацоўваючы новую Канстытуцыю БССР, працоўныя масы Беларусі таксама з гонарам успамінаюць і гераічныя дні перамог на фронтах грамадзянскай вайны. Яны ўспамінаюць 1919 год, калі пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна вялі барацьбу за сваё вызваленне, выконваючы яго загады па Заходняму фронту, дзе таварыш Сталін з'яўляўся галоўным арганізатарам абароны Беларусі і яе сталіцы—горада Менска. Таксама ўспамінаюць і пераможнае вызваленне Беларусі ад польскай акупацыі.

Сталінскі план разгрому інтэрвентаў на галоўным напрамку—Паўднёвым і Паўднёва-Заходнім фронтах—уключаў у сябе задачу разгрому і польскіх акупантаў на Заходнім фронце, аб чым, у прыватнасці, сведчыць загад таварыша Сталіна па Паўднёва-Заходняму фронту ад 29 чэрвеня 1920 года, які прадпісвае разгарнуць наступленне па ўсяму фронту, у тым ліку і ў раёне Ельска, Мазыра, у раёне ракі Прыпяці і іншых участках Заходняга фронту. Тысячы рабочых і калгаснікаў Беларусі ўспамінаюць гэтыя гераічныя дні барацьбы за сваё вызваленне ад польскіх палкоўнікаў і памешчыкаў; яны адначасова выражаюць сваю любоў і адданасць вялікаму арганізатару перамог на ўсіх фронтах, стваральніку Беларускай ССР і другу беларускага народу, вялікаму Сталіну.

Аб гэтым сведчаць выказванні тысяч беларускіх рабочых і калгаснікаў пры абмеркаванні праекта сталінскай Канстытуцыі: калгаснік калгаса «Авангард» пагранічнага Капыльскага раёна В. П. Чэрных у сваім выступленні гаворыць: «У праекце сталінскай Канстытуцыі адлюстраваны велізарныя перамогі, дасягнутыя ў нашай краіне пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна. Калі пачнуцца выбары, я, як і ўсе працоўныя, першы свой голас падам за таварыша Сталіна, бо таварыш Сталін даў нам, беларускім сялянам, светлае, радаснае жыццё, ён клапоціцца аб нас, аб калгасніках, як родны бацька».

Праект новай Канстытуцыі БССР складзен у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй Саюза ССР. У гэтым яго непарушная аснова. У II артыкуле праекта Канстытуцыі БССР гаворыцца, што Беларуская ССР з'яўляецца састаўной і неадлучнай часткаю вялікага Саюза ССР на яго заходніх граніцах. Усе працоўныя БССР аднадушна заяўляюць, што яны грудзьмі будуць абараняць недатыкальнасць свяшчэнных граніц СССР. Калгаснік Гайка Міхаіл з Капыльскага раёна ў сваіх словах ярка адлюстроўвае волю ўсіх калгаснікаў Беларусі. Пры абмеркаванні Канстытуцыі ён заявіў: «Калі партыя і ўрад і першы маршал тав. Варашылаў паклічуць нас абараняць нашу дарагую радзіму, то мы, калгаснікі, заўсёды гатовы асядлаць калгасных коней і стаць на абарону савецкіх граніц. Мы ніколі не аддамо таго, што заваявалі пад кіраўніцтвам нашага роднага Сталіна».

Уся краіна Советаў сустракае VIII з'езд Советаў Саюза ССР велізарнымі дасягненнямі. Беларуская ССР за гады соцыялістычнага будаўніцтва ператварылася ў квітнеючую рэспубліку на заходніх граніцах Саюза ССР. Гаспадарка, культура, матар'яльнае становішча беларускага народу атрымалі гіганцкі размах у сваім развіцці і падняты на высокі ўзровень.

Шырокія масы беларускіх рабочых і сялян актыўна змагаюцца за стаханаўскія метады работы на фабрыках, заводах, на палях калгасаў і соўгасаў.

Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка поўнасцю вастаржэствавала, яна ў дзеянні, яна дала здзіўляючыя свае рэзультаты ва ўсіх праяўленнях народнай творчасці як у галіне вытворчасці, так і ў галіне культуры і мастацтва.

Беларуская ССР падыходзіць да з'езда Советаў з гіганцкімі поспехамі. Асноўныя гаспадарчыя работы 1936 года будуць поўнасцю завершаны. Промфінплан прамысловасці БССР па ўсіх наркаматах паспяхова выконваецца. Рабочыя Беларусі ўзялі на сябе абавязацельства промфінплан не толькі выканаць, але і перавыканаць і даць дадаткова, звыш зацверджанага ўрадам гадавога плана, прадукцыю на суму 131,8 млн. рублёў. Усяго па промфінплану 1936 года прадпрыемствамі Беларусі будзе выпрацавана прадукцыі на суму да 2 мільярдаў рублёў.

Гэтыя даныя сведчаць таксама аб велізарных поспехах індустрыялізацыі БССР, асабліва калі прыняць пад увагу, што Беларусь да Окцябрскай рэволюцыі не мела сапраўднай прамысловасці, і прадукцыя прамысловай вытворчасці ў 1913 годзе роўна была 99,9 млн. руб. у пераводзе на цэны 1926-27 г.

Уся прамысловасць Беларусі створана амаль нанава. Створана таксама і мясцовая апалавая база. Да рэволюцыі здабывалася ўсяго 14 тыс. тон торфу ў год, а ў бягучым годзе здабыта больш 2 млн. тон торфу, што складае 43 проц. усяго апалавага балансу рэспублікі.

Беларусь стала буйным цэнтрам варштатабудаўніцтва. Па вытворчасці варштатаў яна дае каля 10 проц. усёй прадукцыі Саюза ССР. Напрыклад, заводы Віцебска забяспечваюць аўтатрактарную прамысловасць Саюза некалькімі тыпамі шліфавальных варштатаў, якія яшчэ нядаўна імпартаваліся з-за граніцы. На гідратурбіны малой магутнасці (да 100 конскіх сіл), якія вырабляюцца на Бабруйскім заводзе для мясцовых гідрастанцый, паступаюць заказы з далёкага Узбекістана і іншых частак Саюза.

Створана вытворчасць ацэтона (растварыцель), які выпрацоўваецца з бульбы. Занава пастаўлена акулярная вытворчасць. Віцебская акулярная фабрыка з'яўляецца асноўнай фабрыкай для снабжэння аўтатрактарнай і авіяцыйнай прамысловасці.

Кафельныя пліткі, якія вырабляюцца на капыльскіх кафельных заводах, распаўсюджваюцца па ўсёй краіне; імі-ж абліцавана Маскоўскае метро. Здабываецца «крокус» з красачных жалезных руд для шліфавання оптыкі.

У Беларусі пабудавана адна з буйнейшых у Саюзе фабрык «Магвалакно», якая выпрацоўвае штучны шоўк, які карыстаецца вялікім попытам з боку тэкстыльнай і трыкатажнай прамысловасці Саюза ССР.

Віцебскі шчацінна-шчотачны камбінат і менская шчотачная фабрыка даюць больш 40 проц. усёй саюзнай вытворчасці шчотак рознага прызначэння. Шкляныя заводы Беларусі выпускаюць бемскае шкло, шліфаваную і крышталёвую пасуду, частка якой ідзе і на экспарт.

Совецкай уладаю ў Беларусі пабудаваны і чыгуна-ліцейныя прадпрыемствы, як, напрыклад, Магілеўскі трубаліцейны завод. Аб дрэваапрацоўчай прамысловасці няма чаго і гаварыць, бо мэбля і стандартныя дамы, якія робяцца на прадпрыемствах Беларусі, шырока распаўсюджваюцца па гарадах і раёнах Совецкага Саюза.

Крычаўскі цэментны завод выпрацоўвае высокаякасны цэмент, які ідзе на самыя адказныя пабудовы, у тым ліку і на Маскоўскае метро, канал Волга—Масква і іншыя будаўніцтвы. Ланцугі Галля, якія выпрацоўваюцца менскім заводам, з поспехам прымяняюцца ва ўсіх раёнах Саюза для камбайнаў і іншых складаных сельскагаспадарчых машын.

Новая вытворчасць розных вырабаў з пірафілітаў вызваліла нафтаздабываючую прамысловасць Саюза ад імпарту сажавых гарэлак. Толькі ў гэтым годзе выпрацавана і адпраўлена «Азнефти» 800 тыс. штук сажавых гарэлак.

Тэкстыльная і трыкатажная прамысловасць Беларусі, у тым ліку ільнаапрацоўчая прамысловасць, ужо займае салідную ўдзельную вагу ва ўсёй прамысловасці Саюза, а Аршанскі ільнакамбінат, які будуецца, і рэканструіруемая ільнапрадзільная фабрыка імя тав. Кагановіча ў Віцебску будуць даваць больш 50 мільёнаў метраў у год ільнянога палатна.

Поспехі індустрыялізацыі БССР карэнным чынам змянілі структуру насельніцтва. Калі, напрыклад, у 1913 годзе ў прамысловых прадпрыемствах было занята каля 25 тысяч рабочых і служачых, то ў 1936 годзе рабочых і служачых у народнай гаспадарцы стала 627.605 чалавек, у тым ліку ў прамысловасці (без транспарту і лясной гаспадаркі) 182.000 чалавек.

Сельская гаспадарка Беларусі, дзякуючы поспехам калектывізацыі, насычэнню трактарамі і сельскагаспадарчымі машынамі, перайшла з дробнага экстэнсіўнага земляробства ў буйнае калгасна-соўгаснае земляробства высокай прадукцыйнасці, у сувязі з чым беларуская вёска стала непазнавальнай. Сельская гаспадарка БССР з'яўляецца амаль скрозь калгаснай, бо ў калгасах на 1 кастрычніка 1936 года аб'яднана 86,8 проц. сялянскіх гаспадарак. Застаўшыяся 13 проц. гаспадарак не адыгрываюць колькі-небудзь прыметнай гаспадарчай ролі ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Цяперашні трактарыст, які скрозь і ўсюды выпрацоўвае больш 1.000 гектараў на «СТЗ», нічым не нагадвае ранейшага беларускага селяніна, які калупаўся ў зямлі з сахой.

МТС і соўгасы Беларусі маюць трактарны парк магутнасцю ў 125 тыс. конскіх сіл. На палях Беларусі працуюць камбайны, аўтамабілі, бензінавыя і электрычныя рухавікі. Усе гэтыя сталёвыя машыны фактычна выконваюць работу, роўную 300 тыс. коней.

Беларуская вёска, якая ведала раней толькі лучыну, цяпер скрозь і ўсюды асвятляецца лямпкай Ільіча. Пераважная палова раённых цэнтраў Беларусі мае свае электрастанцыі, якія даюць электрычны ток у навакольныя калгасы радыусам 15—20 кіламетраў. Апрача таго, электрыфікаваны 183 калгасы і абсталявана 200 электрамалацільных пунктаў. У гэтым годзе будуецца 15 калгасных гідрастанцый. А раённая электрастанцыя імя таварыша Сталіна снабжае энергіяй віцебскую, аршанскую, магілеўскую прамысловасць і тысячы калгасаў.

Балоты Беларусі калісьці былі пракляццем для беларускага сялянства. У царскай Расіі «Заходняя экспедыцыя» дэпартамента земляробства калісьці прабавала праводзіць меліярацыйныя работы, але нічога істотнага не было зроблена. Экспедыцыяй Жылінскага былі пракопаны невялікія каналы для лесасплаву і для асушкі памешчыцкіх зямель, якія да таго-ж за час імперыялістычнай вайны большай часткаю былі прыведзены ў нягоднасць.

Сапраўдная работа па асушцы і скарыстанню балот пачалася толькі пасля Окцябрскай рэволюцыі. Меліярацыйныя работы пры

совецкай уладзе атрымалі гіганцкі размах. За гэты час дзяржавай і масавай калгаснай меліярацыяй асушана каля 700 тысяч гектараў зямлі, у тым ліку 100 тысяч гектараў балот, якія раней былі скрозь заліты вадой і якія не толькі былі недаступны, але і падчас былі непраходны для чалавека.

На асушаных балотах створаны дзесяткі калгасаў, 14 лугавых соўгасаў, 5 малочных і 1 каноплеводчы соўгасы. Пасевы на асушаных балотах даюць вельмі высокі ўраджай. Сярэдні ўраджай жыта і аўса на мінеральных глебах Беларусі, пры ўнясенні ўгнаенняў роўны 9 цэнтнерам з гектара, а на асушаных балотах сярэдні ўраджай жыта складае не менш 11 цэнтнераў, аўса—12 цэнтнераў; ураджай бульбы на асушаных балотах удвая вышэй, чым у звычайных умовах: 212 цэнтнераў замест 106; ураджай-жа канапель у 2,5 раза вышэй сярэдняга ўраджаю (10 цэнтнераў валакна замест 4).

У соўгасе імя Х-годдзя БССР вышыня канапель, якія растуць на асушаным балоце, удвая перавышае чалавечы рост. Сярэдні ўраджай з 1.000 гектараў канапель, засеяных гэтым соўгасам, складае 18 цэнтнераў з гектара.

Вельмі паказальным з'яўляецца, што Беларусь у гэтым годзе збірае палову ўсяго ўраджаю канапель з асушаных балот. Рэкордны ўраджай зернавых сабраў на асушаных балотах калгас імя БВА: сярэдні ўраджай пшаніцы з гектара складае 25 цэнтнераў, а ячменю і аўса—каля 30.

Калгас імя Сталіна, Менскага раёна, сабраў з 50 гектараў асушаных балот па 700 цэнтнераў буракоў. Ураджай на асушаных балотах вельмі ўстойлівы, яму не страшны ні дажджы, ні засуха.

Не гледзячы на велізарную работу, якая праароблена да гэтага часу па меліярацыі, яшчэ шмат плошчы можна ўцягнуць у гаспадарчы абарот. У такіх, напрыклад, раёнах, як Брагінскі, Хойніцкі, Камарынскі, Рэчыцкі і інш., пасля асушкі балотных масіваў можна мець глебу, якая не ўступіць украінскаму чарназёму. Больш таго, гэтыя глебы маюць тую перавагу, што яны багаты матэрыямі—азотам і фосфарам.

У трэцюю пяцігодку мяркуецца асушыць палову балот і забалочаных зямель рэспублікі. Гэта пашырыць пасеўную плошчу Беларусі ў паўтара разы і дазволіць значна пашырыць зернавыя пасевы, пасевы тэхнічных культур і стварыць магутную кармавую базу для жывёлагадоўлі.

Да рэволюцыі Беларусь не ведала лёну якасцю вышэй 8 нумару. А зараз сярэдні нумар ільнавалакна ў калгасах Беларусі 11. У радзе калгасаў даюць лён 26 нумару—вышэйшы нумар у Саюзе ССР. Пасобныя звенні ва многіх калгасах у гэтым годзе знялі з гектара да тоны ільнавалакна. Шырока ўкараняюцца гатунковыя пасевы лёну, якія павялічваюць выхад ільнавалакна на 40 проц. і павышаюць яго нумарнасць па меншай меры на 5 пунктаў. Праз два гады ўся плошча пасеву лёну будзе забяспечана гатунковым насеннем.

Хуткімі тэмпамі ўводзяцца новыя найкаштоўнейшыя культуры ў сельскую гаспадарку беларускіх калгасаў. Напрыклад, у гэтым годзе ў парадку вопыту пасеяна 6 гектараў канатніку, з якога робяць манільскі шпагат. Вопыты далі добрыя вынікі. Даходнасць у калгасах ад пасеву канатніку складае ў гэтым годзе да 4 тысяч рублёў на гектар. У будучым годзе будзе засеяна 1.000 гектараў гэтага канатніку. Упершыню ў Беларусі пасеяна было ў гэтым годзе 200 гектараў

каучуканоса кок-сагыза. Ураджай яго, выражаны ў каўчуку, складае 80 кілограмаў з гектара.

Калгаснікі зразумелі выгаднасць развядзення гэтай культуры і праяўляюць зараз вялікую цікавасць да яе, бо некаторыя калгасы атрымаюць у гэтым годзе даход ад пасеву кок-сагыза ў 3—4 тысячы рублёў з гектара. А калгаснік Шульга ўжо вынайшаў спецыяльную машыну для апрацоўкі кок-сагыза. На 1937 год намячаецца пасеў гэтых культур каля 1.000 гектараў.

Вялікая ініцыятыва праяўлена калгаснікамі Беларусі ў справе прымянення торфу на ўгнаенне. У гэтым годзе ўпершыню торф прыменен, як угнаенне, у масавым маштабе. Практыкай даказана, што ад гэтага віду ўгнаення ўраджайнасць зернавых павышаецца, не менш як на 3 цэнтнеры з гектара. Некаторыя, з дазволу кажучы, «вучоныя» у асобе прафесара Бахцеева, даводзілі на сесіі Акадэміі навук БССР, што зімой для мэт угнаення нельга здабываць торф. Насуперакор гэтым сцвярджэнням, калгаснікі Беларусі ў гэтым годзе вывезлі ў гэты найбольш спрыяючы перыяд з пункту погляду цягавага балансу 10 мільёнаў вазоў торфу і атрымалі добрыя рэзультаты, чым цалкам абвергнуты «тэорыі» Бахцеева.

Пры распрацоўцы торфу ў Беларусі выяўлены торфавівіяніты, якія з'яўляюцца высокакаштоўным ўгнаеннем і амаль цалкам замяняюць суперфасфаты, якія завозяцца з Урала. Даследчыя партыі пад кіраўніцтвам прафесара Орлова выявілі вялікія запасы торфавівіяніту ў цэлым радзе раёнаў Беларусі і асабліва на поўдні.

Вопыты паказваюць, што прымяненне вівіяніту на ўгнаенне ў натуральным яго выглядзе, нават без абагачэння, дае надзвычай добры рэзультат. Таму ў будучым годзе мяркуецца ўгноіць торфавівіянітам да 200.000 гектараў пасеваў. Камбінуючы вівіяніт, багаты фосфарам, з торфам, багатым азотам, можна будзе плошчу пад угнаенні значна пашырыць. Калі ўлічыць, што такі від угнаення захоўвае сваю сілу на працягу трох год, то за лік гэтых новых мясцовых рэсурсаў можна будзе ўгнойваць да ⅓ усіх пасеваў у рэспубліцы.

Хутка расце калгасная жывёлагадоўля. За апошнія гады стада буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 40 проц., а пагалоўе свіней амаль падвоілася. На кожны калгас у сярэднім прыпадае зараз па 2 жывёлагадоўчыя фермы. У Беларусі ў дарэвалюцыйны час сялянства мела пераважна так званую палескую жывёлу, якая з'яўлялася беспароднай і малапрадукцыйнай. За гады совецкай улады парода жывёлы значна абнавілася. Швіцкая, чырвонабеларуская і іншыя пароды рагатай жывёлы паспяхова выцясняюць беспароднае стада. Англійская парода свіней выцясняе малапрадукцыйную пароду свіней, і гэта дае свае вынікі. Напрыклад, раней у 9-месячным узросце падсвінак важыў каля 35 кілограмаў. Цяпер-жа свіння ў такім узросце важыць у сярэднім 85 кгр.

У гэтым годзе ў рэспубліку завозіцца 13 тысяч племянных баранаў, што забяспечвае паспяховае развіццё аўцагадоўлі. Разам з гэтым, трэба адзначыць, што прышчэпаўскія паследышы нямала папрацавалі над тым, каб выцесніць аўцу з калгаснай жывёлагадоўлі, але мерапрыемствамі ЦК КП(б)Б і ўрада БССР забяспечана шырокае развіццё аўцагадоўлі ў калгасах Беларусі.

Выключна вялікія поспехі дасягнуты ў разгортванні тавараабароту і совецкага гандлю. Тавараабарот дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю ў 1936 годзе ровен 2 мільярдам 20 млн. рублёў супроць 263,4 млн. руб. у 1926-27 годзе. Прыватны тавараабарот канчаткова

ліквідован, і соцыялістычны сектар, як і ва ўсіх галінах гаспадаркі, стаў бязмежна пануючым.

Аднак слабым месцам у совецкім гандлі прадаўжае яшчэ заставацца недастатковая культурнасць у рабоце рознічнай сеткі і слабая барацьба за якасць тавараў.

Непазнавальнымі сталі дарогі рэспублікі. Да рэволюцыі ў Беларусі ведалі толькі адну дарогу—так званы «Екацерынінскі шлях», і на гэтай грунтавой дарозе гразлі сялянскія фурманкі, асабліва вясною і ўвосень.

Зараз амаль усе раённыя цэнтры і нават калгасы звязаны паміж сабой шасейнымі дарогамі, пакрытымі гравіем, шчабенчатым шасе, а месцамі асфальтам.

У сувязі з велізарнымі поспехамі дарожнага будаўніцтва многія аддаленыя палескія раёны атрымалі вельмі добрыя шляхі зносін з культурнымі і прамысловымі цэнтрамі Беларусі. Гэта прывяло да хуткага эканамічнага і культурнага ўздыму адарваных у мінулым населеных пунктаў.

У сувязі з развіццём дарог установлены рэгулярныя аўтобусныя зносіны паміж гарадамі і раённымі цэнтрамі. Шлях, які раней на дыліжансах і балаголах працягваўся днямі і тыднямі, зараз перамагаецца за некалькі гадзін. Калгаснікі і іншыя працоўныя зараз маюць поўную магчымасць на аўтобусах, на калгасных аўтамабілях выязджаць у кожны горад і раён рэспублікі. Апрача таго, шырока развіта мясцовая авіяцыя і паштова-тэлеграфная і тэлефонная сувязь. Палова сельсоветаў у Беларусі тэлефанізавана, і ў сувязі з работай мясцовай авіяцыі амаль палова раёнаў Беларусі ў той-жа дзень атрымлівае на аэрапланах рэспубліканскія газеты і іншую пошту з Менска.

Поспехі індустрыялізацыі, калгасна-соўгаснага будаўніцтва, пабудова дарог, тэлефонная і тэлеграфная сувязь, уздым матар'яльнага дабрабыту працоўных горада і вёскі абумовілі бурны рост соцыялістычнай культуры і культурнасці шырокіх народных мас.

Расце і шырыцца народная творчасць. Старыя песні беларускага сялянства, якімі аплаквалася горкая доля яго жыцця, замяніліся новымі радаснымі песнямі і частушкамі, у якіх калгаснікі і калгасніцы ўспяваюць радаснае і заможнае калгаснае жыццё і таго, хто прывёў нашу краіну да гістарычных перамог,—вялікага Сталіна. Вось адна з частушак калгасніц:

«А я жала, дажынала
Поле пры дарожаньцы.
Дзякуй, дзякуй, родны Сталін,
За жыццё заможнае.
Эх, дазвольце, гаспадар, мне,
Ў хаце вашай танцаваць,
На палях раблю ўдарна,
Дык не сорам пагуляць».

Беларускі народ вылучыў са сваіх радоў шматлікія кадры таленавітых работнікаў, у тым ліку і для культурнага фронту. Шырацца кадры таленавітых совецкіх беларускіх пісьменнікаў, артыстаў, урачоў, інжынераў, аграномаў і інш. Размах беларускай совецкай літаратуры, тэатральнага мастацтва і музыкі падмацоўваецца шырокай хваляй народнай творчасці. Беларуская совецкая літаратура і мастацтва чэрпаюць свае сілы ў народнай творчасці.

Працоўныя масы Беларусі, абмяркоўваючы праект сталінскай Канстытуцыі, рыхтуючыся да Ўсесаюзнага з'езда Советаў, не забываюць і аб сваіх прамых задачах умацавання абароназдольнасці і абароны межаў СССР. Гэта ўжо ўвайшло ў быт і ў жыццё кожнага рабочага і калгасніка Беларусі.

Асабліва праяўляецца любоў беларускага народу да свайго вызваленца і абаронца—да Чырвонай арміі. На гэту тэму створана нямала выдатных народных песень і частушак. Вось што спяваюць калгаснікі Беларусі аб правадыру Чырвонай арміі тав. Варашылаве:

«Ды скажу табе я, мілы
Быў дзянёк ды няштодзенны:
Сам таварыш Варашылаў
Прынімаў парад ваенны.
Невысокі сабе ростам,
Невысокі і не нізкі.
А такі вясёлы, просты,
А такі прыветны, блізкі.
А свой погляд, свой юначы,
Калі кіне, бы зарніца,—
Сэрца з радасці заскача,
Кроў адвагай забурліцца.
Адным словам, свой брат родны,
Так і хочаш, мая Каця,
Быць яго дастойным, годным,
За яго жыццё аддаці...
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .
У міжбур'е з ім жыць міла,
Лёгка-ж будзе і ў паходзе,
Во, які наш Варашылаў,
Во, які наш палкаводзец».

Усімі рабочымі і калгаснікамі Беларусі распяваюцца песні, узятыя з пісьма беларускага народу вялікаму Сталіну. Самі калгаснікі ствараюць музыку на гэта пісьмо-паэму і паўсюды спяваюць, асабліва абаронччыя вершы гэтага пісьма:

«А нашы граніцы бетонам заліты,
Мы чуйна вартуем совецкі фарпост,
Няхай-жа памкнуцца фашысты, бандыты,—
Касцямі палягуць яны на пагост».

Многія калгаснікі ўносяць дадаткі да праекта Канстытуцыі, якія гавораць аб іх імкненні берагчы недатыкальнасць совецкіх меж. Напрыклад, калгаснік Палякоў з арцелі «Чырвоны востраў», Сіроцінскага раёна, прапанаваў унесці наступны дадатак да 127 артыкула Канстытуцыі:

«Мы жывем яшчэ ў капіталістычным акружэнні. Ворагі народу— шпіёны, дыверсанты імкнуцца прабрацца праз совецкія граніцы, каб шкодзіць соцыялістычнаму будаўніцтву. Кожны грамадзянін Совецкага Саюза абавязан пры выяўленні злачынца затрымаць яго і перадаць органам улады».

З прыведзеных прыкладаў відаць, што беларускія рабочыя і калгаснікі адчуваюць сваю адказнасць за ахову заходніх граніц СССР.

Другое становішча і іншыя песні існуюць у Заходняй Беларусі, якая стогне пад пятой польскага фашызма. З болем у душы рабочыя

і сяляне Беларускай ССР назіраюць беспрасветнае, пакутнае жыццё мільёнаў беларускіх сялян так званых «Усходніх крэсаў» Польшчы.

Не гледзячы на тое, што польскі друк утойвае сапраўднае становішча насельніцтва, усё-ж зрэдку на яго старонках паяўляюцца некаторыя б'ючыя ў вочы факты. Напрыклад, віленская газета «Слово» ў сваім нумары ад 12 жніўня 1936 г. піша:

«...Нядаўна паміж газетамі «Пшэглёнд Віленскі» і «Віленска крыніца» разгарэлася палеміка ў сувязі з тым, што адна з гэтых газет параўнала мясцовага віленскага селяніна з афрыканскім неграм. Безумоўна, такое параўнанне з'яўляецца знявагай годнасці чалавека, які жыве ў Еўропе. Аднак, нельга адмаўляць аналогіі, у прыватнасці, калі гэта адносіцца да нашай тэрыторыі Палесся. У такіх умовах жывуць сотні тысяч чалавек іменна, як негры. Ні ў якой заможнасці, ні ў адносінах галечы нельга параўнаць нашых сялян з сялянамі Еўропы. Яны стаяць на больш нізкім узроўні. Становішча нашых сялян безнадзейнае».

А поўафіцыёз «Кур'ер поранны» піша:

«Нашы цяперашнія ўмовы ва «Усходніх крэсах» напамінаюць становішча вызваленага ад паншчыны сялянства царскай Расіі перыяда перад сталыпінскай рэформай, калі вызвалены з-пад ярма паншчыны селянін, не маючы адпаведнай эканамічнай базы, папаў у неймаверна цяжкое становішча і ў поўную залежнасць ад памешчыка... Тут захаваўся нібыта рэзервуар мінуўшага перыяда феадальнай паншчыны».

Гэта пішуць самі польскія газеты, але, па вестках, якія даходзяць з-за мяжы, сапраўднае становішча працоўных мас Польшчы і ў асаблівасці Заходняй Беларусі ў дзесяткі разоў горшае. Чаго варты ў святле гэтых фактаў здрадніцкі паклёп на Савецкі Саюз з боку беларускіх нацыянал-фашыстаў, якія выслужваюцца перад дэфензівай і нагла ашукваюць працоўныя прыгнечаныя масы.

* * *

Праект сталінскай Канстытуцыі выклікаў новую хвалю энтузіязму і творчага ўздыму ва ўсіх кутках Савецкай Беларусі. Няма такой галіны работы, дзе-б працоўныя масы Беларусі не натхняліся новым уздымам на далейшую барацьбу за соцыялізм, бо яны ведаюць, што сталінская Канстытуцыя яшчэ вышэй узнімае іх правы і годнасць свабодных грамадзян СССР, яна запісвае і замацоўвае заваяванні савецкага народу, забяспечвае далейшы рост матар'яльнага дабрабыту працоўных мас і іх культурнага развіцця.

На праходзячых раённых з'ездах Саветаў у БССР, адначасова з абмеркаваннем і адабрэннем Канстытуцыі СССР, увесь беларускі народ выказвае сваю падзяку, сваю любоў і адданасць вялікай партыі Леніна—Сталіна, ураду Саюза ССР і геніяльнаму правадыру народаў таварышу Сталіну, які вядзе гераічны савецкі народ да канчатковай пабудовы комунізма ў нашай краіне.

**«Звязда».**

А. Джэлюк

# Трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі

Совецкая Беларусь сустракае XII Надзвычайны з'езд Советаў БССР і VIII Надзвычайны з'езд Советаў СССР велізарнымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла нечуваны росквіт эканомікі і культуры БССР.

Толькі ў брацкім саюзе народаў СССР, толькі пры дапамозе пролетарыята ўсяго Совецкага Саюза і ў асаблівасці вялікага герaічнага рускага пролетарыята, толькі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і вялікага Сталіна—сталі магчымы гэтыя перамогі.

Кіруючыся такою магутнаю зброяй, як вучэнне аб нацыянальным пытанні, якое далі нам найвялікшыя геніі чалавецтва—Ленін і Сталін, наша партыя правільна вырашыла нацыянальнае пытанне і павяла народы былой царскай Расіі па шляху светлага, радаснага жыцця.

Беларуская ССР—дзецішча вялікай Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі. У стварэнні і развіцці яе прымаў непасрэдны ўдзел вялікі Сталін. У шматлікіх дакументах мы знаходзім, як вялікі Сталін нястомна сачыў і сочыць, накіроўваў і накіроўвае развіццё Совецкай Беларусі.

Яшчэ на X з'ездзе партыі вялікі Сталін даў рэзкую адповедзь тым, хто спрабаваў адвергнуць наяўнасць беларускай нацыянальнасці:

> «Тут,—гаворыць таварыш Сталін,—я маю запіску аб тым, што мы, комуністы, быццам-бы насаджаем беларускую нацыянальнасць штучна. Гэта не верна, таму што існуе беларуская нацыянальнасць, у якой ёсць свая мова, адметная ад рускай, у сувязі з чым падняць культуру беларускага народу можна толькі на роднай яго мове» *).

Указанне таварыша Сталіна адыграла рашаючую ролю ў развіцці Беларускай ССР.

Што прадстаўляла сабою Беларусь да рэволюцыі?

Царскія сатрапы вялі палітыку на ўсямерную эксплаатацыю і падняволенне народаў з нацыянальных меншасцей.

> «Палітыка царызма, палітыка памешчыкаў і буржуазіі ў адносінах да гэтых народаў заключалася ў тым, каб забіць сярод іх зачаткі ўсякай дзяржаўнасці, калечыць іх культуру, сціскаць мову, трымаць іх у невуцтве і, нарэшце, па магчымасці русіфі-

*) **Сталін**, „Марксізм і нацпытанне“, стар. 81.

каваць іх. Рэзультаты такой палітыкі— нягразвітасць і палітычная адсталасць гэтых народаў» *).

Ператварыўшы Беларусь у сваю калонію, царызм усяляк мяў, душыў і прыгнятаў беларускі народ. Самую назву «Беларусь» царскае самадзяржаўе абвясціла «крамольнай» і назвала яе «Паўночна-заходнім краем». Родная мова была абвешчана хамскаю мовай і карыстацца ёю забаранялася. Вельмі нязначная колькасць беларускіх кніг, выданых да рэволюцыі, пабачыла свет толькі таму, што выходзіла пад выглядам твораў на балгарскай і сербскай мовах.

На роднай мове не было ніводнай школы. Замест школ, клубаў і іншых культурных устаноў царызм узмоцнена насаджваў цэрквы, карчмы і т. п.

Становішча працоўных было выключна цяжкае. Буржуа, памешчыкі, жандары не лічылі беларуса за чалавека.

У свой час, да Окцябрскай рэволюцыі, Янка Купала пісаў:

«Няма хлеба, няма солі,
Чужому рабі,
Няма шчасця, няма долі—
Вось тут і жыві».

Непраходныя лясы і балоты, вузкія палоскі пасеваў, гора, галеча і цемра, калтун, трахома і іншыя хваробы—вось спадарожнікі працоўных калоніі рускага самадзяржаўя—Беларусі.

Каб забяспечыць поўгалоднае існаванне для сябе і сям'і, працоўнаму беларусу прыходзілася працаваць у нязносных умовах.

У сваім вядомым творы «Железная дорога» вялікі рускі паэт Некрасаў падаў яркі малюнак ўмоў работы беларуса:

«Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорусс:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;

Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо-дня-в-день налегала весь век...
Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно:
Трудно свой хлеб добывал человек!»

Звыш 2/3 усёй прыгоднай зямлі знаходзілася ў памешчыкаў і кулакоў. Адзін князь Радзівіл, які цяпер так узмоцнена агітуе за паход супроць СССР, меў звыш 150 тысяч дзесяцін зямлі. Князь Віттенштэйн уладаў па ўсёй Менскай губ. 700 тысячамі гектараў зямлі. Драпежнае груганнё—памешчыкі і капіталісты—бясконца глуміліся над беларускім народам, нажываючы на поце і крыві яго шалёныя прыбыткі.

Малазямелле і беззямелле прымушала працоўнае сялянства ісці ў батракі да кулака і памешчыка, або адпраўляцца ў эміграцыю.

Аб прамысловасці няма чаго і гаварыць: уся яна складалася з некалькіх дзесяткаў саматужных і поўсаматужных майстэрань і заводзікаў. Прадукцыя яе—галоўным чынам вілы, скабяны тавар, дробныя скураныя вырабы і т. п. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці Беларусі складала 99,9 мільёна рублёў.

*) Сталін. Марксізм і нацпытанне, стар. 79—80.

Багацейшыя лясныя масівы належалі памешчыкам і лесапрамыслоўцам, якія для большага прыбытку драпежніцкі іх вырубалі. Натуральныя багацці зямельных нетраў не выкарыстоўваліся. Даволі ўказаць, што да рэволюцыі на Беларусі здабывалася толькі 14.000 тон торфу, тым часам як мы здабываем звыш 2.000.000 тон у год. Торф складае зараз 43 проданты ўсяго паліўнага балансу БССР.

Няма і не можа быць ніякага параўнання паміж старой царскай і Совецкай Беларуссю. Окцябрская рэволюцыя стварыла ўсе ўмовы для бурнага росту ўсёй народнай гаспадаркі.

Таварыш Сталін у дакладзе на X з'ездзе партыі сказаў:

«Сутнасць нацыянальнага пытання ў РСФСР заключаецца ў тым, каб знішчыць тую адсталасць (гаспадарчую, палітычную, культурную) нацыянальнасцей, якую мы атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць магчымасць адсталым народам дагнаць цэнтральную Расію і ў дзяржаўных, і ў культурных, і ў гаспадарчых адносінах».

У рэзалюцыі X з'езда РКП(б) па дакладу таварыша Сталіна, прынятай пад кіраўніцтвам В. І. Леніна, гаворыцца:

«Задача партыі заключаецца ў тым, каб дапамагчы працоўным масам невялікарускіх народаў дагнаць адышоўшую наперад, цэнтральную Расію, дапамагчы ім:

а) развіць і ўмацаваць у сябе совецкую дзяржаўнасць у формах, адпавядаючых нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў;

б) развіць і ўмацаваць у сябе дзеючыя на роднай мове суд, адміністрацыю, органы гаспадаркі, органы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, якія ведаюць быт і псіхалогію мясцовага насельніцтва;

в) развіць у сябе прэсу, школу, тэатр, клубную справу і наогул культурна-асветныя ўстановы на роднай мове;

г) паставіць і развіць шырокую сетку курсаў і школ як агульнаадукацыйнага, так і прафесіянальна-тэхнічнага характару на роднай мове».

Усёй сумай палітычных, арганізацыйных і гаспадарчых мерапрыемстваў наша партыя і ўрад накіравалі развіццё БССР.

Велізарнейшая дапамога была аказана працоўнымі ўсяго Совецкага Саюза, і асабліва рускім пролетарыятам, уздыму гаспадаркі Совецкай Беларусі.

Штодзённае, штогадзіннае асабістае кіраўніцтва друга, правадыра і настаўніка працоўных усяго свету вялікага Сталіна дало магчымасць БССР выйсці на адно з перадавых месц у Совецкім Саюзе.

Упершыню за ўсю гісторыю свайго існавання беларускі народ у выніку соцыялістычнай рэволюцыі атрымаў дзяржаўнасць. Сіла Беларусі ў тым, што яна з'яўляецца неадлучнаю часткай вялікага Совецкага Саюза, што ў брацкай сям'і народаў яна будуе соцыялістычнае грамадства.

Глыбокая бездань аддзяляе сучасную Совецкую Беларусь ад старой Беларусі—калоніі рускага самадзяржаўя.

Бурнымі тэмпамі развівалася прамысловасць. Створаны нанова цэлыя галіны прамысловасці: дрэваапрацоўчая, хімічная, металаапрацоўчая, швейная, скураная, запалкавая, тарфяная і т. п.

Пабудаваны фабрыкі і заводы, якія па свайму абсталяванню не ўступаюць першакласным прадпрыемствам Еўропы: Гомельскі шклозавод, Магілёўская шоўкавая, рад запалкавых фабрык. Зусім рэкан-

струяваны, вярней, пабудаваны нанова (як кажуць жартам,—«да трубы прырабілі завод») рад металаапрацоўчых заводаў, якія выпрацоўваюць прадукцыю не толькі для ўнутранага, але і для замежнага рынку.

У радзе гарадоў пабудаваны буйнейшыя электрастанцыі. Адна электрастанцыя імя таварыша Сталіна выпрацоўвае ў год энергіі больш, чым усе разам узятыя электрастанцыі Беларусі ў 1913 годзе.

Калі ў 1913 г. уся прадукцыя прамысловасці складала 99,9 мільёна рублёў, то ў 1936 г. рабочыя БССР абавязаліся даць адной толькі звышпланавай прадукцыі на 132 мільёны рублёў, што далёка перакрывае ўсю даваенную прадукцыю прамысловасці Беларусі.

Беларусь—буйны цэнтр станкабудаўніцтва, удзельная вага якога ў прамысловасці СССР складае 10 проц. Рад заводаў (ланцугоў Галля і інш.) забяспечвае неабходнымі часткамі важнейшыя галіны прамысловасці Саюза ССР.

Уся прамысловасць БССР дае прадукцыі на два мільярды рублёў. Яе ўдзельная вага ў народнай гаспадарцы складае 76,1 проц. Зараз у прамысловасці занята больш 250 тысяч рабочых (у 1913 годзе было 22 тысячы). Асноўныя кадры рабочых складаюцца з 70 проц. беларусаў і 23 проц. яўрэяў.

Лінія партыі на індустрыялізацыю краіны асабліва рэзка праявілася ў былых акраінах самадзяржаўя. Партыя і ўрад, ажыццяўляючы палітыку ліквідацыі эканамічнай адсталасці нацыянальных меншасцей, усёй сумаю эканамічных мерапрыемстваў забяспечылі развіццё прамысловасці нацыянальных рэспублік.

На базе індустрыялізацыі краіны шпаркім тэмпам ідзе соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі. На аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідавана кулацтва як клас. Калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна.

Соцыялістычная прамысловасць насыціла сельскую гаспадарку складанымі і поўскладанымі машынамі, якія палягчаюць працу селяніна, павышаюць ураджайнасць палёў.

У сельскай гаспадарцы БССР працуюць трактары і камбайны, аўтамабілі, бензінавыя і электрычныя рухавікі. Магутнасць гэтага парка—звыш 300 тысяч конскіх сіл.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб далейшым уздыме сельскай гаспадаркі нячорназемнай паласы адыграла рашаючую ролю ў далейшым развіцці і ўмацаванні сельскай гаспадаркі Беларусі.

Беларуская зямля спрадвеку лічылася неўрадлівай. І гэта не дзіўна. Селянін апрацоўваў свой «шнурок» з дапамогаю клячы, запрэжанай у саху.

А зараз ужо многія калгасы дабіліся ўраджаю 20—25 цэнтнераў зернавых і 200—250 цэнтнераў бульбы з гектара. Паасобныя калгасы ужо ў гэтым годзе атрымалі звыш 3000 пудоў бульбы і 1000 кілограм ільнавалакна з гектара. Да рэволюцыі засявалася толькі 34 тысячы гектараў лёну, а сёлета засеяна 243 тысячы гектараў. Да рэволюцыі не ведалі ільнавалакна вышэй 8 нумару, а зараз калгасы ў сярэднім даюць 11 нумар, а паасобныя з іх—нават 26 нумар ільнавалакна.

Агромнейшыя сродкі трацяцца на меліярацыю і ўгнаенне палёў. Большэвікі прымусілі беларускую зямлю даваць высокія ўраджаі. Змянілася жыццё сялянства. Адышлі ў нябыт пракопчаныя курныя хаты, будуюцца чыстыя, светлыя, утульныя калгасныя дамы. Значна ўзнялася вага працадня. Практычна ажыццяўляецца лозунг таварыша

Сталіна—«зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі».

Разам з ростам прамысловасці і сельскай гаспадаркі гартуюцца выдатныя людзі сталінскай вывучкі, ахопленыя вышэйшаю формай соцыялістычнага спаборніцтва—стаханаўскім рухам.

Саюзны ўрад узнагародзіў ордэнамі 74 стаханаўцаў сельскай гаспадаркі і 35—прамысловасці і транспарту.

Тысячы стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі асабістым прыкладам самаадданай працы захапляюць астатнюю масу.

Абмеркаванне сталінскай Канстытуцыі шырокаю хваляй узняло энтузіязм працоўных, выклікала новы прыток у стаханаўскія рады.

У праклятыя царскі час Беларусь налічвала да 90 проц. няграматных. Зараз 30.000 настаўнікаў навучаюць звыш мільёна дзяцей рабочых і калгаснікаў. У школах павышанага тыпу вучыцца больш 43 тысяч дарослых рабочых і калгаснікаў. 7 тысяч школ ахапляюць усе без выключэння народнасці, што насяляюць Беларусь. У мінулым не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, а цяпер іх 19. Студэнтаў—дзяцей рабочых, служачых і інтэлігенцыі—налічваецца 15 тысяч. У 77 тэхнікумах навучаецца звыш 25.212 чалавек і ў 28 рабфаках—16.343 чал. Беларуская Акадэмія Навук з яе шматлікімі інстытутамі з'яўляецца цэнтрам навукова-даследчай думкі. З асяроддзя рабочых і калгаснікаў выраслі новыя кадры вучоных.

Шырока разгарнулася сетка культурна-асветных установ: 1.680 клубаў, 1.354 кіно, 13 музеяў, 10 тэатраў, дзесяткі тысяч радыёустановак. Да рэволюцыі на тэрыторыі Беларусі выдаваліся 4 бульварна-папоўскія газеты, якія адурманьвалі працоўных. Зараз выходзіць 217 друкаваных газет з агульным гадавым тыражом у 133.400.000 экземпляраў. Створана бібліятэка імя Леніна, якая налічвае 1.500.000 кніг.

Партыя клапатліва выхавала і вырасціла рад таленавітых совецкіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, актораў. Творы лепшых беларускіх пісьменнікаў вядомы далёка за межамі БССР.

Расце і квітнее нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу культура. Гэтага мы дабіліся пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і вялікага Сталіна, з чыім імем звязаны ўсе перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

* * *

Што-ж прадстаўляе сабой Заходняя Беларусь пад пятой белапольскіх акупантаў? Польскі імперыялізм, зняволіўшы беларускі народ, ператварыў край у сваю калонію. Бязлітасная эксплаатацыя працоўных прывяла рад абласцей і паветаў да галоднай смерці.

Пад уплывам жорсткага эканамічнага крызісу значна скарацілася і так куцая прамысловасць Заходняй Беларусі. Так, за адзін месяц гэтага года толькі ў Вільні зачынілася 50 прадпрыемстваў. Паводле афіцыяльных даных фашысцкай прэсы, у горадзе Вільні налічваецца да 10 тысяч беспрацоўных, а ў сапраўднасці гэта лічба значна большая.

Сельская гаспадарка перажывае перыяд поўнай дэградацыі. Беззямелле і малазямелле, непасільныя падаткі прывялі сялянства да галечы і жабрацтва. Як ні дзіўна, але факт, што селянін праз 76 год пасля адмены прыгонніцкага права больш паловы летніх дзён прымушан бясплатна працаваць на памешчыкаў і фашысцкую дзяржаву за падаткі і даўгі.

Па некалькі раз селянін вымушан карыстацца адной і той самай салёнай вадою, каб зварыць бульбу, бо не мае мажлівасці купіць гэты танны прадукт.

Ніводнай школы на беларускай мове, ніводнага клуба, хаты-чытальні, 80 проц. няграматнага насельніцтва—вось вынік польскай каланізатарскай палітыкі.

Сутнасць гэтай палітыкі ярка выразіў ваенны міністр Польшчы Каспшыцкі:

«Мы павінны цяпер у перыяд міру працаваць у іх над тым, каб прывіць ім цалкам польскую культуру, замацаваць духоўнымі і эканамічнымі здабыткамі, што было здабыта мечам».

Такім чынам польскія фашысты ставяць задачу далейшага ўзмацнення нацыянальнага прыгнечання працоўных Заходняй Беларусі.

Беларускія нацыянал-дэмакраты—гэтыя заядлыя псы польскага і нямецкага фашызма—оптам і ў розніцу прадавалі беларускі народ польскім і нямецкім імперыялістам. Няма такой гнуснасці, на якую не здольны былі-б гэтыя здраднікі беларускага народу.

Аб'яднаўшыся на адзінай платформе барацьбы з совецкай уладай, беларускія нацыянал-дэмакраты разам з трацкістамі, бундаўцамі, пэпээсаўцамі, вялікадзяржаўнымі шавіністамі і проста белагвардзейскімі галаварэзамі займаліся шкодніцтвам, шпіянажам, дыверсіяй. Насаджэнне хутароў, прывіўка коням менінгіта, контррэволюцыйная прапаганда на ідэалагічным фронце, шпіёнска-дыверсійная работа па заданню польскай дэфензівы і нямецкага Гестапо—вось прыклады контррэволюцыйнай дзейнасці беларускіх нацдэмаў, якія ў свой час звілі сабе гняздо на тэрыторыі БССР.

Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна КП(б)Б выкрыла і разграміла контррэволюцыйныя планы прадажных служак фашыстаў і з ганьбай выгнала іх.

Усямерна павышаючы рэволюцыйную пільнасць, мы павінны да канца выявіць асколкі нацдэмаўшчыны і яе агентуры ўнутры партыі—беларускіх нацыянал-апартуністаў, трацкістаў і іншай контррэволюцыйнай швалі. Бязлітасная расправа з ворагамі працоўнага народу—такая воля і аднадушнае патрабаванне мас.

БССР прышла з велізарнымі поспехамі да Надзвычайнага з'езда Советаў. Беларускі народ бязмежна шчаслівы і ўдзячны нашай партыі і вялікаму Сталіну, якія вывелі яго на шлях светлага, радаснага і культурнага жыцця.

Імя Сталіна не зыходзіць з вуснаў. Аб ім народ складае песні Сталін—гэта сімвал заможнага, свабоднага, культурнага жыцця. Сталін—гэта наш сцяг, з якім ішлі мы ад перамогі к перамозе. Любоў і адданасць вялікаму Сталіну беларускі народ выразіў у сваім пісьме:

«Праз тры рэволюцыі, бойкі, паўстанні  
Ты вёў разам з Леніным нашы рады.  
Ты нашых садоў і палёў красаванне,  
Ты наша вясна—дарагі правадыр!  
Табе—наша радасць, любоў і адданасць,  
Табе—пяе славу сусветная шыр.  
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны.  
Ты наша жыццё—дарагі правадыр!»

Гэта—голас усяго беларускага народу, бязмежна адданага справе Леніна—Сталіна, народу, які даражыць і любіць свайго бацьку, правадыра і настаўніка—вялікага **Сталіна.**

І. Баднёў

# Абмеркаванне праекта новай сталінскай Канстытуцыі па Дубровенскаму раёну

Абмеркаванне праекта сталінскай Канстытуцыі ўсхвалявала ўсё працоўнае насельніцтва Дубровенскага раёна. Рабочыя, калгаснікі, настаўнікі, урачы, служачыя, успамінаючы ў сваіх выступленнях праклятае мінулае, радасна расказвалі аб новым сталінскім жыцці.

На сходзе ў калгасе «Чырвоная паляна», Тулевіцкага сельсовета, 70-гадовы **Томаш** заявіў:

«Я з вялікім здавальненнем слухаю вялікія словы Канстытуцыі, створанай нашым настаўнікам таварышом Сталіным. Хочацца жыць яшчэ доўгія гады. А як мы жылі раней? Круглыя суткі працавалі на пана за няшчасныя грашы. Мы былі бяспраўныя. Пан што хацеў, тое і рабіў над намі. Я ўжо думаў, што і свету не ўбачу ў такім праклятым жыцці. Таварыш Сталін зрабіў нас людзьмі, гаспадарамі сваёй вялікай соцыялістычнай радзімы».

20 чэрвеня ў рэдакцыю мясцовай газеты калгаснік **Пучкоў** Ціхан Іванавіч з калгаса «Чырвонаармеец» прыслаў пісьмо:

«Да Окцябрскай рэволюцыі я працаваў батраком у пана за 12 кап. у дзень. Ён як хацеў, так і панукаў мною. Жыцця я не бачыў. А зараз я сам гаспадар сваёй краіны. Толькі ў калгасе пабачыў добрае жыццё. Яго мне даў таварыш Сталін. Новая сталінская Канстытуцыя ўлівае новыя сілы, ініцыятыву, бадзёрасць. Буду працаваць яшчэ лепш, паўдарнаму, каб да XIX гадавіны Окцябрскай рэволюцыі выканаць усе без выключэння работы і абавязацельствы перад дзяржавай».

У паасобных калгасах новую сталінскую Канстытуцыю пачалі абмяркоўваць яшчэ 20 чэрвеня—у перыяд праполкі лёну. Шырока разгарнулася соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вышэй узнялася хваля стаханаўскага руху. Дзесяткі і сотні рабочых з соўгасаў і калгаснікаў давалі абяцанні павялічыць ураджай лёну і іншых культур.

Калгасніца **Дранькова** з калгаса «Ударнік», Кляноўскага сельсовета, заявіла: «Я абавязваюся ў гэтым годзе вырасціць з 1 га 6 цэнтнераў ільнавалакна». Калгасніца Гутарава Елена з калгаса «Прагрэс», Дубровенскага сельсовета, дала абяцанне вырасціць 7 цэнт. ільнавалакна з гектара.

У калгасе «Наша перамога», Бельскага сельсовета, калгаснікі заявілі: «Жыццё нам даў таварыш Сталін. Абавязваемся даць ураджай ільнавалакна з 10 га—26 нумарам, а з 5 га 28—30 нумарам.

Калгас імя Блюхера даў у 1935 годзе 4,4 цэнт. ураджаю ільнавалакна з га пры 14—16 нумары. Сёлета калгас паставіў задачу—узяць з га не менш 5,5 цэнт. ільнавалакна 17 нумарам і здаць дзяржаве 125,4 цэнт. па плану і звыш плана 240 цэнт., а ўсяго 365,4 цэнт.

У перыяд касавіцы калгаснікі паспяхова змагаліся за выкананне узятых на сябе абавязацельстваў. Абмеркаванне сталінскай Канстытуцыі яшчэ больш аб'яднала калгаснікаў на павышэнне працоўнай дысцыпліны і прадукцыйнасці працы.

Касцы калгаса «Чырвоная Проня», Добрынскага сельсовета, разгарнулі работу па-стаханаўску. Калгаснік **Шастакоў** скошваў у суткі 1,25 га, **Харковіч** Ціхон і **Гравоска** Андрэй па 1,20 га, а ўсе астатнія па 1,05 га. У сярэднім выпрацавалі норму на 200 проц. і больш.

У калгасе імя Варашылава тав. **Войтаў** Ягор і **Дуброўскі** Рыгор давалі па 300 і 400 проц. нормы ў дзень.

Старшыня калгаса «Гігант», Кляноўскага сельсовета, Куляшоў Ціхон заявіў:«Калі мы чыталі сталінскую Канстытуцыю, усе калгаснікі радаваліся, што жывуць у вялікую эпоху. Такой канстытуцыі нідзе больш у свеце няма. У кожным яе слове чуюцца клопаты аб нас нашага настаўніка і друга таварыша Сталіна. Зямлю нам далі навечна. Бедных, жабракоў у нас няма цяпер. І мы ўсе, як адзін, узялі абавязацельства—у гонар новай сталінскай Канстытуцыі ўбраць 180 га лугу і своечасова здаць дзяржаве сухое сена. Гэта абяцанне выканалі хутка. Ніколі мы так горача не працавалі, як працуем сёлета. Абяцаем працаваць у далейшым яшчэ лепш».

На агульным сходзе ў калгасе «Прагрэс», Дубровенскага сельсовета, калгаснікі **Барысоўскі** і **Іваноў** Трафім заявілі: «У сталінскай Канстытуцыі выражаны вялікія клопаты таварыша Сталіна аб жывым чалавеку. Зямля цяпер навечна перадана калгасу. Таварыш Сталін сказаў нам, што праз 3—4 гады мы павінны будзем даць 7—8 мільярдаў пудоў хлеба. І мы гэта зробім. Слова таварыша Сталіна—слова ўсяго народу Совецкага Саюза.

У калгасе «Чырвоная Проня», Добрынскага сельсовета, выступіла 75-гадовая калгасніца **Целяшова** Тадора: «Я кожную мінуту ўспамінаю імя Сталіна—тварца новага раднага жыцця. Я зараз адчуваю сябе маладою. Хочацца жыць яшчэ 100 год і любавацца нашым багатым жыццём. Хочацца спяваць вясёлыя песні пра слаўную радзіму, пра добрае, свабоднае жыццё».

Чатырохмесячнае вывучэнне і абмеркаванне новай сталінскай Канстытуцыі выхавала стаханаўцаў сталінскага гарту. З'явіліся новыя сотні майстроў—арганізатараў вялікай сталінскай справы ў калгаснай гаспадарцы.

У час цераблення і апрацоўкі лёну разгарнулася барацьба за першынства ў раёне.

У калгасе «Іскра», Кляноўскага сельсовета, калгасніцы выконвалі норму церабленне лёну на 200 проц. і больш. **Ракава** Васса выбірала 0,34 га замест 0,15, а потым паставіла рэкорд ручнога брання—0,50 га ў дзень і апрацоўкі ільнавалакна—27 кгр. у дзень. **Карпіцкая** Аксіння выбірала 0,37 га, **Скімнова** Ольга, **Раманенкава** Саламаніда выбіралі па 0,36 га.

У калгасе «Перамога», Расткоўскага сельсовета, калгасніца **Кузьменкова** Марыя заявіла на сходзе: «Новую Канстытуцыю даў нам родны наш таварыш Сталін. Я абавязваюся на ўсіх участках даваць найвышэйшую норму работы. У час жніва мы давялі норму выпрацоўкі ўжо на другі дзень да 0,52 га, а пад канец уборкі давалі 0,60 га. Тропку лёну пачалі з 15 кгр., праз дзень далі па 25 кгр. 16—18 нумару, а 29 верасня я выпрацавала 40 кгр. Я працую як маладая. Сілу, бадзёрасць і радасць дае мне новая сталінская Канстытуцыя. Дзякую таварыша Сталіна за тое, што ён навучыў мяне працаваць.

За сваю стаханаўскую работу я атрымліваю шмат прадуктаў і грошай».

У калгасе «Перамога», Цілявіцкага сельсовета, калгасніцы разгарнулі паміж сабою соцспаборніцтва. **Чэрвінская** Прося вытропвала ў дзень 32 кгр. лёну, **Ракоша** Марфа—30 кгр., **Лунькова** Ганна—27,5 кгр., **Кірэева** Аляксандра—22,5 кгр.

У калгасе імя Сталіна, Дубровенскага сельсовета, **Нудная** Аўгіння выпрацоўвала 60 кгр. і больш, а **Халько** Марыя 59 кгр. Яны зарабляюць у дзень 49,5 кгр. зярна, 2,88 цнтн. бульбы, 70 руб. 53 кап. грашмі. Іх працадзень у грашовым выражэнні складае 166 руб.

У калгасе «Майскі прыліў» звеннявая **Скупава** Дуся са сваім звяном вытрапала 166 кгр. лёну ў змену. Сама звеннявая натрапала 60 кгр., **Сідарава** Ганна 55 і **Сідарава** Марыя 51 кгр. Такіх герояў сталінскай эпохі сотні і тысячы ў раёне.

Старшыня калгаса «12 год Окцябрскай рэволюцыі» заявіў:

«Пры абмеркаванні новай Канстытуцыі мы абавязаліся да XIX гадавіны вялікай Окцябрскай рэволюцыі ўбраць увесь ураджай і выканаць усе абавязацельствы перад дзяржавай. К 20 кастрычніка свае слова мы стрымалі. Сёлета з работай справіліся на 25 дзён раней чым у мінулым годзе. У хаце кожнага калгасніка гарыць лямпачка Ільіча. У некаторых ёсць радыё. Кожны калгаснік мае карову і да 5 штук свіней».

Дубровенскі раён мае вялікія дасягненні ў соцыялістычным будаўніцтве.

У царскі час працоўныя раёна не бачылі радаснага жыцця. Царызм бязлітасна душыў малейшыя праявы нацыянальнай самасвядомасці і рэволюцыйнага руху. Само слова «Беларусь» не прызнавалася ўрадам. На вёсцы панавала беспрасветная цемра. І толькі заможная частка насельніцтва магла вучыць сваіх дзяцей.

На VIII раённым з'ездзе Советаў настаўнік горада Дуброўны тав. **Стасін** заявіў:

«Я шчаслівы, што ўдзельнічаю на VIII раённым з'ездзе Советаў. Радаснае жыццё даў нам таварыш Сталін. А як раней жылі настаўнікі? Яны батрачылі ў папоў, аралі, малацілі, вазілі гной, садзілі для іх бульбу, убіралі жыта. Я настаўнічаю больш 30 год. Пры царскай уладзе я зарабляў 3 рублі ў месяц, а цяпер—900 руб. Совецкая ўлада так высока паставіла настаўніка, як нідзе ў свеце».

Рабочыя, калгаснікі і працоўная інтэлігенцыя раёна добра памятаюць сваё катаржнае жыццё, пагалоўнае збіенне сялянства па ўказцы князя Любамірскага, яўрэйскія пагромы ў Дуброўне, Лядах.

Дубровенскі раён арганізаваны з 40 валасцей, на тэрыторыі якіх у царскі час было 19 цэркваў, 17 памешчыкаў, 1 князь, звыш 150 стражнікаў і ураднікаў і толькі адна прыватная платная больніца. З 50.000 насельніцтва ў валасцях зямлёй карысталіся: стражнікі і ураднікі—1775 га, цэрквы і папы—да 1000 га, кулакі—11.424 га. Адзін князь Любамірскі меў 20.423 га лесу, 14.700 га сенакосу, 3.834 га пахаці. Астатняя зямля—44 тыс. га—лічылася ў карыстанні сялян, і то беднякі аддавалі папу, кулаку і князю Любамірскаму па 3 пуды жыта і працавалі на іх кожны трэці дзень.

Пры совецкай уладзе раён вырас да непазнавання. Паасобныя сёлы і мястэчкі зрабіліся буйнымі культурнымі ачагамі. У кожнай вёсцы ёсць свая школа. Усяго ў раёне 67 пачатковых школ, 3 поўныя сямігодкі, 18 няпоўных, 2 рабфакі, 1 фабзавуч, 1 раённая калгасная школа. Працуе 425 настаўнікаў, 16 урачоў, звыш 30 малодшых ме-

дычных работнікаў. Арганізавана 110 дзіцячых ясляў, 5 клубаў, больніцы, радзільныя дамы, медпункты.

Пышна расцвіла мясцовая лёгкая прамысловасць. На фабрыцы «Дняпроўская мануфактура» працуе звыш 1000 рабочых. Замест папоўскіх залатых рыз, фабрыка ў сучасны момант выпрацоўвае мультаны, трыко і іншыя каштоўныя тавары. Створаны 4 цагельныя заводы, з іх 2 маюць Гофманаўскія печы. Развіваецца кааперацыйная арцельная гаспадарка. Працуюць 2 кравецкія арцелі, 2 шавецкія, 1 ткацкая, 2 вяровачныя, 2 кавальскія, 2 арцелі возчыкаў; 3 лесапільныя рамы.

У раёне зараз 158 калгасаў. 2 МТС узброены новымі машынамі. Калгасныя палі апрацоўваюцца больш як ста трактарамі. У раёне ёсць усе машыны апошняга слова савецкай тэхнікі: камбайны, жняяркі, снопавязалкі, малатарні, ільнацерабілкі, бульбакапалкі. Усіх складаных машын звыш 1000.

У чатырох саўгасах раёна працуе звыш 100 складаных машын. Саўгасы маюць свой матарызаваны транспарт: 12 грузавых і 3 легкавыя аўтамашыны. 27 калгасаў электрыфікавана, 10 сельсаветаў тэлефанізавана. Пракладзена 110 кіламетраў новых прасёлачных дарог. Калгасы маюць багатыя садовыя гаспадаркі. Сад у калгасе імя Блюхера займае 16 гектараў, у калгасе «13 год Окцябра»—звыш 10 га. У калгасах 20 буйных пчалаводных пасек, 140 жывёлагадоўчых ферм. У 1936 годзе прырост рагатай жывёлы складае звыш 4000 галоў, свіней 12.400 галоў, авечак 2.200 галоў. Каровамі забяспечана 98 проц. калгаснікаў.

У раёне няма такой гаспадаркі, дзе-б не разгарнуўся шырока стаханаўскі рух у гонар новай сталінскай Канстытуцыі. Раён заканчвае 1936 гаспадарчы год з вялікімі перамогамі. Ураджай зернавых на 25 проц. вышэй, чым у 1935 г. Летась калгаснікі здалі дзяржаве ільнавалакно ў сярэднім 7—9 нумарам, а сёлета здаюць 13—14 нумарам.

Палітычны і вытворчы рост насельніцтва вельмі высокі. У абмеркаванні праекта сталінскай Канстытуцыі прымала ўдзел 23.944 чалавекі (лічбы РВК). Унесена 42 прапановы. На старонках раённага друку па пытанню аб праекце сталінскай Канстытуцыі выступіла 60 чалавек, з іх 4 настаўнікі, 1 урач, 5 старшынь калгасаў, 3 калгасныя брыгады.

У калгасах Дубровенскага раёна засталося на рабоце многа былых палонных немцаў. На агульным сходзе ў калгасе «Чырвоная паляна» выступіў тав. **Нейман** Герман: «Я грудзьмі буду адстойваць сваю радзіму—краіну дыктатуры пролетарыята. Я—немец. Нас тры браты і ўсе мы працуем у Беларускай Рэспубліцы Саюза Саветаў. Адзін брат працуе старшынёй калгаса «Чырвоны чаранец», Клёнаўскага сельсовета, другі брат Вільгельм—у Будаўскім сельсовете Оршанскага раёна. Мы жывем у Совецкай краіне 19 год і ніколі не бачылі нацыянальнай варожасці, як гэта праводзіцца ў фашысцкай Германіі. Мы будзем грудзьмі абараняць ад нападу фашыстаў нашу новую радзіму—пролетарскую совецкую краіну».

Побач са станоўчымі нельга не адзначыць і адмоўныя бакі работы.

Райвыканком, горсовет і сельсоветы недаацанілі ўсёй важнасці шырокага абмеркавання праекта новай сталінскай Канстытуцыі. Спачатку фармальна падышлі да гэтай вялікай справы, не запісвалі выступленняў, не збіралі прапаноў, нават не афармлялі пратаколаў сходаў.

Гарачую любоў і ініцыятыву мас у абмеркаванні сталінскай Канстытуцыі недастаткова ўзначалілі секцыі советаў і дэпутацкія групы на месцах. Слабая палітычная завостранасць пытання дала магчымасць варожым элементам прaтаскваць на паасобных сходах антысовецкія тэорыі. У калгасе «Чырвоны чаранец», Клёнаўскага сельсовета, гр-н Вілейчыкаў гаварыў, што жанчынам не трэба даваць роўнапраўя. Супроць гэтай варожай антысовецкай вылазкі выступіла толькі адна калгасніца Дзергачова: «Роўнапраўе жанчыны не падабаецца толькі такім як Вілейчыкаў. Жанчына ў калгасе—вялікая сіла. Я асуджаю выступленне Вілейчыкава як антысовецкае і бяру на сябе абавязацельства працаваць па-стаханаўску, каб яшчэ больш замацаваць сваё роўнапраўе».

Недахопы ў рабоце совецкіх арганізацый па масаваму абмеркаванню новай сталінскай Канстытуцыі сярод насельніцтва былі выпраўлены райкомам партыі. РК КП(б)Б разбіў раён на ўчасткі з такім разлікам, каб яшчэ раз абмеркаваць у калгасах праект новай сталінскай Канстытуцыі.

Абмеркаванне сталінскай Канстытуцыі і справаздачнасці дэпутатаў праходзіла пры актыўным удзеле выбаршчыкаў. Прысутнічала 88,8 проц. выбаршчыкаў, з іх 90,9 проц. жанчын. Рабіла справаздачу 596 дэпутатаў.

На справаздачна-выбарчых сходах выступілі 1,854 чалавекі, з іх 971 жанчына. Рабочых выступіла 182, служачых 109, саматужнікаў 21, настаўнікаў 59, калгаснікаў 1.426, індывідуальных сялян 36 чалавек.

Раённы з'езд Советаў працаваў два дні: 14 і 15 лістапада. Са 166 дэпутатаў з'явілася на з'езд 157 чалавек, або 94,9 проц., з іх мужчын 102 чал. (65 проц.), жанчын 55 чал. (35 проц.).

Па дакладу аб выніках абмеркавання праекта новай сталінскай Канстытуцыі выступіла 39 чалавек, з іх 10 жанчын.

Усе выступаючыя з вялікім натхненнем расказвалі аб велічы сталінскай Канстытуцыі, аб новым радасным жыцці.

Старшыня калгаса «Чырвоная паляна» тав. **Якавенка** заявіў:

«Я быў батраком і не бачыў жыцця. Зараз у калгасе я гаспадар Шчаслівае жыццё ў калгасе мы атрымалі ад таварыша Сталіна. Зямля аддана нам навечна. Усе 66 двароў у калгасе электрыфікаваны. Асветлены нават хлявы, свірны, асеці. Наш калгас выканаў усе абавязацельствы перад дзяржавай. Калгаснікі на працадзень атрымаюць па 4 кгр. хлеба, па 2 руб. грашмі і іншыя прадукты».

На раённым з'ездзе советаў выявіўся велізарны рост палітычнай і творчай актыўнасці працоўных. Задача партыйных і совецкіх арганізацый—умела ўзначаліць гэту актыўнасць і энтузіязм мас, накіраваць іх на далейшую барацьбу за ўздым ураджайнасці і прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі, на далейшае разгортванне стаханаўскага руху ў калгасах, соўгасах, МТС і прадпрыемствах.

Б. Эйдзінаў

# Абмеркаванне праекта новай сталінскай Канстытуцыі на фабрыцы імя Куйбышэва

Цяжка перадаць усю радасць, творчы ўздым і энтузіязм, якія выклікаў праект новай сталінскай Канстытуцыі сярод рабочых менскай скургалантарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва. Ужо з першых дзён яго з'яўлення пачалася вялікая прапагандыцкая работа ў цэхах, групах і брыгадах.

Кожны пункт сталінскай Канстытуцыі, у якой залатымі літарамі запісана ўсё тое, што моцна і непарушна заваявана совецкім народам, глыбока вывучаўся ў партыйнай і комсамольскай сетцы фабрыкі, сярод спачуваючых і беспартыйнага актыва, на кватэрах стаханаўцаў. Партыйны кабінет на працягу пяці месяцаў сістэматычна працаваў з агітатарамі і чытчыкамі, арганізуючы для іх лекцыі, даклады і кансультацыі прапагандыстаў па асобных пунктах сталінскай Канстытуцыі.

Прапагандыст тав. Пам правёў з агітатарамі гутарку на тэму: «Як разумець пытанне аб ліквідацыі класаў у СССР». Сакратар парткома тав. Бруднер правёў гутарку на тэму: «Канстытуцыя соцыялістычнай дзяржавы». Тав. Эйдзінаў правёў гутарку «Аб знішчэнні процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай».

Аб сталінскай Канстытуцыі чыталі лекцыі і даклады для ўсіх рабочых фабрыкі прафесар Інстытута права тав. Гофман, нарком асветы тав. Дзьякаў і інш.

Агітатары тт. Чэрнін, Капілевіч, Гамер, Матусевіч, Гур'ян правялі гутаркі аб сталінскай Канстытуцыі на 15 кватэрах у стаханаўцаў.

Рабочыя і работніцы, выступаючы на сходах, прысвечаных абмеркаванню праекта новай сталінскай Канстытуцыі, выражалі сваё захапленне гэтым дакументам сусветна-гістарычнай важнасці, ініцыятарам, натхніцелем і творцам якога з'яўляецца вялікі правадыр народаў—таварыш Сталін.

Стары рабочы фабрыкі тав. Гур'ян сказаў:

«Чытаючы праект новай сталінскай Канстытуцыі, на сэрцы робіцца яшчэ радасней. Кожны з нас ганарыцца перамогамі нашай выдатнай краіны. Мне 58 год. 43 гады працую шорнікам. Да рэволюцыі для мяне і маіх дзяцей дарога к асвеце была закрыта. Окцябрская рэволюцыя дала мне магчымасць выхаваць як належыць сваіх дзяцей і зрабіць з іх інжынераў і тэхнікаў. Я ганаруся сваімі дзецьмі. Сын мой

Яша, якому зараз 25 год, скончыў Энергаінстытут і працуе інжынерам на ТЭЦ. Другі сын, Самуіл, скончыў аўтадарожны тэхнікум і працуе старшым дыспетчарам. Трэці сын вучыцца на 2 курсе Інстытута права.

Толькі партыя Леніна—Сталіна стварыла такое свабоднае, радаснае, шчаслівае жыццё, аб якім раней і марыць не маглі. Я рад, што дажыў да вялікіх дзён, калі наша краіна атрымала самую дэмакратычную Канстытуцыю ў свеце. Старыя і маладыя рабочыя ў капіталістычных краінах, цяжка працуючы з раніцы да ночы за мізэрную заработную плату, не могуць і марыць аб вучобе. У нашай соцыялістычнай краіне і старыя рабочыя маюць магчымасць атрымаць асвету, бо ў нас яны адчуваюць сябе маладымі і бадзёрымі. Цяга да вучобы ў іх вялікая. Таму я прапаную праводзіць прыём у вузы без абмежавання ўзросту».

Іменна толькі ў нас працоўныя маюць права на асвету. Для іх адчынены дзверы сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. За апошнія 5 год некалькі дзесяткаў рабочых нашай фабрыкі скончылі сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы і зараз працуюць інжынерамі, тэхнікамі, лейтэнантамі, лётчыкамі.

Тав. Міцэнмахер у 1928 годзе прышоў на фабрыку малаграматным, а цяпер скончыў Маскоўскі скураны тэхнікум. Тт. Чэрчэс, Гарэлік, Дзінэрштэйн, Цуркоў, Гур'ян і інш. скончылі тэхнікумы і займаюць на фабрыцы кіруючыя пасты. Чэрчэс працуе начальнікам аднаго з буйнейшых цэхаў фабрыкі, Гур'ян—электратэхнікам, Цуркоў—мадэльерам. Усе яны добра спраўляюцца са сваёй работай.

«Працоўныя жанчыны капіталістычных краін ганарацца нашымі дасягненнямі, нашай сталінскай Канстытуцыяй»,—заявіла на сходзе старая работніца-стаханаўка Гурына.—Іменна ў нас жанчыны, нароўні з мужчынамі, прымаюць актыўнейшы ўдзел у многагранным будаўніцтве соцыялізма. Цяжкім было маё жыццё да Окцябрскай рэволюцыі. Я працавала ў памешчыка, які неміласэрна мяне эксплаатаваў. Падвал, дзе я жыла, падобны быў на пограб. Вечная вільгаць, холад, нястаткі. Па другому зажыла я пры совецкай уладзе. 5 год працую на фабрыцы і не раз прэміравана, як лепшая стаханаўка.

Мая маладасць толькі пачынаецца. Жыву зараз у трох добра абсталяваных пакоях. Прыдзеш з работы—ёсць дзе адпачыць. Дзеці мае працуюць на адказных участках. Старэйшы сын Нікалай—намеснік дырэктара Горкаўскага аўтарамонтнага завода. Дачка Каця—адказны сакратар Наркамзнешгандлю ў Маскве. Малодшы сын Пётр вучыцца і працуе на нашай фабрыцы.

Кожнае слова сталінскай Канстытуцыі ярка гаворыць аб велізарнай увазе і клопатах, якія праяўляе наш любімы правадыр к працоўным жанчынам нашай краіны».

«Сталінская Канстытуцыя адлюстроўвае радаснае і вясёлае жыццё,—заявіў стаханавец тав. Будняцкі.—У цёмную пару мінулага я працаваў па найму ў шорнай майстэрні па 14 гадзін у дзень, не ведаючы адпачынку. Жыў я галадна, хоць і быў адзін. Цяпер працую 7 гадзін. Сям'я мая з трох чалавек добра забяспечана. Штогод я бываю ў дамах адпачынку. У мінулым асвета з'яўлялася справай буржуазіі, і я быў нягараматным. Цяпер чытаю літаратуру, газеты, наведваю палітшколу, добра разбіраюся ў міжнароднай абстаноўцы.

Кожны пункт сталінскай Канстытуцыі ёсць адлюстраванне нашага

жыцця, тады як буржуазныя канстытуцыі накіраваны на эксплаатацыю працоўных, хлуслівы, ашуканчы.

За нашу краіну я, як і ўсе працоўныя, гатоў аддаць сваё жыццё да апошняй каплі крыві. Але, каб умець абараняць сваю радзіму, кожны працоўны павінен добра ведаць ваенную справу».

Рабочы калектыў штодзенна працуе над тым, каб ператварыць сваю фабрыку ў крэпасць абароны. Толькі за 1936 год 261 чалавек здаў нормы на значок ПВХО, 45—на значок «Варашылаўскага стралка», 47—на значок ГСА, 55—на значок ГПА, 8 чалавек скончылі планерную школу. Мы выпусцілі 8 інструктароў ПВХО. Рабочыя трэніруюцца, працуючы ў процівагазах. Не раз мы наладжвалі выхады ў процівагазах на некалькі кілометраў.

Рабочы калектыў фабрыкі, як і ўвесь народ вялікага Савецкага саюза, згуртаваны сталінскай воляй, гатоў даць сакрушальны адпор усякаму, хто пасмее напасці на нашу шчаслівую радзіму.

Наша фабрыка налічвае зараз каля 800 рабочых і выпускае ў год прадукцыі на 14 млн. руб. Вырасла яна з невялічкага прац-калектыва ў 59 рабочых, з гадавой прадукцыяй у 315 тыс. рублёў. К вялікаму святу XIX гадавіны Окцябра фабрыка адкрыла свае яслі на 100 дзяцей. У 1937 годзе будзе гатовы новы чатырохпавярховы дом для рабочых. У бліжэйшыя 2—3 гады фабрыка давядзе выпуск сваёй прадукцыі да 45 мільёнаў рублёў.

Шырока разгарнуўшы стаханаўскі рух, наша фабрыка з дня ў дзень, з месяца ў месяц выконвае і перавыконвае свае вытворчыя заданні. За 10 месяцаў гэтага года фабрыка не толькі выканала план, але і выпусціла прадукцыі на 898,8 тыс. руб. звыш плана.

Рабочы калектыў і інжынерна-тэхнічныя работнікі, каб дастойна сустрэць Надзвычайны з'езд Советаў, на якім будзе зацверджана новая сталінская Канстытуцыя, узялі на сябе абавязацельства выканаць гадавы план к 25 лістапада. Гэта абавязацельства выконваецца з гонарам.

Фабрыка мае ўжо 385 стаханаўцаў, з іх 58 двухсотнікаў, якія паказваюць узоры высокай прадукцыйнасці працы.

Стаханавец-двухсотнік тав. Дзятко выконвае план на 319 проц., тав. Давідаў—на 257 проц., тав. Гуртоўнік—на 180 проц., тав. Тылецкі—на 432 проц.

З кожным месяцам павышаецца заработная плата, паляпшаецца дабрабыт рабочых.

Вось яркія прыклады:

Тав. Дзятко ў кастрычніку мінулага года зарабляў 134 руб. у месяц, у верасні гэтага года 493, а ў кастрычніку—557 руб. Тав. Давідаў, адпаведна: 276, 323 і 553 руб., тав. Тылецкі—248, 427 і 553 руб., стаханаўка-двухсотніца тав. Сонкіна—337, 529 і 601 руб.

Стаханавец закройнага цэха тав. Салавейчык за гэты год набыў патэфон за 400 руб., гадзіннік за 250 руб., касцюм за 500 руб. і іншыя рэчы. Рабочы тав. Шымулінскі купіў сабе веласіпед за 400 руб., паліто за 900 руб. і касцюм за 500 руб. Стаханавец тав. Давідаў зрабіў для сябе і сваіх дзяцей за гэты год закупак больш чым на 2.000 руб. Такіх прыкладаў росту дабрабыту рабочых фабрыкі можна прывесці дзесяткі.

Працоўныя Совецкай краіны маюць права на адпачынак. Толькі за гэты год у дамах адпачынку было 200 рабочых нашай фабрыкі, 20 чалавек на курортах, 12 у санаторыях, 152 піонеры і окцябраты былі ў піонер-лагерах, 87 дзяцей ясельнага ўзросту былі на дачах. Таксама на дачах адпачывалі 15 стаханаўцаў са сваімі сем'ямі.

Наша жыццё з кожным днём становіцца весялей і радасней. Усё, што намі заваявана і ўпісана ў сталінскую Канстытуцыю, звязана з імем любімага правадыра і настаўніка, бацькі і друга—з імем вялікага Сталіна.

С. Поссэ

# Вышэй рэволюцыйную пільнасць на гісторыка-партыйным участку ідэалагічнага фронту

Контррэволюцыйны тэрарыстычны трацкісцка-зіноўеўскі цэнтр фізічна знішчаны. Але гэта не значыць, вядома, што ўскрыты ўсе контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія гнёзды, гэта не значыць, што мы нашчупалі ўсе сувязі, якія ішлі ад контррэволюцыйнага тэрарыстычнага трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра да перыферыі.

Мы павінны мець на ўвазе таксама, што арганізатар і натхніцель цэнтра Троцкі мае магчымасць у той ці іншай форме працягваць сваю контррэволюцыйную тэрарыстычную дзейнасць агента Гестапо за-граніцай. Таму няма ніякіх падстаў для супакаення. Мы не толькі павінны захоўваць на пэўнай вышыні рэволюцыйную пільнасць, мы яе павінны зараз усямерна ўзмацняць.

Бо няма ніякіх сумненняў у тым, што пасля працэсу над контррэволюцыйным трацкісцка-зіноўеўскім тэрарыстычным цэнтрам вораг будзе імкнуцца да больш стараннай маскіроўкі, да яшчэ больш уважлівай канспірацыі. І нам патрэбна надзвычайная пільнасць, каб ускрыць ворага, каб паралізаваць у самым корані яго контррэволюцыйныя імкненні.

Тым больш патрэбна асаблівая пільнасць нам—працуючым на Беларусі. Трэба мець на ўвазе, што Беларусь з'яўляецца прымежнай рэспублікай і што цэлы рад актыўных удзельнікаў контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра дзейнічаў непасрэдна на Беларусі. Вазьміце хоць-бы аднаго з расстраляных па справе трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра—Ольберга. Ён працаваў у Менску і тут быў цесна звязаны з адным з актыўных агентаў трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра—Розенблюмам. Расстраляныя па справе трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра Рэйнгольд і Пікель адыгрывалі тут, на Беларусі, у гады грамадзянскай вайны вельмі відную ролю і ўжо тады вялі барацьбу супроць лініі партыі. Расстраляны па справе гэтага-ж цэнтра Дрэйцэр—таксама менчанін.

Нам нельга забываць таксама, што ў нас, на Беларусі, як гэта паказала праверка і абмен партыйных дакументаў і асабліва факты, устаноўленыя пасля абмену партыйных дакументаў,—варожыя элементы ні на мінуту не спыняюць сваёй падпольнай контррэволюцыйнай дзейнасці. Мы маем на ўвазе ўскрытыя за апошні час на Беларусі контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія гнёзды ў рэдакцыі газеты «Звязда» (справа Розенблюма), Белдзяржвыдавецтве (справа Мілова), Белкаапсаюзе, ВКСГШБ, віцебскім дэпо і інш.

Тав. Гікало ў сваім артыкуле «Двурушніцтва—метад класавага ворага» указваў, што ўсе гэтыя факты сведчаць, па-першае, аб тым што:

> «у радзе партыйных арганізацый КП(б)Б яшчэ не навучыліся поўнасцю і да канца распазнаваць і ўскрываць двурушніцкія метады ворага, і, па-другое, аб тым, што ў радзе партыйных арганізацый КП(б)Б мелі месца ратазейства, благадушша, самасупакоенасць і прамая страта рэволюцыйнай пільнасці».

Неабходнасць асаблівага павышэння рэволюцыйнай пільнасці ў нас, на Беларусі, дыктуецца і некаторымі асаблівасцямі яе гістарычнага мінулага, у прыватнасці, складаным пераплётам нацыянальных адносін.

Тав. Гікало ў артыкуле «Урокі праверкі ў Беларускай партарганізацыі» пісаў:

> «Дарэволюцыйная Беларусь, зняволеная царскай Расіяй, з'яўлялася эканамічна адсталай краінай, не меўшай магутнага індустрыяльнага пролетарыята і буйных пролетарскіх цэнтраў. У беларускіх гарадах пераважала дробная буржуазія (дробныя гандляры, саматужнікі, рамеснікі). Сельская гаспадарка знаходзілася на празмерна нізкім узроўні. Памешчык, пан і кулак на вёсцы адыгрывалі дамінуючую ролю. Асабліва вялікa была адсталасць Беларусі ў галіне культуры. Развіццё класавай барацьбы ўскладнялася шматнацыянальным складам народаў, насяляючых Беларусь.
>
> На гэтай глебе і развіваўся на тэрыторыі сучаснай Беларусі рад контррэволюцыйных, нацыяналістычных і дробнабуржуазных партый, як Бунд, эсэры, меншавікі».

Цэлы рад людзей з гэтых дробнабуржуазных нацыяналістычных партый, толькі для канспірацыі згарнуўшых свае сцягі, пранік у свой час у рады КП(б)Б і праводзіў там на працягу многіх год падпольную падрыўную работу. Гэтыя людзі з'яўляліся адным з асноўных рэзерваў, адкуль потым чэрпалі свае кадры трацкісты і зіноўеўцы. Неабходна падкрэсліць, што многія з гэтых выхадцаў пайшлі ў КП(б)Б ужо з пэўным вопытам двурушніцтва, паколькі метады ашуканства, здрадніцтва, правакацыі, забойства з-за вугла—усё гэта рысы, арганічна ўласцівыя гэтым партыям, як агентуры контррэволюцыйнай буржуазіі.

І не выпадкова, вядома, Ленін яшчэ ў 1921 годзе ў артыкуле аб чыстцы партыі пісаў:

> «... Па-мойму, з меншавікоў, уступіўшых у партыю пазней пачатку 1918 г., трэба было-б пакінуць у партыі, прыкладна, не больш адной сотай долі, ды і то праверыўшы кожнага застаўляемага тры і чатыры разы. Чаму? Таму, што меншавікі, як плынь, даказалі за перыяд 1918—1921 гг. дзве свае ўласцівасці: першую—майстэрскі прыспасабляцца, «прымазвацца» да пануючай сярод рабочых плыні; другую—яшчэ больш майстэрскі служыць верай і праўдай белагвардзейшчыне, служыць ёй на справе, адракаючыся ад яе на словах. Абедзве гэтыя ўласцівасці выцякаюць з усёй гісторыі меншавізма: варта прыпомніць аксельродаўскі «рабочы з'езд», адносіны меншавікоў да кадэтаў (і да манархіі) на словах і на справе і г. д. і т. п. Меншавікі «прымазваюцца» да Р.К.П. не толькі і нават не столькі з макіяве-

лізма (хоць па частцы прыёмаў буржуазнай дыпламатыі меншавікі з 1903 яшчэ года даказалі, што яны першакласныя майстры ў гэтай галіне), колькі з-за іх «прыспасабляемасці». Усякі апартуніст адметны прыспасабляемасцю (але не ўсякая прыспасабляемасць ёсць апартунізм), і меншавікі, як апартуністы, прыспасабляюцца, так сказаць, «з прынцыпу» да пануючай сярод рабочых плыні, перафарбоўваюцца ў зашчытны колер, як заяц робіцца белым зімой. Гэтую асаблівасць меншавікоў трэба ведаць і трэба яе ўлічыць. А ўлічыць яе—гэта значыць ачысціць партыю прыкладна да дзевяноста дзевяці сотых усяго ліку меншавікоў, прымкнуўшых да Р. К. П. пасля 1918 г., г. зн. тады, калі перамога большэвікоў стала станавіцца спачатку імавернай, потым бясспрэчнай.

Ачысціць партыю трэба ад мазурыкаў, ад абюракраціўшыхся, ад нячэсных, ад няцвёрдых комуністаў і ад меншавікоў, якія перафарбавалі «фасад», але засталіся ў душы меншавікамі» *).

Павышэнне рэволюцыйнай пільнасці непарыўна звязана з задачай усямернага ўзмацнення нашай ідэйнай узброенасці.

А што перш за ўсё азначае ўзмацненне нашай ідэйнай узброенасці? Яно азначае сапраўды глыбокае аўладанне веданнем гісторыі нашай партыі і, у асаблівасці, яе барацьбы з ворагамі ўнутры рабочага руху, з антыпартыйнымі плынямі, групоўкамі, фракцыямі і т. п. Мы павінны асабліва ўважліва вывучыць тую барацьбу, якую правяла наша партыя на чале з **Леніным,** на чале з таварышам **Сталіным** супроць трацкістаў і зіноўеўцаў. Трэба вывучыць гэту барацьбу на ўсіх этапах, таму што той ганебны, бясслаўны канец тэрарыстаў-двурушнікаў, шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў не выпадковы—ён падрыхтаваны ўсёй іх папярэдняй дзейнасцю.

Прыкладна за апошнія 8—9 год, калі палітычная перамога партыі і правільнасць яе лініі сталі відавочны і бясспрэчны, а безнадзейнасць і прўны правал пазіцыі ўсіх і ўсякіх антыпартыйных груп не падлягалі ніякаму сумненню, трацкісты і зіноўеўцы, абанкроціўшыся ўшчэнт і пазбавіўшыся ўсякага падтрымання партыйных мас, зрабілі двурушніцтва асноўным метадам барацьбы супроць партыі.

Таварыш Сталін з геніяльнай празарлівасцю не раз папярэджваў партыю за апошнія гады аб тым, што класавы вораг ад адкрытых форм барацьбы ўсё больш і больш пераходзіць да барацьбы супроць партыі і совецкай улады «ціхаю сапай». Таварыш Сталін таксама папярэджваў яшчэ некалькі год таму назад, што «рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў». Ён указваў, што «на гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў».

Іменна таварыш Сталін ускрыў тыя новыя метады—метады двурушніцтва, якія сталі асновай, запаведдзю трацкістаў і зіноўеўцаў. Таварыш Сталін асоба падкрэсліў, што трацкісцка-зіноўеўская контррэволюцыйная група, цяпер разгромленая да канца,—была самай здрадніцкай і самай ганебнай з усіх фракцыйных груп у гісторыі нашай партыі. Па сутнасці, яна была замаскаванаю формай белагвардзейскай арганізацыі, якая на працягу многіх год вяла жорсткую барацьбу супроць нашай партыі—барацьбу за рэстаўрацыю капіта-

*) **Ленін,** т. XXVII, стар. 13.

лістычнага ладу ў Совецкім Саюзе—і ў поўнай меры заслужыла, каб з яе членамі абыходзіліся, як з белагвардзейцамі.

Таварыш Сталін падкрэсліваў, як вывад адсюль, што «рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Прасочым хоць-бы у самых агульных рысах гістарычны шлях гэтых страціўшых чалавечае аблічча белабандытаў-тэрарыстаў.

Якую пазіцыю займаў Троцкі на другім з'ездзе партыі ў пытанні аб дыктатуры пролетарыята? Ён сцвярджаў, што дыктатура пролетарыята толькі тады зможа ажыццявіцца, калі пролетарыят складзе большасць нацый, калі пролетарыят і партыя будуць блізкі да ўтоесамлення. Хіба ў гэтай фармуліроўцы не закладзена было адмаўленне магчымасці пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва на аснове саюза рабочага класа з сялянствам, адмаўленне аднаго з важнейшых ленінскіх палажэнняў, што вышэйшым прынцыпам дыктатуры пролетарыята з'яўляецца саюз рабочага класа з сялянствам пры ўмове, што ў гэтым саюзе пролетарыят будзе адыгрываць кіруючую ролю.

Успомнім пазіцыю Троцкага ў пытанні аб статуце партыі. На II з'ездзе ён заядла абараняў той пункт погляду, які адстойвалі Мартаў, Аксельрод і інш. Што-ж гэта была за лінія? Гэта была лінія на расслабленую, струхлелую дробнабуржуазную партыю, якая не здолела-б кіраваць пролетарыятам у жорсткіх бітвах з буржуазіяй.

Выступаючы на з'ездзе супроць Леніна, Троцкі са зняважай гаварыў аб дысцыпліне ў партыі. Ён сцвярджаў, што статут не можа служыць перашкодай для пранікнення апартунізма ў рады партыі. Гэтым самым ён, па сутнасці, апраўдваў, як зусім законную з'яву, знаходжанне і сужыццё ўнутры партыі ўсякага роду антыпартыйных, апартуністычных фракцый, груп і плыней.

У 1904 годзе Троцкі ў сваім паклёпніцкім памфлеце «Нашы палітычныя задачы» абліваў граззю Леніна, не сцясняючыся ў самых подлых, гнусных выразах, накіраваных асабіста супроць Леніна. У гэтай гнуснай кніжыцы ён ужо тады прапаведваў для будучага рэжыму дыктатуры пролетарыята свабоду фракцый і груповак унутры партыі і самую партыю разглядаў не як кіруючы атрад рабочага класа, а як люстра настрояў рабочага класа. Ужо тады ў ім вельмі яскрава праявіўся гнусны кар'ерысцкі твар двурушніка, подлага прыслужніка буржуазіі.

Возьмем Троцкага ў перыяд буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905 г., возьмем яго прэславутую тэорыю «перманентнай» рэволюцыі. Што прадстаўляе сабой гэта тэорыя? Гэта ёсць тэорыя няверʼя ў сілы рабочага класа, у здольнасці рабочага класа павесці за сабою сялянства, тэорыя, якая выключае ленінскае палажэнне аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, тэорыя, якая адмаўляе ленінскае вучэнне аб дыктатуры пролетарыята. Абсалютна відавочна, што калі Троцкі гаварыў аб «урадзе рабочых», ён меў на ўвазе зусім не дыктатуру пролетарыята, а ўрад буржуазны па сутнасці, урад тыпу Макдональда. Тэорыя «перманентнай» рэволюцыі Троцкага з яе пераскокваннем праз няізжытыя этапы рэволюцыі, са сцверджаннем, што пролетарыят на другі дзень пасля сваёй перамогі прыдзе ў сутычку з шырокімі масамі сялянства, з адмаўленнем магчымасці перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі без прамога дзяржаўнага падтрымання з боку пролетарыята перадавых капіталістычных краін была па сутнасці толькі задрапіраванай капітулянцкай меншавіцкай тэорыяй, наскрозь варожай вучэнню Маркса аб перманентнай рэволюцыі, наскрозь варо-

жай глыбока інтэрнацыянальнаму ленінскаму вучэнню аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Гады рэакцыі. Троцкі прыкрываецца разгаворчыкамі аб пазафракцыйнасці, на справе насаджвае беспрынцыпнае прымірэнцтва-цэнтрызм, арганізуе блок з ліквідатараў-адзавістаў, бундаўцаў і т. п. супроць партыі.

Ленін у гады рэакцыі з выдатнай меткасцю ахрысціў Троцкага «Іудушкай».

У заметцы «Аб чырвані сораму ў Іудушкі-Троцкага» Ленін піша:

> «Іудушка Троцкі распінаўся на пленуме супроць ліквідатарства і адзавізма. Каяўся і бажыўся, што ён партыйны. Атрымліваў субсідыю.
>
> Пасля пленума аслабеў Ц.К., узмацніліся ўпяродаўцы—абзавяліся грашмі. Умацаваліся ліквідатары, пляваўшыя ў «Нашай зары» перад Сталыпіным у твар нелегальнай партыі».

І далей Ленін гаворыць аб двурушніцкай, здрадніцкай дзейнасці Троцкага, які патураў адзавістам і ўсім антыпартыйным элементам, скалачваў іх у блок супроць партыі. Ленін заключае гэту сваю заметку наступнымі словамі:

> «І сей Іудушка б'е сябе ў грудзі і крычыць аб сваёй партыйнасці, запэўніваючы, што ён ні ў якім разе перад упяродаўцамі і ліквідатарамі не прасмыкаўся.
>
> Такава чырвань сораму ў Іудушкі Троцкага» *).

Некалькі пазней таварыш Сталін у сваім пісьме Леніну з Сольвычэгодскай ссылкі наступным чынам ахарактарызаваў пазіцыю Троцкага:

> «Трацкоўскі блок...—гэта тухлая беспрынцыпнасць, манілаўская амальгама рознародных прынцыпаў, бездапаможны сум беспрынцыпнага чалавека па «добраму» прынцыпу. Логіка рэчаў сурова прынцыпова па сваёй прыродзе і яна не пацерпіць амальгам» **).

Твар Троцкага, як правакатара, які на словах гаворыць, што ён за партыю, за адзінства партыі, а на справе вядзе барацьбу супроць партыі, арганізуе беспрынцыпны блок антыпартыйных сіл супроць большэвікоў,—выступае ва ўсёй сваёй агіднай нагаце.

Ленін піша:

> «Троцкі павёў сябе, як падлейшы кар'ерыст і фракцыянер тыпу Разанава і К°. Балбоча аб партыі, а трымае сябе горш усіх іншых фракцыянераў» ***).

Далей, перыяд вайны. Якую пазіцыю займае Троцкі ў гэты перыяд? Ён зноў-такі займае двурушніцкую пазіцыю, пазіцыю цэнтрызма. Ён выступае супроць большэвіцкіх лозунгаў аб ператварэнні імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую, аб паражэнні сваёй бацькаўшчыны. Ён выступае супроць ленінскай тэорыі аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, высоўваючы цэнтрысцкія лозунгі: «ні перамогі, ні паражэння», «барацьба за мір» і «злучаныя штаты Еўропы», за якімі крыецца адмаўленне ад выкарыстання ваеннай абстаноўкі ў інтарэсах пролетарскай рэволюцыі. Фальшыва аб'яўля-

---

*) Ленінскі зборнік XXI, стар. 303.
**) „Большэвік" № 1—2 за 1932 г.
***) Ленінскі зборнік XXV, стар. 38.

ючы сябе інтэрнацыяналістам, ён разам з тым выказваецца супроць разрыву з соцыял-шавіністамі. І Ленін з поваду пазіцыі Троцкага ў гады вайны піша:

> «Не так страшны і шкодны адкрыты апартунізм, які адштурхвае ад сябе адразу рабочую масу, як гэта тэорыя залатой сярэдзіны, якая апраўдвае марксісцкімі славечкамі апартуністычную практыку, даказвае радам сафізмаў нясвоечасовасць рэвалюцыйных дзеянняў і інш.» *).

У 1917 годзе Троцкі зноў-такі абараняе цэнтрысцкія ідэі. Ён прыязджае ў Расію і дамагаецца беспрынцыпнага аб'яднання ўсіх плыней, усіх напрамкаў у адну партыю.

Ленін у самым пачатку 1917 года перасцерагае партыю супроць беспрынцыпнага аб'яднанства.

Ён піша:

> «Па-мойму, галоўнае цяпер—не даць сябе заблытаць у глупыя «аб'яднанчыя» спробы з соцыял-патрыётамі (або, яшчэ небяспечней, хістаючыміся накшталт Арганізацыйнага Камітэта, Троцкага і К°) і прадаўжаць работу **сваёй** партыі ў паслядоўна-**інтэрнацыянальным** духу» **).

У 1917 годзе менскія большэвікі не ўлічылі гэтай перасцярогі Леніна і пашлі на аб'яднанне з меншавікамі. І тым не менш у гістарычнай літаратуры, якая ў нас вышла і якая да гэтага часу не раскрытыкавана і не із'ята, беспрынцыпнае аб'яднанства менчан цэлым радам аўтароў зусім адкрыта расцэньваецца як станоўчы факт.

Не выпадкова гэтыя-ж аўтары замоўчваюць гісторыю Палескай арганізацыі ў 1917 годзе, той арганізацыі, якая на Беларусі была адзінай самастойнай большэвіцкай арганізацыяй, што не пашла ні на якія пагадненні з меншавікамі і якая ў 1917 годзе ўзначальвалася Лазарам Майсеевічам Кагановічам, адыграўшым выключна вялікую ролю ў Гомелі, дзе ён здолеў скалаціць моцных большэвікоў і праводзіў велізарную работу па выкрыццю гэтых самых аб'яднанчых ідэй у радзе навакольных гарадоў. Паміж іншым, дзякуючы Л. М. Кагановічу, у кастрычніку 1917 года былі затрыманы эшалоны, якія ішлі з фронту для падаўлення паўстання ў Піцеры і Маскве. Дык вось пра гэту выдатную арганізацыю нічога не гавораць, аб тав. Кагановічу зусім не ўпамінаюць, хоць ён быў старшынёю Палескага камітэта ў вялікія Окцябрскія дні 1917 года.

Возьмем кнігу «Кастрычнік на Беларусі». Яна складзена тав. Агурскім. У гэтай кнізе не ўпамянута не толькі імя тав. Кагановіча, але нават і імя таварыша Сталіна, які непасрэдна кіраваў барацьбой беларускіх большэвікоў, імя таварыша Сталіна, які быў непасрэдным арганізатарам КП(б)Б, непасрэдным арганізатарам БССР, імя таварыша Сталіна, які кіраваў кожным крокам беларускіх большэвікоў, які ў адказнейшую мінуту, калі палякі знаходзіліся ў 4 кілометрах ад Менска, кіраваў яго абаронай. Але затое ў гэтай кнізе, складзенай тав. Агурскім, вельмі гасцінна прадастаўлена месца ад'яўленейшым ворагам партыі і совецкай улады—цяпер ужо расстраляным па справе трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра.

Сярод кніг па пытаннях гісторыі КП(б)Б, па пытаннях гісторыі пролетарскай рэволюцыі на Беларусі няма ніводнай, дзе пісалася-б аб

*) **Ленін**, т. XVIII, стар. 279.
**) **Ленін**, т. XX, стар. 7.

ролі, якую адыграў тав. Кагановіч у 1917 годзе ў Гомелі, дзе было-б сказана аб ролі таварыша Сталіна як арганізатара КП(б)Б, як арганізатара абароны Менска—пра адну з самых бліскучых і гераічных старонак у гісторыі грамадзянскай вайны ў БССР.

Звернемся да пытання аб трацкізме. У 1917 годзе Троцкі, як мы ўжо адзначалі вышэй, носіцца са сваімі ідэямі беспрынцыпнага аб'яднанства, за якімі скрываецца імкненне, пранікнуўшы ў партыю, узарваць яе знутры.

Напярэдадні пролетарскай рэволюцыі Троцкі перавыдаў сваю «Праграму міру», у якой ён піша:

> ...«Безнадзейна думаць, што, напрыклад, рэволюцыйная Расія магла-б устаяць перад тварам кансерватыўнай Еўропы».

Гэта пазіцыя Троцкага—пазіцыя нявер'я ў сілы пролетарыята, у яго здольнасць павесці за сабою сялянства,—яшчэ больш выразна выступае зараз-жа пасля перамогі пролетарскай рэволюцыі, у дні Брэста, калі Троцкі заяўляе, што лепш пасці пад ударамі нямецкіх штыкоў, чым быць задушаным у абдымках сялян. Ён займае сапраўды правакацыйную пазіцыю, калі, наперакор дагаворанасці з Леніным, наперакор дырэктывам партыі, ідзе на ажыццяўленне сваёй беспрынцыпнай формулы: «ні мір, ні вайна». І ў сілу таго, што Троцкі праводзіць у жыццё гэту здрадніцкую формулу, мы вымушаны былі ў другі раз заключаць мір з немцамі на значна цяжэйшых умовах.

Далей, гады грамадзянскай вайны. Вазьміце лінію Троцкага ў пытаннях ваеннага будаўніцтва. Паглядзіце, да чаго зводзіцца гэта лінія. Гэта лінія зводзіцца да выпячвання сваёй персоны, гэта курс на кулацкі склад Чырвонай арміі, гэта лінія на тое, каб аддаць Чырвоную армію ў бескантрольнае распараджэнне ваенспецам, гэта пагардлівыя, варожыя адносіны да большэвікоў у арміі. А стратэгія і тактыка Троцкага. Калі-б былі праведзены ў жыццё тыя загады, якія адстойваліся Троцкім, мы атрымалі-б самую жорсткую ваенную катастрофу. Заўсёды, у самую адказную мінуту, на самым адказным участку, па прамых указаннях Леніна ратаваць становішча прыязджаў таварыш Сталін і ратаваў. Гэта было тады, калі на ўсходнім фронце стварылася цяжкае становішча, калі стварылася блізкае да катастрофы становішча на паўднёвым фронце, калі стварылася цяжкае, пагражаючае становішча на заходнім фронце і т. д.

К часу сканчэння грамадзянскай вайны, к часу пераходу на рэйкі мірнага гаспадарчага будаўніцтва—якую пазіцыю заняў Троцкі? Ён прапаноўваў па сутнасці, у якасці адзінага метаду, у якасці адзінага сродку выратавання,—працягванне палітыкі ваеннага комунізма. А што гэта значыла ва ўмовах мірнага будаўніцтва? Гэта значыла пайсці на разрыў саюза рабочага класа з сялянствам. Гэта значыла пайсці на пагібель дыктатуры пролетарыята. У аснове трацкісцкай платформы па пытанню аб ролі і задачах профсаюзаў ляжала нявер'е ў магчымасць пабудовы соцыялізма ў адной краіне на аснове саюза рабочага класа з сялянствам.

Пад флагам бюракратычнага ператрахвання профсаюзаў зверху Троцкі спрабаваў высунуць свае кадры на рашаючыя ўчасткі партыйнага і гаспадарчага будаўніцтва і такім чынам падрыхтаваць сабе глебу для аўладання кіраўніцтвам.

Возьмем, далей, платформу Троцкага ў 1923 г.: яго лозунг аб дыктатуры прамысловасці, выступленне супроць фінансавай рэформы, яго пазіцыю ва ўнутрыпартыйных пытаннях. Няцяжка бачыць, што ў аснове гэтай платформы ляжала нявер'е ў магчымасць пабудовы со-

цыялізма ў нашай краіне. Так сама, як і ў час профсаюзнай дыскусіі, Троцкі ў 1923 г. узнімае пытанне аб ператрахванні большэвіцкіх кадраў, толькі не зверху, а знізу. З мэтай зрыву вялікай справы соцыялістычнага будаўніцтва ён выступае як замаскаваны агент буржуазіі, не грэбаючы ніякімі сродкамі ў барацьбе за ўладу. У дыскусіі 1923 г. партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна дае сакрушальны адпор Троцкаму, і ён, адчуваючы, што губляе глебу пад нагамі, на кароткі перыяд згортвае свае флагі, каб падпольна працягваць подлую здрадніцкую барацьбу супроць партыі. У 1925 г. Троцкі выступае з «Урокамі Окцябра», дзе з дапамогай свайго зброеносца Ленцнера скажае лінію партыі ў перыяд ад лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі да Вялікай пролетарскай рэволюцыі. Усяляк выпячваючы ўласную персону, ён, пры дапамозе прамой хлусні і гнуснейшай падтасоўкі фактаў, спрабуе прынізіць ролю Леніна і Сталіна.

У 1926—27 гг. Троцкі выступае, як лідэр трацкісцка-зіноўеўскага блока, з тэзісам аб тым, што нельга пабудаваць соцыялізм у нашай краіне. Разам з Зіноўевым, Каменевым і іншай швалью ён балбоча аб барацьбе з кулацтвам. На справе гэта трацкісцка-зіноўеўская балбатня аб барацьбе з кулаком была толькі на руку кулацтву як класу, бо, па-першае, трацкісты залічвалі ў разрад кулакоў таксама і серадмякоў, што (пры ажыццяўленні іх палітыкі) пагражала-б катастрафічнымі вынікамі для дыктатуры пролетарыята, і, па-другое, пад флагам траскучых фраз аб рашучай расправе з кулацтвам (для чаго тады яшчэ не было неабходных прадпасылак)—прапанавалі такія меры, якія па сутнасці справы зусім не закранапі карэнняў кулацтва і якія, паводле меткага выражэння таварыша Сталіна, азначалі толькі «цырапанне» з кулаком.

А што за звыш'індустрыялізацыю высоўвалі трацкісты і зіноўеўцы? Контррэволюцыйная сутнасць гэтай звыш'індустрыялізацыі становіцца асабліва відавочнай, калі разглядаць яе ў святле асноўнага іх тэзісу аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. На справе за разгаворчыкамі аб звыш'індустрыялізацыі скрывалася лінія на ператварэнне нашай краіны ў аб'ект каланіяльнай эксплаатацыі з боку міжнароднага імперыялізма. Трэба з усёй сілаю падкрэсліць, што трацкісты і тады былі самымі сапраўднымі капітулянтамі, сцвярджаючы, што нельга, моў, ігнараваць міжнароднае раздзяленне працы, стварыўшае нашу прамысловасць такою, як яна ёсць, і што спроба ажыццявіць індустрыялізацыю сваімі ўласнымі сіламі надзвычай знізіла-б тэмпы нашага развіцця.

У пытаннях стабілізацыі капіталізма, у пытаннях кітайскай рэволюцыі і тактыкі адзінага фронту Троцкі, Зіноўеў і Каменеў адстойвалі погляды, якія ў выпадку іх ажыццяўлення ўзмацнілі-б пазіцыі міжнароднай буржуазіі. Тады-ж стала выяўляцца, што ў асобе апазіцыянераў тыпу Троцкага, Каменева, Зіноўева і інш. мы мелі прамых ворагаў народу. Для гэтага даволі ўспомніць хоць-бы высунуты Троцкім славуты тэзіс Клеменсо, які паказаў, што гэтыя людзі сталі прамымі агентамі інтэрвенцыяніcцкай буржуазіі. І ўвесь далейшы шлях трацкізма—да ператварэння яго ў перадавы атрад міжнароднай контррэволюцыйнай буржуазіі, а цяпер у банду фашысцкіх разведчыкаў, шпіёнаў, шкоднікаў і тэрарыстаў,—прадстаўляе суцэльны ланцуг самага подлага двурушніцтва, здрадніцтва, правакатарства з мэтай рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

Калі ўзяць двух іншых кіраўнікоў контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра—Каменева і Зіноўева, то іх мі-

нулае таксама гаворыць аб тым, што пераход на шлях тэрарызма, на шлях двурушніцтва і здрады з мэтай рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне не ёсць нешта выпадковае, што звалілася, як снег на галаву. Усё гэта падрыхтавана ўсёй папярэдняй іх дзейнасцю, усёй іх мінулай лініяй паводзін.

У гады рэакцыі Каменеў і Зіноўеў выступаюць супроць Леніна па пытанню аб адносінах да трэцяй дзяржаўнай Думы. Абодва яны адстойваюць байкот Думы, у той час як для гэтага няма ўмоў, у той час як для таго, каб заваяваць масы, трэба было якраз ісці ў Думу і выкарыстаць яе трыбуну ў інтарэсах мабілізацыі мас, у інтарэсах пазадумскай барацьбы. Адмовіўшыся ад байкотнай пазіцыі пад біцуючымі ўдарамі ленінскай крытыкі, Каменеў палічыў неабходным пазней у прыватным пісьме Багданаву (лідэру адзавістаў і ультыматыстаў) пісаць, што ён застаецца аднадумцам Багданава, як у пытаннях палітыкі, так і ў пытаннях філасофіі. (Багданаў, як вядома, у пытаннях філасофіі раздзяляў ідэалістычныя погляды Маха і Авенарыуса). Хіба гэта не праява мерзкага двурушніцтва, якая прымушае Каменева ў тым-жа пісьме да Багданава прызнацца, што яго становішча «у вышэйшай меры гнуснае».

У 1908, 1909 і 1910 гадах, у барацьбе з ліквідатарамі-адзавістамі, ультыматыстамі, богастраіцелямі, Каменеў разам з Зіноўевым займаюць яўна прымірэнчую і па сутнасці двурушніцкую пазіцыю. За спіною Леніна Каменеў і Зіноўеў подла і фальшыва інфармуюць прадстаўніка польскай соцыял-дэмакратыі Варскага, які займаў тады беспрынцыпную прымірэнчую пазіцыю, быццам-бы становішча Леніна з'яўляецца ізаляваным сярод большэвікоў. Яны выказваюцца за роспуск большэвіцкага цэнтра, зачыненне «Пролетарыя», перадачу сродкаў большэвіцкага цэнтра аб'яднанаму ЦК, а галоўнае—адстойваюць трацкісцкую лінію на прымірэнне з ліквідатарамі.

Гады імперыялістычнай вайны. Зіноўеў у гэты перыяд заняў яўна прымірэнчую пазіцыю ў адносінах да так званых «левых»—Бухарына, Пятакова*), Бош. За спіною Леніна Зіноўеў дагаварваўся з Шляпнікавым аб націску на Леніна ў карысць «левых». Ленін, даведаўшыся аб гэтым, ахарактарызаваў паводзіны Зіноўева, як «адмаўленне ад усёй нашай палітыкі», як «хістанні ў кубе, якія ператвараюцца ў нешта значна горшае».

А паводзіны Каменева на судзе, у сувязі з працэсам над думскай фракцыяй большэвікоў. Вядома, што дэпутаты-большэвікі трымалі сябе ў асноўным нядрэнна, Каменеў-жа заявіў, што ён не раздзяляе лініі ЦК, патрабаваў выкліку меншавіка Іорданскага, які-б пацвердзіў, што Каменеў сапраўды не згодны з лініяй ЦК.

Вось паводзіны труса, які дрыжыць за сваю скуру, які ў асабістых інтарэсах афяруе інтарэсамі партыі.

Далей 1917 г. Хто не ведае, што ў 1917 годзе Каменеў разам з палкоўнікамі і купцамі ў Ачынску падпісаў прывітальную тэлеграму Міхаілу Раманаву. Хто не ведае, што ў сакавіку—красавіку Каменеў выступаў супроць лініі Леніна—Сталіна на перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Хто не ведае меншавіцкіх сцверджанняў Каменева ў 1917 годзе, што Расія даспела толькі для буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі і што пытанне аб пролетарскай рэволюцыі ў Расіі можа паўстаць толькі пасля перамогі проле-

*) Як цяпер устаноўлена, Пятакоў—гнусны шкоднік, арганізатар забойства рабочых на Кемераўскіх рудніках; суўдзельнік Зіноўева, Каменева, Троцкага і іншых белабандытаў, рэстаўратараў капіталізма. *С. П.*

тарскай рэволюцыі ў такіх краінах як Германія, Англія, Францыя. Хто не ведае, што Каменеў у сакавіку—красавіку 1917 года прапанаваў аказаць падтрыманне Часоваму ўраду і заклікаў салдат на фронце цвёрда стаяць на сваім пасту, на кулю адказваючы куляй, на знарад—знарадам. Хто не ведае таксама, што ў красавіку 1917 года Зіноўеў выказваўся супроць стварэння III Інтэрнацыянала.

А чым лепш была лінія паводзін Каменева летам 1917 года, калі ён супроць рашэння ЦК выступіў за неабходнасць паездкі ў Стакгольм на канферэнцыю з соцыял-шавіністамі, або яго пазіцыя ў пытанні аб удзеле ў дэмакратычнай нарадзе і прадпарламенце—гэтым апошнім якары выратавання керэншчыны.

У кастрычніку 1917 года Каменеў і Зіноўеў на двух рашаючых паседжаннях ЦК галасавалі супроць паўстання. Іх агідны твар подлых штрэйкбрэхераў асабліва ярка выразіўся ў тым, што яны правакатарскі выдалі ворагу важнейшыя рашэнні партыі аб паўстанні, а пасля таго, як паўстанне перамагло, падтрымалі гнуснейшыя патрабаванні так званага Вікжэля аб стварэнні адзінага соцыялістычнага ўрада ад большэвікоў да народных соцыялістаў уключна. Прычым подлыя здраднікі дагаварваліся з меншавікамі і эсэрамі аб адхіленні Леніна ад кіраўніцтва Соўнаркомам. Усімі сіламі Каменеў і Зіноўеў імкнуліся накіраваць рэволюцыю на буржуазна-дэмакратычныя рэйкі, на шлях капіталізма.

Ленін кляйміў тады Каменева і Зіноўева, як падлейшых здраднікаў; як штрэйкбрэхераў і дэзерціраў. Ён патрабаваў тэрміновага выключэння іх з партыі.

Пасля Окцябра Каменеў і Зіноўеў заявілі, што яны прызнаюць свае памылкі. Зіноўеў напісаў пакаянную заяву і прасіў прыцягнуць яго да работы. І тым не менш, праз некалькі тыдняў Каменеў і Зіноўеў зноў выступаюць супроць лініі партыі ў пытанні аб заключэнні Брэсцкага міру. У час профсаюзнай дыскусіі ў 1921 годзе яны займаюць гнілую, па сутнасці справы троцкісцкую, пазіцыю. Тады-ж Каменеў заяўляў Радэку: «Вядзеш дзеннік? Дык запішы, што я табе скажу! Мы ідзем да адраджэння капіталізма і учрэдзілаўкі. Так будзе, таму што інакш і быць не можа. Я быў праў».

У 1923-24 гг. Зіноўеў і Каменеў на словах выступілі супроць Троцкага, а на справе за спіною партыі вялі перагаворы з Троцкім аб сумеснай фракцыйнай барацьбе супроць ленінскага ЦК і асабіста таварыша Сталіна.

У 1925 годзе, калі аднаўленне народнай гаспадаркі краіны было ў асноўным закончана і калі з усёй сілай практычна паўстала пытанне аб соцыялістычнай індустрыялізацыі, Каменеў і Зіноўеў выцягнулі са свайго мізэрнага арсеналу старую заржавелую зброю 1917 года. Як і ў 1917 годзе, Каменеў і Зіноўеў ганебна капітулявалі перад тварам труднасцей класавай барацьбы; як і ў 1917 годзе, яны далі застрашыць сябе буржуазіі, фактычна аказаліся ў палоне класавага ворага; як і ў 1917 годзе, яны выступілі з меншавіцка-троцкісцкім тэзісам аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

У поўнай адпаведнасці з гэтым тэзісам зіноўеўцы сцвярджалі, што ў нашай краіне ідзе аднаўленне капіталізма, што нэп—гэта адступленне, што нашы прадпрыемствы па свайму характару з'яўляюцца дзяржкапіталістычнымі, што на вёсцы галоўнай фігурай з'яўляецца кулак, што ў нас пачынаецца пераражэнне ў партыі і т. д. і т. п.

Той факт, што яны разглядалі ўсё пасляокцябрскае соцыяльна-эканамічнае развіццё ў нашай краіне, як развіццё буржуазнае,

капіталістычнае, не пакідае сумненняў у тым, што яны і ў 1925 годзе, акурат так сама як і ў 1917 годзе, адмаўлялі соцыялістычны характар нашай рэволюцыі. Ужо тады—яшчэ да фармальнага заключэння блока з Троцкім—Каменеў і Зіноўеў не пагарджалі самымі гнуснымі сродкамі барацьбы з партыяй. Даволі ўспомніць хоць-бы, як бясчэсна падрыхтоўвалася і праводзілася Зіноўевым 22 Ленінградская партканферэнцыя, як спецыяльна падбіралася і апрацоўвалася кіраўніцтва комсамола ў Ленінградзе. Або такі факт (нечуваны ў гісторыі нашай партыі), як выступленне Зіноўева з гнуснейшым судакладам на XIV з'ездзе партыі.

Зіноўеў і Каменеў пачалі атаку супроць партыі з абвінавачвання ў поўтрацкізме. Гэта ім патрэбна было для таго, каб прыкрыць свой уласны сапраўдны трацкізм—нявер'е ў магчымасць перамогі соцыялізма ў адной краіне. І не выпадкова, вядома, Каменеў і Зіноўеў апынуліся ў 1926 г. у блоку з Троцкім для барацьбы супроць партыі.

Таварыш Сталін на XV з'ездзе партыі выключна ярка, з неперайма́льнай дасціпнасцю паказаў невыпадковасць таго, што Каменеў і Зіноўеў знайшлі агульную мову з Троцкім:

> «Можна было-б перадаць у форме дыялагу,—гаварыў таварыш Сталін,—гутарку паміж Троцкім, з аднаго боку, і Каменевым і Зіноўевым, з другога боку, пры стварэнні апазіцыйнага блоку.
>
> Каменеў і Зіноўеў Троцкаму: «Вось бачыце, дарагі таварыш, мы аказаліся ў канцы канцоў правы, сказаўшы, што не трэба было ісці на Октябрскае паўстанне, што трэба было чакаць Устаноўчага сходу і інш. Цяпер усе бачаць, што краіна перараджаецца, улада перараджаецца, мы ідзем к пагібелі, і ніякага соцыялізма ў нас не будзе. Не трэба было ісці на паўстанне. А вы ішлі на паўстанне добраахвотна. Вы дапусцілі вялікую памылку».
>
> Троцкі ім у адказ: «Не, дарагія калегі, вы несправядлівы да мяне. На паўстанне-то я ішоў, але як я ішоў, вы аб гэтым забыліся сказаць. Я-ж ішоў на паўстанне не прама, а з агаворкай. (Агульны смех.) І паколькі цяпер выяснілася, што дапамогі звонку няма адкуль чакаць, ясна, што справа ідзе к пагібелі, як я і прадсказаў у свой час у «Праграме міру».
>
> Зіноўеў з Каменевым: «Гэта, бадай, што так. Мы забыліся пра агаворачку. Цяпер ясна, што наш блок ідэйна абгрунтаваны» (Агульны смех. Апладысменты.)

Калі першыя наскокі трацкістаў і зіноўеўцаў на партыю пацярпелі поўную няўдачу, яны хутка мяняюць тактыку барацьбы, становячыся на шлях самага ганебнага двурушніцтва: на словах следуюць адна за другой пакаянныя заявы, а на справе вядзецца падрыўная работа супроць партыі. Усюды, дзе толькі прадстаўляецца магчымым, трацкісты і зіноўеўцы ствараюць свае асіныя гнёзды, праводзяць нелегальныя сходы, наладжваюць сувязь з белагвардзейскімі элементамі, арганізуюць падпольныя друкарні, у якіх друкуюць антыпартыйныя лістоўкі і дакументы.

7 лістапада 1927 года, у дзесятую гадавіну Вялікай пролетарскай рэволюцыі, мізэрная кучка агідных двурушнікаў спрабуе наладзіць трацкісцкую дэманстрацыю, але церпіць поўную няўдачу.

На XV з'ездзе партыі трацкісты і зіноўеўцы, скаціўшыся ў лагер белагвардзейшчыны і стаўшы на шлях стварэння другой партыі, выключаюцца з радоў ВКП(б).

Пасля выключэння з партыі Зіноўева, Каменева і Троцкага, яны не толькі працягвалі сваю двурушніцкую дзейнасць, але і давялі яе да самых гнусных і гідкіх форм. Гэта з усёй бясспрэчнасцю даказалі ўскрытыя пазней факты.

Зіноўеў і Каменеў, прасмыкаючыся, пралазяць на бруху зноў у партыю, працягваючы на справе контррэволюцыйную падпольную барацьбу з партыяй і яе кіраўніцтвам.

У 1932 годзе была выкрыта сувязь Зіноўева і Каменева з правай групай Руціна—Іванова. Крыху раней яны вялі тайныя перагаворы аб барацьбе супроць партыі з Бухарыным. Увосень 1932 года яны заключылі блок з Троцкім для арганізацыі тэрарыстычных актаў супроць лепшых людзей партыі і рабочага класа.

Разгубіўшы апошнія рэшткі давер'я ў партыі, страціўшы ўсякую глебу пад нагамі ў выніку велізарнейшых перамог соцыялізма ў нашай краіне, збанкрутаваўшыся ў канец і пазбавіўшыся ўсякага падтрымання партыйных мас, трацкісты і зіноўеўцы зрабілі двурушніцтва асноўным метадам барацьбы з партыяй і сталі на шлях індывідуальнага тэрору—гэтага гнуснейшага з самых гнусных сродкаў барацьбы супроць партыі і яе кіраўніцтва.

Адзіным зместам сучаснай палітычнай платформы зіноўеўцаў і трацкістаў—гэтых прамых агентаў фашызма—з'яўляецца рэстаўрацыя капіталізма ў нашай краіне. Трацкісцка-зіноўеўскія гады, скатваючыся са ступенькі на ступеньку па шляху прадажніцтва і здрады, не спыніліся на тым, што сталі перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі.

Усёй сваёй падлейшай лініяй паводзін яны цяпер ужо не толькі расчышчаюць шлях буржуазіі, не толькі даюць ёй у рукі духоўную, тактычную і арганізацыйную зброю для барацьбы з партыяй і совецкай уладай, але і выступаюць як прамыя, непасрэдныя памочнікі фашысцкай буржуазіі ў яе самых цёмных і брудных справах, выступаюць як шпіёны, шкоднікі, правакатары, дыверсанты і тэрарысты.

Іх уласнымі прызнаннямі было ўстаноўлена, што яны былі непасрэднымі арганізатарамі забойства тав. Кірава, што яны былі непасрэднымі арганізатарамі падрыхтоўкі да забойства таварышоў Сталіна, Молатава, Варашылава, Кагановіча, Орджанікідзе, Постышэва і Касіора.

Нам патрэбна велізарнейшая пільнасць. А для гэтага нам патрэбна ў асаблівасці ўзбройваць сябе ідэйна, узбройваць сябе такой навукай, як гісторыя партыі, і не толькі веданнем гісторыі партыі наогул, але і веданнем гісторыі мясцовых большэвіцкіх арганізацый, гісторыі КП(б)Б. А кніг, большэвіцкіх кніг па гісторыі КП(б)Б няма, і ў гэтым вінаваты мы—калектыў работнікаў і ў першую чаргу кіраўніцтва Інстытута гісторыі партыі. Яшчэ не выкрыты ўвесь стары хлам, яшчэ многа гуляе па свету неіз'ятых кніг, дзе пратасквающца контррэволюцыйныя ідэі, пратаскваецца самы махровы трацкізм.

Прывядзем некаторыя прыклады. Вось кніга Поташа. Яна завецца «Большэвікі і дробнабуржуазныя партыі ў рэволюцыі 1905 г. на Беларусі». Кніга не так даўно вышла з друку (1931 г.). Там прыводзіцца карэспандэнцыя такога зместу:

«У Менскай групе (гутарка ідзе аб соцыял-дэмакратычных арганізацыях на Беларусі ў 1905 г.—Аўт.) і большэвікі і меншавікі ўжываюцца мірна адны з другімі і гэтым у значнай ступені тлумачыцца поспех работы»...

«Цяжка сабе ўявіць, які кавардак атрымаўся-б, калі-б ажыццявіўся раскол»...

У каментарыях да карэспандэнцыі Поташ цалкам салідарызуецца з гэтаю думкай.

А тым часам Ленін у 1905 годзе пісаў сакратару ЦК у Расію:

> «Дзеля бога, не давярайце меншавікам і Ц.К. і праводзьце безумоўна, паўсюды і самым рашучым чынам раскол, раскол і раскол. Мы тут, захапіўшыся рэволюцыяй, злучыліся было з меншавікамі на адным публічным сходзе, але яны нас надулі і тут ганебна. Хто не хоча застацца ў дурачках, таго мы папярэджваем настойліва: раскол і раскол безумоўны» *).

З поваду зместу кніжкі Поташа Гістпарт у сваёй прадмове піша: «Інстытут гісторыі партыі лічыць, што і ў такім выглядзе брашура дасць пэўную карысць».

Так піша Гістпарт аб брашуры, дзе ў непрыкрытай форме абараняецца трацкізм—падкрэсліваю—трацкізм, паколькі аўтар пратасквае тую думку, што сіла партыі не ў яе маналітным адзінстве, не ў адзінстве, заснаваным на прынцыповай ідэйнай аснове, а ў тым, каб аб'яднаць усё і ўся, па мяшчанскаму правілу: «жыві і жыць давай другім».

У другой сваёй кніжцы аб народніцкім соцыялізме Поташ выказвае, напрыклад, такую здзіўляючую думку, што праграма тэрарыстычнай фракцыі «Народнай волі» з'яўлялася мостам на шляху да марксізма.

Яшчэ больш гнусную, контррэволюцыйную, трацкісцка-зіноўеўскую кантрабанду пратасквалі ў так званых «Нарысах па гісторыі комсамола Беларусі» агент Троцкага тэрарыст Розенблюм у супрацоўніцтве з трацкісцкім паследышам Олікерам і контррэволюцыйным нацдэмам Ігнатоўскім. Нарысы гэтыя, па сутнасці справы, прадстаўлялі сабой ні больш, ні менш, як разгорнутае контррэволюцыйнае трацкісцка-зіноўеўскае і разам з тым нацдэмаўскае выступленне супроць партыі і яе лініі як у пытаннях агульнапалітычнага кіраўніцтва, так і ў пытаннях арганізацыйных. У гэтай пахабнай кніжцы даволі тонка, у завуаляванай форме, усяляк прыніжалася роля партыі і ў асаблівасці яе кіраўніцтва. У ёй амаль зусім непрыкрыта пратаскваўся контррэволюцыйны трацкісцкі тэзіс аб перараджэнні большэвіцкіх кадраў і, разам з тым, дэмагагічна падкрэслівалася вялікая рэволюцыйнасць моладзі, закліканай, моў, выступаць у якасці авангарда ў барацьбе рабочага класа за сваё вызваленне.

Уплыў Ігнатоўскага ў гэтых нарысах праяўляўся ў замаскаванай ідэалізацыі контррэволюцыйных дробнабуржуазных нацыяналістычных партый, якія рысаваліся ў выглядзе актыўных удзельнікаў і кіраўнікоў рэволюцыйнай барацьбы за вызваленне працоўных Беларусі ад памешчыцка-буржуазнага гнёту, ад нямецкіх і белапольскіх акупантаў.

Характэрным для раду кніг, што выходзілі на Беларусі, з'яўляецца пратаскванне тэорыі двухкарэннасці.

У чым заключаецца тэорыя двухкарэннасці або многакарэннасці КП(б)Б? Яна заключаецца ў пратаскванні праз гістарычную літаратуру, у контррэволюцыйных нацыяналістычных мэтах, той думкі, што КП(б)Б мае, у якасці сваёй асновы, не толькі большэвіцкія арганізацыі на Беларусі, але і рад іншых партый і арганізацый: БСГ і Бунд, так званую Белсекцыю пры РКП(б) і т. п.

Старонікі гэтай тэорыі лічаць, што сучасная КП(б)Б, як партыя

*) Ленінскі зборнік V, стар 149—150.

дзеючая ў нацрэспубліцы, склалася ў рэзультаце механічнага злучэння ўсіх гэтых арганізацый, і што іменна гэта забяспечыла правільную лінію КП(б)Б ва ўсіх пытаннях і, перш за ўсё, у нацыянальным пытанні.

Наша партыя рашуча адвяргае гэту контррэволюцыйную тэорыю, якая зусім скажае сапраўднае становішча рэчаў, якая праследуе мэту кантрабандным шляхам папра віць лінію нашай партыі ў духу нацыяналізма і апраўдаць разлагаючую дзейнасць нацыяналістычных элементаў, якія не маюць магчымасці дзейнічаць адкрыта.

Асновай КП(б)Б з'яўляліся толькі большэвіцкія арганізацыі Беларусі. Члены Бунда, БСГ, Белсекцыі прымаліся ў нашу партыю толькі пастолькі, пакольк і яны адмаўляліся ад сваіх поглядаў і прымалі праграму і статут нашай партыі. Іншая справа—рабілі яны гэта шчыра ці не.

Тэорыя двухкарэннасці або многакарэннасці не з'яўляецца толькі беларускай «нацыянальнай справай», яна, напрыклад, атрымала не менш шырокае распаўсюджванне і на Украіне і нават у маштабе міжнародным. Каму невядома так званая тэорыя ручайкоў, якая служыла трацкістам адным са сродкаў для таго, каб замацавацца ў Комуністычным Інтэрнацыянале і атрымаць права ўнутры Інтэрнацыянала весці сваю мерзкую тлетворную работу.

Тав. Кагановіч так ахарактарызаваў гэту «тэорыю».

> «Што такое тэорыя «ручайкоў». Гэта-ж па сутнасці ідэя жнівеньскага блока. Там таксама хацелі мець розныя ручайкі, каб іх потым злучыць у адну раку, але нічога з гэтага не вышла, як вядома, «ручайкі» выліліся ў розныя бакі. Трацкізм аказаўся дрэннай пасудзінай, дзіравай»... *).

І гэта трацкісцкая тэорыя на працягу многіх год пратаскваласяз усім беспакарана ў літаратуры, якая асвятляла пытанні гісторыі КП(б)Б і пролетарскай рэволюцыі на Беларусі.

У цэлым радзе кніг вы можаце прачытаць, што наша партыя, па сутнасці, утварылася з Бунда, што наша партыя з'яўляецца рэзультатам зліцця, спалучэння з бундаўцамі, беларускімі нацыяналістамі і т. д. Вось што, напрыклад, паведамляе «Малая Советская Энциклопедия» (том І, стар. 655) аб стварэнні КП(б)Б.

> «У 1905 г. Б.с.г. кіравала рухам шырокіх мас; на чале яе стаяў своеасаблівы блок рэволюцыйнага народніцтва і марксістаў... Б.с.г. адрадзілася пасля Лютаўскай рэволюцыі, кіравала франтовымі і сялянскімі з'ездамі ў Менску і, па меры ўздыму рэволюцыйнай хвалі, сама падвергласяў змоцненай большэвізацыі... Блок народнікаў і с.-д. большэвікоў распаўся, і на абломках яго стварылася Комуністычная партыя Беларусі».

Вось вам фальсіфікацыя гісторыі КП(б)Б у духу беларускага контррэволюцыйнага нацыяналізма.

А вось што пісалі былыя бундаўцы:

«Пры зліянні Бунда з комуністычнай партыяй Бунд унёс у партыю свае сцягі і сваю спадчыну...

Яўрэйскі рабочы рух, які цёк як адасоблены маленькі ручаёк, у канцы канцоў праравў сабе дарогу і ўліўся ў вялікі бушуючы акіян, у комуністычную партыю, у комуністычны інтэрнацыянал...

*) З прамовы тав. Кагановіча Л. М. на сходзе, прысвечаным 10-годдзю ІКП, стар. 29.

Гэтыя старыя традыцыі юнацкіх гадоў Бунда з'яўляюцца лепшым падарункам, які яўрэйскі рабочы даў комуністычнай партыі.

І няхай юбілей тав. Вайнштэйна паслужыць гарантыяй, што гэтыя традыцыі застануцца ў нас вечна новымі і свежымі»... *).

Мы асабліва павінны падкрэсліць, што ад усёй гэтай палітычна больш чым няпэўнай пісаніны безумоўна аддае не толькі нацыяналізмам, але і трацкізмам, паколькі ў ёй (гэтай пісаніне) партыя выступае не як нешта адзінае, маналітнае, цэлае, а як кангламерат роўнапраўных і разам з тым рознамыслячых груп, фракцый і плыней.

На-жаль, па сутнасці ў палоне гэтай наскрозь трацкісцка-нацыяналістычнай тэорыі аказаліся і некаторыя работнікі Беларускага інстытута гісторыі партыі, якія ўвогуле вельмі заўзята выступалі супроць тэорыі двухкарэннасці.

У 1934 годзе, у выданні Інстытута гісторыі партыі вышаў зборнік «КП(б)Б у рэзалюцыях», які ахапляў перыяд ад 1903 да 1921 года. Выключнае палітычнае значэнне такога зборніка відавочна, асабліва калі ўлічыць адсутнасць падручнікаў па гісторыі КП(б)Б. Такі зборнік павінен быў з'явіцца магутнейшай зброяй выхавання нашай моладзі ў духу марксізма-ленінізма. Тым часам на справе атрымалася якраз наадварот. Побач з большэвіцкімі дакументамі і матар'яламі, у гэты зборнік аказаліся ўключанымі, таксама як большэвіцкія, матар'ялы і дакументы меншавіцкага і поўменшавіцкага характару.

Сярод дакументаў, змешчаных у зборніку пад рубрыкай «Матар'ялы большэвіцкага руху на Беларусі за перыяд з 1903 па 1917 г.», фігуравалі, напрыклад, рэзалюцыі паасобных соцыял-дэмакратычных арганізацый, у якіх усхвалялася славутая аксельродаўская ідэя «Усерасійскага рабочага з'езда», усхвалялася меншавіцкая ідэя так званага «рэволюцыйнага самакіравання», выкрытая Леніным у 1905 годзе, і т. д. і т. п.

Змяшчэнне меншавіцкіх дакументаў у зборніку, які прэтэндуе на паказ большэвіцкага руху на Беларусі, не можа быць расцэнена інакш, як меншавіцка-трацкісцкай фальсіфікацый у асвятленні гісторыі большэвізма. Указанне ў прадмове да зборніка на тое, што частка рэзалюцый не з'яўляецца большэвіцкімі, ні ў якой меры не можа служыць апраўданнем. Наадварот, гэта толькі ўзмацняе віну і аўтара і рэдактара зборніка, паколькі выходзіць, што яны ўключылі меншавіцкія матар'ялы і дакументы зусім свядома.

Якое ўражанне можа скласціся ў слухача палітычнай школы або прапагандыста, калі яны зацікавяцца зместам зборніка? Уражанне, відаць, такое, што асновай КП(б)Б былі не толькі большэвіцкія, але і меншавіцкія арганізацыі, або арганізацыі, дзе панавала беспрынцыпнае прымірэнцтва трацкісцкага парадку. Разам з тым, у таго-ж самага слухача школы або прапагандыста, асабліва калі ён разбярэцца ў тым, што прыпаднесеныя дакументы і матар'ялы з'яўляюцца не большэвіцкімі, а меншавіцкімі, можа скласціся пераконанне, што на Беларусі на самай справе не было глебы для большэвізма, што большэвізм на Беларусі ёсць нешта наноснае, прынесенае звонку, г. зн. якраз тое самае, што даказвалі нацдэмы ў сваіх, з дазволу кажучы, гістарычных вышуканнях.

Бясспрэчна тое, што ідэя двухкарэннасці, як ідэя беспрынцыпнага прымірэнцтва, цэнтрызма з'яўляецца толькі своеасаблівай формай выражэння імкненняў агентуры класавага ворага пранікнуць у партыю для

*) „Дэр Векер", орг. ЦБ і КПБ і ЦБ Еўсекцыі Беларусі, Менск, 7/IV 1921 г., № 35 (809).

таго, каб узарваць яе знутры, каб падкапацца пад асновы партыі і, пад прыкрыццём партыйнага білета, весці сваю гнусную работу. Можна прывесці довады і прыклады таго, як былыя бундаўцы, эсэры і грамадаўцы, уступаючы ў партыю, не адмаўляліся ад старых сваіх поглядаў, а разглядалі сваё ўступленне ў партыю, як адзіны сродак для далейшага пратасквання сваіх контррэволюцыйных поглядаў.

Вось што, напрыклад, гаварыў адзін з віднейшых прадстаўнікоў Бунда—Вайнштэйн на апошняй канферэнцыі Бунда ў 1921 г.:

«Таварышы дэлегаты і госці, я вітаю вас ад імя ЦК Бунда ў гэты цяжкі момант, калі гісторыя паставіла перад вамі пытанне, вырашыць якое мы тут павінны...

... Мы не можам прадбачыць, як закончыцца наша канферэнцыя. Але як-бы яна ні скончылася, мы застанемся вернымі асноўнай думцы, якая вас натхняла на працягу ўсяго жыцця. Мы, усе тыя, якія за прыняцце прапаноў Комінтэрна, і тыя, якія супроць, мы ўсе—члены Бунда, мы застанемся вернымі бундызму... У нас ёсць свой погляд на пытанне аб формах яўрэйскага рабочага руху—ён павінен быць пабудаваны на самадзейнасці яўрэйскіх рабочых. Гэтаму нашаму погляду мы застанемся вернымі. Гэта наш бундызм, гэта Бунд. Ніхто з нас не перастаў і не перастае быць бундаўцам...» *)

Гэтую-ж думку выказвала ў сваіх артыкулах і Эстэр Фрумкіна. Вось што яна пісала:

...«Калі-б РКП уключыла-б Бунд у свае рады, як Бунд,—гэта было-б адзіна натуральным, адзіна правільным, комуністычным вырашэннем пытання. За гэта мы змагаліся. Гэта аказалася немагчымым... Што-ж нам рабіць... Бунд павінен уліцца ў РКП, увесь Бунд, з усёй сабранай ім энергіяй, з яго згуртаванасцю, з яго прывязанасцю да свайго выдатнага мінулага, да правадыроў, з яго здаровым пролетарскім, нацыянальным пачуццем, з яго пачуццем самапаважання. Ён павінен унутры РКП весці сваю работу за перабудову яўрэйскага жыцця, за пабудову новых арганізацыйных форм»... **)

...«Мы павінны зрабіць усё для таго, каб усё, што звязана з Бундам, узяць з сабою ў РКП... Нам не трэба фракцый, мы ўсе адна фракцыя: «бундысты» ***).

Не можа быць двух думак аб тым, што такога роду ўстановачкі, выходзіўшыя ў свой час ад віднейшых прадстаўнікоў Бунда, не маглі не садзейнічаць пранікненню ў рады нашай партыі, з мэтай яе разлажэння, многіх бундаўцаў, ідэйна зусім не раззброіўшыхся і не выпадкова, вядома, апынуўшыхся потым у радах трацкістаў і зіноўеўцаў—гэтых злейшых ворагаў партыі і народу. Ва ўсякім выпадку, факты, выкрытыя ў час праверкі і абмену партдакументаў, поўнасцю пацвярджаюць гэта палажэнне.

Характэрна, што акурат так сама, як і бундаўцы, разумелі свае задачы і беларускія нацыяналісты пры ўступленні ў партыю. Вось што, напрыклад, прымушан быў прызнаць Ігнатоўскі ў сваіх паказаннях аб сапраўдных прычынах свайго ўступлення ў партыю:

...«Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі. Іменна, выходзячы з гэтага я, напярэдадні ўступлення ў большэвіцкую партыю, умовіўся з віднейшымі лідэрамі нацыянал-дэмакратычнага беларускага руху,

*) „Дэр Векер"—Ц. О. Бунда, № 738 ад 7 сакавіка 1921 г.
**) „Дэр Векер" № 730 ад 25 лютага 1921 г.
***) „Дэр Векер № 732 ад 28 лютага 1921 г.

маімі сябрамі па эсэраўскай партыі, у прыватнасці, з Крычэўскім Пятром, перад яго адыходам з Менска за кардон, што на розных палітычных участках, дзе мы будзем працаваць,—дапамагаць трыумфу агульнай беларускай справы. Таму, я пацвярджаю паказанні Цвікевіча, што я з Крычэўскім разышоўся па формуле: «ты ідзі працаваць для Беларусі на захад, а я пайду працаваць на ўсход»...

Таксама пацвярджаю наступнае месца з паказанняў Цвікевіча, чутае ім за-граніцай ад маіх палітычных сяброў па эсэраўскай партыі: «калі мы будзем тут лаяць вас, а вы за-граніцай лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе» *).

Хіба гэта не ёсць узор гнуснейшага двурушніцтва, накіраванага на падрыў партыі і яе вялікай справы,—«Вы лайце нас адтуль, а мы будзем вас лаяць адсюль, а ад гэтага агульная справа выйграе».

А вось што гаворыць другі мацёры нацдэм—Лёсік: «Мы рэкамендавалі беларусам уступаць у партыю, каб яны маглі займаць адказныя пасты і весці палітыку Прышчэпава і Баліцкага. Таму мы віталі ўсякага беларуса, уступіўшага ў партыю. Нам трэба беларусізаваць партыю і мець там сваіх людзей, нацыяналістычна настроеных беларусаў.

Гэта вярбоўка ў партыю рабілася, так сказаць, для абароны нашага тылу, з аднаго боку, а, з другога боку,—трэба было ўсюды мець сваіх людзей» **).

Мы прывялі рад выказванняў, вытрымак з літаратурных практыкаванняў контррэволюцыйных беларускіх нацыяналістаў і былых бундаўцаў для таго, каб яшчэ раз падкрэсліць, што ўяўленне аб партыі, як аб партыі, якая яднае групы, фракцыі, плыні, што гэта трацкісцка-нацыяналістычная ідэя двухкарэннасці, якая прадстаўляе КП(б)Б вырасшай з некалькіх ручайкоў, што гэта ідэя двухкарэннасці, якая пранікла ў нашу гістарычную літаратуру, пранікла ў кнігі па гісторыі КП(б)Б, уключае момант подлага здрадніцтва, двурушніцтва, імкнення папасці ў партыю ў мэтах разлажэння яе знутры.

Тэорыя двухкарэннасці для свайго апраўдання патрабуе ідэалізацыі тых партый, якія, згодна гэтай тэорыі, выступаюць у якасці законных складаных частак КП(б)Б. Ці мае месца такая ідэалізацыя ў друкаваных работах па гісторыі рэволюцыйнага руху Беларусі? Безумоўна мае.

Хіба гэта не ідэалізацыя дробнабуржуазных контррэволюцыйных партый, калі такія тыпы як Майзель і Шапавалаў у сваіх «Нарысах па гісторыі КП(б)Б»—у гэтай суцэльнай фальсіфікацыі ўсёй гісторыі КП(б)Б у духу трацкізма—сцвярджалі, што ў гады грамадзянскай вайны Бунд, Паалей-Цыён і некаторыя групы беларускіх нацыянальных арганізацый актыўна выступалі ў абарону совецкай улады і што так званая беларуская комуністычная арганізацыя—гэта наскрозь нацыяналістычная і разам з тым эсэраўская група, якая ў большасці сваёй складалася са старых афіцэраў на чале з махровым нацдэмам Ігнатоўскім,—ледзь не паклала аснову КП(б)Б. Хіба гэта не ідэалізацыя Бунда, калі тав. Агурскі ў сваёй кніжцы «Яўрэйскі рабочы ў комуністычным руху» у свой час пісаў, што неабходна канстатаваць той факт, што Бунд вельмі многім садзейнічаў рэволюцыянізаванню яўрэйскіх рабочых мас і зрабіў з тысячы бездапаможных яўрэйскіх рабоў бадзёрых, смелых змагароў, якія сталі ў першых радах расійскага рэволюцыйнага руху». Хіба гэта не ідэалізацыя

*) З паказанняў Ігнатоўскага па справе СВБ.
**) З паказанняў Лёсіка па справе СВБ.

Бунда, калі той-жа самы Агурскі ў кнізе «Рэволюцыйны рух на Беларусі» выказваў такія меркаванні: «У выніку нацыянальных праследванняў і пагромаў, з аднаго боку, і легальнасці сіяністскіх арганізацый, з другога, уплыў нацыяналістычных ідэй асабліва ўзмацніўся ў яўрэйскім асяроддзі. Гэтай акалічнасцю і тлумачыцца, што нават Бунд паў афярай нацыяналізма».

Вы бачыце, чытач, што Бунд, па Агурскаму *), наогул арганізацыя якраз паслядоўна рэволюцыйная, пролетарская, глыбока інтэрнацыяналістычная, але вось акалічнасці так скаліся, што **нават** Бунд паў афярай нацыяналізма. На справе-ж уся лінія паводзін Бунда з самага пачатку яго ўзнікнення была лініяй наскрозь меншавіцкай, наскрозь нацыяналістычнай. І гэта зусім не выпадкова. Гэта з'яўляецца толькі паказчыкам таго, што Бунд заўсёды і на ўсіх этапах выконваў у яўрэйскім рабочым руху ролю агентуры контррэволюцыйнай буржуазіі.

У 1905 г. Ленін пісаў, што Бунд заўсёды адыгрываў ролю ідэйнага паразіта ў рабочым руху і ў 1897—1900 гг., і ў 1901—1903 гг., і ў 1904—1905 гг.

Хіба гэта не ідэалізацыя Беларускай соцыялістычнай грамады— гэтай контррэволюцыйнай нацыяналістычнай кулацка-эсэраўскай арганізацыі,—калі ў органе ЦК комсамола Беларусі ў 1925 г. Жылуновіч пісаў, што:

«Беларуская Соцыялістычная Грамада, рэгулюючы беларускі нацыянальна-соцыялістычны рух да 1917 г. і ў 1917 г. вяла яго побач з развіццём рэволюцыі, не адхіляючыся ў бок. Дзякуючы гэтаму, натуральным чынам, лепшай часткай беларускіх работнікаў былі ўспрыняты ідэі советаў, ідэі комунізма **).

Гэта пішацца ў той час, як дакументальна ўстаноўлена, што БСГ у 1917 г. цалкам падтрымлівала палітыку контррэволюцыйнага Часовага ўрада.

І хіба гэта зноў-такі не скрытая форма ідэалізацыі нацыяналістычных дробнабуржуазных партый, калі рад аўтароў разглядае стварэнне левых груп у гэтых дробнабуржуазных партыях, як паказчык эволюцыі гэтых партый у бок большэвізма, калі ў «Большой Советской Энциклопедии» пішуць, што левае крыло БСГ арганізавала ў канцы 1917 г. у Петраградзе Беларускую Комуністычную партыю. Гэта ў той час, як на самай справе стварэнне такіх «левых» груп і ў Бундзе і ў БСГ было ў асноўным ні больш, ні менш, як маскіроўкаю, якая праследвала задачу пранікнення буржуазна-нацыяналістычных і эсэраўскіх элементаў у рады КП(б)Б з мэтай яе разлажэння знутры.

Некалькі слоў аб іншых скажэннях у пытаннях гісторыі КП(б)Б і пролетарскай рэволюцыі на Беларусі.

Вядома, што контррэволюцыйныя нацдэмы ўяўлялі сабе Беларусь, як нешта зусім асобае, зусім самабытнае. Яны гаварылі аб безбуржуазнасці беларускай нацыі, аб тым, што на Беларусі няма класавай дыферэнцыяцыі, усяляк усхвалялі адсталасць Беларусі, ідэалізавалі беларускую інтэлігенцыю, адмаўлялі наяўнасць у Беларусі пролетарыята і т. д. і т. п. Усё гэта рабілася для таго, каб даказаць немагчымасць пролетарскай рэволюцыі на Беларусі, даказаць адсутнасць на Беларусі глебы для большэвізма.

---

*) Мы не сумняваемся, што тав. Агурскі цяпер і сам лічыць падобныя свае выказванні таго перыяду палітычна-шкоднымі, але гэта не здымае неабходнасці выразна сказаць пра іх у друку. *С П.*

**) „Маладняк"—Орган ЦК ЛК СМБ № 6, стар. 8, Менск, 1925 г.

Можна, безумоўна, толькі вітаць, калі гісторыкі-комуністы выкрываюць гэтыя контррэволюцыйныя нацдэмаўскія брэдні, але бывае дрэнна, калі гэтыя гісторыкі-комуністы, узнімаючы сцяг барацьбы супроць нацдэмізма, у выніку самі па раду пытанняў саслізгаюць на нацыяналістычныя рэйкі.

У 1934 годзе Партыйнае выдавецтва выпусціла кніжку тав. Зюзькова «Большэвікі—арганізатары Окцябра на Беларусі». Тав. Зюзькоў у гэтай кніжцы правільна ўскрывае ўсю безгрунтоўнасць контррэволюцыйнай нацдэмаўскай балбатні аб адсутнасці на Беларусі прадпасылак для пролетарскай рэволюцыі; але, даказваючы наяўнасць на Беларусі гэтых прадпасылак для пролетарскай рэволюцыі, тав. Зюзькоў у недастатковай меры паказвае ўсё велізарнае значэнне дапамогі пролетарыяў прамысловых цэнтраў Расіі для пераможнага выніку рэволюцыі на Беларусі. Калі ён гаворыць, што «унутраныя прадпасылкі пролетарскай рэволюцыі былі ў наяўнасці і на Беларусі», то на справе ў чытача складаецца думка, што працэс перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную на Беларусі ў 1917 годзе ішоў па сутнасці ізалявана, незалежна ад працэсу перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную на ўсёй тэрыторыі былой царскай Расіі. У святле такога роду разважанняў не выпадковым прадстаўляецца сцверджанне тав. Зюзькова, што «Орша не дачакалася агульнага сігналу, што ў Оршы Окцябрская рэволюцыя пачалася раней, чым у Петраградзе». Але-ж паставіць так пытанне—гэта значыць, па сутнасці, аказаць паслугу нацдэмам. Гэта значыць, выгнаўшы нацдэмаў у дзверы, упусціць іх назад у акно. Гэта значыць зняць пытанне аб велізарным значэнні той выключна вялікай дапамогі, якую аказваў беларускаму рабочаму рускі рабочы. Гэта значыць, узяць па сутнасці пад сумненне ўсё значэнне брацкага судружніцтва раней прыгнечаных нацыянальнасцей былой Расіі.

Выходзіць так, што «умом Белоруссии не понять, аршином общим не измерить, что в ней особенная стать»...

Паўтараю, гэта адваротны бок таго-ж самага нацдэмакратызма, які разглядае працэс гістарычнага развіцця Беларусі адарвана ад таго рэволюцыйнага працэсу, які праходзіў ва ўсёй Расіі.

Тое, што ў тав. Зюзькова з'яўлялася грубейшай палітычнай памылкай (падкрэсліваю—памылкай, якую ён прызнаў, тым часам як у цэлым кніжка правільна выкрыла нацдэмаўскія ўстаноўкі), вылілася ў кнізе Кернажыцкага «Аб аграрным руху на Беларусі да імперыялістычнай вайны» у цэлую сістэму контррэволюцыйных трацкісцкіх поглядаў, працягваемых пад фальшывым сцягам барацьбы з беларускім нацыяналізмам.

У адзначанай кніжцы Кернажыцкі, шляхам самай бесцарамоннай фальсіфікацыі ленінскіх выказванняў, праводзіць той пункт погляду, што на Беларусі, моў, яшчэ да імперыялістычнай вайны, сярэдняе сялянства амаль поўнасцю расслаілася, што ў сувязі з гэтым глебы для нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі не было. Прызнаючы для беларускай вёскі толькі барацьбу кулака з беднатой, Кернажыцкі па сутнасці справы адмаўляў для Беларусі правільнасць ленінскага палажэння аб існаванні ў рускай вёсцы двух ліній соцыяльных войн.

Трацкісцкі характар такога роду разважанняў відавочны. На гэта ў свой час указаў ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні па рэцэнзіі трацкіста Гессена, змешчанай у «Большэвіку Беларусі». Але Кернажыцкі, відавочна, не вынес урокаў з гэтага рашэння, не раскрытыкаваў дапушчаных ім скажэнняў, паказаўшы тым самым, што гэтыя скажэнні ў яго не выпадковы.

Трэба яшчэ раз з усёй сілаю падкрэсліць, што не ўсе варожыя асіныя гнёзды выкрыты і не ўсе трацкісцка-зіноўеўскія мярзаўцы выяўлены. Нам трэба працаваць не пакладаючы рук над тым, каб, выкрываючы ворагаў, выкараніць іх да канца. Мы павінны ва многа раз узмацніць нашу партыйную пільнасць, каб быць зусім упэўненымі ў тым, што на такія ўчасткі ідэалагічнага фронту, якім з'яўляецца ўчастак гісторыі партыі, а таксама і на іншыя ўчасткі нашай работы і соцыялістычнага будаўніцтва, не здолее пранікнуць вораг.

Мы павінны разіць ворага без промаху, хутка і бязлітасна, як-бы ўважліва ён ні маскаваўся, як-бы ён ні імкнуўся прапаўзці на бруху на такі ўчастак, як гісторыя партыі.

Мы павінны дабіцца таго, каб паставіць справу вывучэння гісторыі КП(б)Б на навуковыя большэвіцкія рэйкі, мы павінны прыцягнуць да распрацоўкі пытанняў гісторыі КП(б)Б самыя шырокія партыйныя колы, маючы на ўвазе, што КП(б)Б да тэтага часу не мае сваёй пісанай гісторыі і што ажыццяўленне такой важнейшай і першачарговай задачы, як напісанне гісторыі КП(б)Б, можа і павінна стаць справай усёй КП(б)Б. Мы ні на мінуту не павінны забываць, што гісторыя нашай партыі—гэта не архіў, а кіраўніцтва да рэволюцыйных дзеянняў; што яна з'яўляецца зброяй выхавання нашай моладзі ў духу марксізма-ленінізма; што значэнне і разуменне гісторыі нашай партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, неабходным для таго, каб забяспечыць сапраўды большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць членаў партыі.

---

**М. Чаускі**

Заг. культпропам Кагановіцкага РК КП(б)Б (Менск)

# За далейшы ўздым палітычнай агітацыі

Важнейшым этапам разгортвання палітычнай агітацыі ў нашым раёне з'явілася пастанова ЦК ВКП(б) «Аб становішчы палітычнай агітацыі на Балахнінскім цэлюлозна-папяровым камбінаце імя Дзержынскага». Значна выраслі кадры агітатараў. На большасці прадпрыемстваў і ў навучальных установах створаны агітмкалектывы з актыўных і падрыхтаваных агітатараў, зацверджаных партыйным камітэтам.

Асноўныя прадпрыемствы нашага раёна ўнеслі планавасць у работу агітатараў, што дапамагае ім своечасова прапрацоўваць патрэбны матар'ял, звязаны з той ці іншай кампаніяй, падабраць для дакладу, гутаркі, чыткі неабходныя факты і лічбы з жыцця прадпрыемства.

Падрыхтоўка да XIX гадавіны Вялікай Окцябрскай рэволюцыі пачалася ў нас за два—тры месяцы да свята. Партыйныя арганізацыі шырока разгарнулі агітацыйна-масавую і палітычную работу на фабрыках, заводах, транспарце, сярод служачых, навуковых работнікаў і студэнцтва.

Уся работа была цесна ўвязана з падрыхтоўкай да надзвычайных Усебеларускага і Ўсесаюзнага з'ездаў Саветаў. Асноўная ўвага была звернута на далейшае, яшчэ больш глыбокае растлумачэнне праекта сталінскай Канстытуцыі, у якой ярка адлюстраваны сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма ў СССР, дасягнутыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна; на далейшы ўздым совецкага патрыятызма; уцягненне ўсіх працоўных у справу ўмацавання абароны соцыялістычнай радзімы; усведамленне асобай адказнасці, якая ўскладаецца на працоўных ордэнаноснай БССР і яе сталіцы як баявога фарпоста СССР; на ўмацаванне пачуцця брацкай інтэрнацыянальнай салідарнасці, асабліва з іспанскім народам, які гераічна змагаецца з фашызмам.

У выніку агітацыйнай работы яшчэ шырэй разгарнуўся стаханаўскі рух, спаборніцтва цэхаў і брыгад за выкананне і перавыкананне вытворчых планаў, за выпуск прадукцыі вышэйшага гатунку.

Сярод рабочых на прадпрыемствах, у цэхах і ўстановах, сярод студэнцтва ў інтэрнатах былі праведзены гутаркі на тэмы: «XIX год Вялікай пролетарскай рэволюцыі», «Контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія рэстаўратары капіталізма»; «Наступленне фашызма і барацьба за адзіны фронт»; «Ваенна-фашысцкі мяцеж у Іспаніі і падрыхтоўка новай імперыялістычнай сусветнай вайны»; «Сталінская Канстытуцыя і далейшае развіццё совецкай дэмакратыі»; «Абарона СССР і ўмацаванне Чырвонай арміі»; «Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў індустрыялізацыі нашай краіны, калектывізацыі сельскай

гаспадаркі, развіцці народнай асветы і аховы здароўя, соцыялістычнай рэканструкцыі чыгуначнага транспарту, росту добрабыту працоўных мас і іх культурнага ўзроўню» і т. д.

У дні падрыхтоўкі да XIX гадавіны Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі рабочыя асабліва цікавіліся гераічнымі падзеямі 1917 г. Партыйныя арганізацыі фабрыкі імя Куйбышэва, Шчацінная, ВПІ і інш. з вялікай любоўю рыхтавалі матар'ял для гутарак, праводзілі інструктаж і кансультацыю агітатараў. Шырока былі выкарыстаны дакументы і першакрыніцы, якія ярка паказваюць непрымірымасць і прынцыповасць, з якімі Ленін і Сталін адстойвалі генеральную лінію партыі і на яе аснове прывялі рабочы клас да перамогі, да ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята. Прачытаны «Пісьмы здалёк»; «Красавіковыя тэзісы» .Леніна, асабліва шырока выкарыстан першы том «Истории гражданской войны».

У парткабінетах прадпрыемстваў і навучальных устаноў былі арганізаваны выстаўкі, вітрыны, вывешаны дыяграмы, падабраны матар'ялы для гутарак. Раённы парткабінет па тэзісах бясед арганізаваў семінары і кансультацыі. Для правядзення гутарак і дакладаў было прыцягнута 130 чал. раённага партактыва. Партарганізацыі многіх прадпрыемстваў і ўстаноў праводзілі гутаркі на даму ў лепшых стаханаўцаў і выдатнікаў.

Агітатары, чытчыкі, бяседчыкі правялі рад гутарак і галосныя чыткі аб непасрэднай пагрозе міру з боку фашызма, які спрабуе патапіць у крыві свабоду і незалежнасць іспанскага народу і рыхтуе напад на Совецкі Саюз. Працоўныя праяўляюць вялікую зацікаўленасць да падзей у Іспаніі. Агітатараў засыпаюць пытаннямі, звязанымі з гераічнай барацьбой іспанскага народу. Цікавяцца літаральна ўсе. Гэта ўлічылі партарганізацыі і правялі на большасці буйных прадпрыемстваў і навучальных устаноў масавыя палітдні на тэму аб міжнародным становішчы. У Мед'інстытуце паступіла 181 пытанне пераважна аб падзеях у Іспаніі. Рабочыя фабрыкі імя Куйбышэва задалі 200 пытанняў.

Рабочых цікавіла гісторыя Іспаніі, дзяржаўны лад, структура арміі, граніцы, іспанскія партыі і іх кіраўнікі, палітыка Францыі, роля комуністычнай партыі Іспаніі і т. д.

Фабрыка імя Куйбышэва за 2 тыдні пачала падрыхтоўку да паліт-дня. Былі праведзены нарады парторгаў і прафоргаў, праінструктаваны агітатары, у цэхах загадзя вывешаны аб'явы, скрынкі для пытанняў. Народны камісар асветы тав. Дзьякаў зрабіў даклад аб міжнародным становішчы і вычарпальна адказаў на паступіўшыя пытанні. Рабочы калектыў выслухаў даклад з вялікай увагай. Заданыя пытанні сведчаць аб узросшым палітычным і культурным узроўні рабочых, прасякнуты жгучай нянавісцю да фашысцкіх мяцежнікаў і іх апекуноў—Германіі, Італіі і Партугаліі, адлюстроўваюць любоў і сімпатыю да іспанскага народу, які гераічна змагаецца з фашысцкай рэакцыяй.

На прадпрыемствах быў разгорнут збор сродкаў у карысць іспанскіх жанчын і дзяцей. Беларускі дзяржаўны універсітэт сабраў 5 тыс. руб. На Малочным заводзе, у Дзяржплане пастанавілі адлічваць па 1 проц. месячнай заработнай платы да перамогі працоўных Іспаніі над фашызмам. На шклозаводзе «Пролетарый» адпрацавалі ½ дня ў карысць дзяцей і жанчын Іспаніі і т. д.

Прадокцябрскія дні былі адзначаны новым уздымам рэволюцыйнага энтузіязму і соцыялістычнага спаборніцтва мас. Стаханаўцы, ударнікі з большэвіцкай настойлівасцю і ўпартасцю дабіваліся высокіх узораў прадукцыйнасці працы.

Многія фабрыкі і заводы нашага раёна ў падарунак Вялікай пралетарскай рэволюцыі датэрмінова закончылі праграму. Фабрыка «Окцябр» выканала промфінплан на 105 проц., Шчотачная—на 100,5 проц., імя Куйбышэва—на 106,3 проц., імя Кагановіча—на 100 проц., завод «Пролетарый»—на 110,9 проц., завод «Ударнік»—на 117,3 проц., Малочны завод выканаў гадавы план на 133,5 проц. к 1 лістапада. На Хлебазаводзе 20 лістапада была праведзена стаханаўская дэкада, якая дала выкананне плана на 130 проц. Дасягнутыя рэзультаты замацаваны.

* * *

Праект новай сталінскай Канстытуцыі выклікаў вялікі ўздым палітычнай актыўнасці мас. Абмеркаванне велізарнейшага дакумента эпохі працягвалася каля 5 месяцаў і ператварылася ў школу соцыялістычнага выхавання мас. На прадпрыемствах рабілі справаздачу абраннікі народу—дэпутаты. На кватэрах рабочых і служачых разбіралі гэты гістарычны дакумент пункт за пунктам. Дэталёва і глыбока вывучаўся праект Канстытуцыі ў сетцы партасветы.

Мноства выступленняў, пытанняў і прапаноў сведчыць аб велізарным энтузіязме, з якім працоўныя сустрэлі гэты гістарычны дакумент.

Тав. Руткоўскі, работнік Дзяржплана, гаварыў: «Толькі Совецкі Саюз даў права ўсім грамадзянам на працу, асвету, адпачынак. Пры царызме я зусім не меў магчымасці скончыць хоць-бы сярэднюю школу, толькі праходзіў каля яе. Сёння побач з маім домам узнёсся выдатны будынак совецкай сярэдняй школы. Там вучыцца двое маіх дзяцей. Зараз я не адчуваю сваёй старасці. Кожны ў нас малады. Наш Саюз з'яўляецца маяком радаснага, шчаслівага жыцця для ўсіх працоўных».

Многасямейны рабочы Хлебазавода тав. Клоп заявіў: «Толькі партыя на чале з таварышом Сталіным магла зрабіць наша жыццё шчаслівым. Паглядзіце на маю сям'ю; хіба я калі-небудзь мог марыць аб такім жыцці?»

Сотні выступленняў працоўных прасякнуты бязмежнай любоўю і адданасцю сваёй радзіме.

Выключныя клопаты праяўляюць працоўныя аб далейшым умацаванні абараназдольнасці нашай радзімы. Гутаркі, праведзеныя ў цэхах на тэму «Абарона СССР і ўмацаванне Чырвонай арміі», паказалі велізарнейшую любоў, якою акружаюць працоўныя сваю непераможную рабоча-сялянскую Чырвоную армію—надзейны аплот міру і вернага вартавога совецкіх граніц. Рабочыя азнаёміліся з высокім класам ваеннага майстэрства, бездакорнай баявой вывучкай, высокай палітычнай свядомасцю, якую праявіла наша доблесная Чорвоная армія на манеўрах у Беларусі.

Прадпрыемствы і ўстановы ў гонар XIX гадавіны Окцябрскай рэволюцыі арганізавалі рад новых гурткоў ПВХО, групы варашылаўскіх кавалерыстаў, стралкоў і т. п. Так, напрыклад, БДУ выпусціў 10 парашуцістаў, Інстытут наргаса—57 варашылаўскіх стралкоў 1-й ступені, арганізаваў гурткі ПВХО 1-й ступені на 143 чал., 2-й ступені на 15 чал., гурток ГСА 1-й ступені на 15 чалавек і 2-й ступені на 20 чал., групамі варашылаўскіх кавалерыстаў ахоплена 65 чалавек, падрыхтавана 11 парашуцістаў. Фабрыка імя Куйбышэва выпусціла 10 варашылаўскіх стралкоў, 65 чал. здалі нормы ПВХО, працуе гурток планерыстаў з 8 чалавек. У Дзяржплане БССР здалі нормы ПВХО 26 чалавек.

У спецыяльных нумарах насценгазет рабкоры расказвалі аб тым, як іх цэх рыхтуецца да свята, якіх канкрэтных вынікаў дасягнуў у рабоце, хто лепшыя стаханаўцы, ударнікі, выдатнікі.

Многа ўвагі было звернута на рамонт кватэр і ўпрыгожанне іх к святу. Фабрыка «Окцябр» адрамантавала 40 кватэр сваім рабочым. Малочны завод правёў капітальны рамонт 20 кватэр лепшых стаханаўцаў і значнай колькасці рабочых дапамог дробным рамонтам. «Ударнік» адпусціў сродкі на рамонт 30 кватэр. Фабрыка імя Куйбышэва адрамантавала 19 кватэр, Шчотачная—25 і т. д.

Раённы Камітэт партыі ператварыў у апорныя пункты ўсёй агітацыйнай і прапагандысцкай работы кожную брыгаду, цэх, курс, інтэрнат. Афармленне калон для дэманстрацыі, павышэнне палітычнай актыўнасці мас, барацьба за выкананне промфінплана былі асноўнымі тэмамі агітацыйнай работы.

Асаблівая ўвага ўдзелена была падрыхтоўцы кожнай пярвічнай арганізацыі да Окцябрскай дэманстрацыі. Усяго было распрацавана 15 тэм афармлення: пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна наперад—да перамогі комунізма; сталінская Канстытуцыя соцыялізма; жыць стала лепш, жыць стала весялей; выхоўваем большэвіцкія кадры; стаханаўцы—сталінскія вучні; Чырвоная армія—гонар народу; дружба паміж народамі СССР расце і мацнее; кожная фабрыка—непрыступная крэпасць абароны СССР; ордэнаносная БССР—баявы фарпост СССР; як мы авалодваем тэхнікай; шчаслівая савецкая моладзь; шчаслівыя маткі і дзеці нашай радзімы; комуністычнае выхаванне дзяцей; інтэрнацыянальная брацкая салідарнасць працоўных усяго свету; іспанскі народ пераможа; далоў фашыстаў—падпальшчыкаў вайны (гэта тэма была выражана ў карыкатурах і карнавале).

Усе гэтыя тэмы дэталёва прапрацоўваліся ў цэхах фабрык і прадпрыемстваў.

За два тыдні да свята райком выпусціў 10.000 кніжак з масавымі рэволюцыйнымі песнямі. Іх развучвалі на прадпрыемствах, у школах, установах.

Падрыхтоўка да святкавання ХІХ гадавіны Вялікай пролетарскай рэволюцыі яшчэ больш умацавала ў масах дух пролетарскага інтэрнацыяналізма і савецкага патрыятызма, узняла баявую рэволюцыйную пільнасць, творчую ініцыятыву і актыўнасць мас. Дэманстрацыя паказала выключны энтузіязм і згуртаванасць працоўных вакол нашай вялікай партыі і любімага Сталіна.

Раённы камітэт партыі паставіў сабе задачу—замацаваць гэты рух і на аснове вопыту агітацыйна-масавай работы вызначыць канкрэтныя шляхі далейшага разгортвання палітычнай агітацыі.

Вопыт палітычнай агітацыі, набыты намі ў дні падрыхтоўкі і правядзення свята вялікай Окцябрскай рэволюцыі, можна і патрэбна перанесці ў практыку штодзеннай работы нашых партыйных арганізацый.

---

**В. Чэрнышоў**

**Сакратар Бабруйскага РК КП(б)Б**

# Наперад—да новых перамог соцыялістычнай прамысловасці

В. І. Ленін 14 кастрычніка 1921 года ў артыкуле «К чацвертай гадавіне Окцябрскай рэволюцыі» указваў:

> «Чым далей адыходзіць ад нас гэты вялікі дзень, тым ясней становіцца значэнне пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, тым глыбей мы ўдумваемся таксама ў практычны вопыт нашай работы, узятай у цэлым» *).

Яшчэ ясней становіцца значэнне Вялікай пролетарскай рэволюцыі ў нашай краіне цяпер, калі, мы адзначылі XIX гадавіну соцыялістычнага будаўніцтва.

Год таму назад у нас зарадзіўся стаханаўскі рух, які ператварыўся ўжо ў магутны рух мільёнаў.

Наш вялікі правадыр і настаўнік таварыш Сталін у сваёй сусветнагістарычнага значэння прамове на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарту чотка вызначыў значэнне і задачы гэтага масавага руху вялікай сталінскай эпохі, руху людзей, аўладаўшых тэхнікай і здолеўшых даць нябачаныя паказчыкі прадукцыйнасці працы:

> «Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?»

Пасля гэтага гістарычнага выступлення таварыша Сталіна стаханаўскі рух шырока разгарнуўся па прадпрыемствах горада Бабруйска. У нас з'явіліся знатныя людзі, якія далі рэкордныя паказчыкі выпрацоўкі: тт. Рушко, Гладышаў, Буднік, Міхалап, Герасімовіч (Лесакамбінат), Цэткін, Балкавінская (фанерны завод імя Кірава), Ясенеў (швейная фабрыка імя Дзержынскага) і т. д. Промфінплан 1935 года быў выканан датэрмінова—к 10 лістапада, і к канцу года прамысловасць Бабруйска дала нашай краіне на 11.000.000 рублёў звышпланавай прадукцыі.

---

*) т. XXVII, стар. 24.

Уступаючы ў новы, 1936 гаспадарчы год, мы паставілі перад сабой асноўную задачу—перайсці ад паасобных рэкордаў да сістэматычнай стаханаўскай работы ўсіх змен, цэхаў, усёй вытворчасці ў цэлым, уцягнуць у рух і навучыць рабочага працаваць стаханаўскімі метадамі.

Яшчэ большы ўздым энтузіязму, творчай энергіі і ініцыятывы выклікала сярод рабочых мас Бабруйска абмеркаванне праекта новай сталінскай Канстытуцыі СССР. Рабочыя, інжынерна-тэхнічны персанал, члены саматужна-прамысловых арцелей, глыбока вывучаючы праект сталінскай Канстытуцыі, прынялі на сябе пачэсны абавязак: датэрмінова—к XIX гадавіне Вялікай пролетарскай рэволюцыі—выканаць гадавы промфінплан.

Большэвіцкае слова было стрымана з гонарам.

На 29 кастрычніка дзяржпрадпрыемствы раёна выпусцілі на 69.995.000 рублёў прадукцыі—100,2 проц. гадавога плана. Прадукцыйнасць працы павысілася на 16 проц., сабекошт знізіўся на 2,3 проц. Сістэма промкааперацыі выканала свой гадавы план у 30.176.000 рублёў на 100,1 проц.

Асабліва выдатна працавалі Дрэвапрацоўчы камбінат, фанерны завод імя Кірава, швейная фабрыка імя Дзержынскага, машынабудаўнічы завод імя Сталіна, мэблевая фабрыка імя Халтурына.

Барацьба за ўкараненне стаханаўскіх метадаў работы забяспечыла нашым цагельным заводам адно з першых месц у радах цагельнай прамысловасці БССР. Цагельнікі-стаханаўцы з гонарам выканалі абяцанне, якое яны далі таварышам Гікало і Галадзеду ў дзень 16 гадавіны вызвалення БССР ад белапалякаў, і значна правысілі план, выпусціўшы 33.100 тысяч штук цэглы-сырца замест 28.100 тыс. штук. На 29 кастрычніка цалкам выканана таксама гадавая праграма абпалу: 25.960 тыс. штук цэглы.

Што забяспечыла нам гэтыя перамогі?

Перш за ўсё тое, што мы ўзброіліся сусветна-гістарычнага значэння дакументамі: прамовай нашага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў і праектам новай сталінскай Канстытуцыі—Канстытуцыі радаснага, светлага, заможнага жыцця.

Па-другое, тое, што намі канкрэтна, штодзенна кіруе ЦК КП(б)Б на чале з вытрыманым сталінцам—таварышом Гікало.

Масавы стаханаўскі рух шырока разгарнуўся на прадпрыемствах Бабруйска на аснове далейшага ўмацавання кіруючай і вядучай ролі комуністаў на вытворчасці. Стаханаўскія рады раслі і шырыліся з кожным днём. Следам за ініцыятарамі руху тт. Гладышавым, Цэйтліным, Рушко, Ясеневым і інш. выраслі ў нас новыя людзі сталінскай эпохі, стаханаўцы-двухсотнікі, якія з энтузіязмам змагаюцца за асваенне новых тэхнічных норм, за выкарыстанне тэхнікі да дна. Тт. Манько, Віствіцкі, Абражэвіч, Іваноў, Люблін, Баркоўская, Белабарадава, Пеўзнер, Косцін, Дудзіч, Мац, Петрашкевіч, сотні і тысячы іншых стаханаўцаў паказваюць узоры большэвіцкай работы і вядуць за сабой масу рабочых-ударнікаў.

Уся прамысловасць Бабруйска з'яўляецца дзецішчам вялікай Окцябрскай рэволюцыі.

Раней Бабруйск быў тыповым для так званага Паўночна-заходняга краю гарадком чарты яўрэйскай аседласці з дробнай саматужнай прамысловасцю. У 1913 годзе налічвалася 742 рабочыя, пераважна саматужнікі. Уся прамысловая прадукцыя дарэволюцыйнага Бабруйска ацэньвалася ў 1,5 мільёна рублёў. Але і ад гэтай прамысловасці нічога не засталося ў выніку імперыялістычнай вайны, нямецкай і

двух белапольскіх акупацый. Акупанты знішчылі або вывезлі машыны, абсталяванне, запасы сыравіны і т. п.

Толькі пад кіраўніцтвам вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна Беларусь упершыню ў сваёй гісторыі атрымала сваю дзяржаўнасць, здолела хутка залячыць раны, нанесеныя нямецкімі і белапольскімі акупацыямі, і ператварыцца ў квітнеючую, шчаслівую соцыялістычную рэспубліку.

Першая сталінская пяцігодка зусім змяніла твар Бабруйска. Бабруйск стаў буйнейшым цэнтрам дрэваапрацоўчай і фанернай прамысловасці БССР і заняў важнейшае месца ў прамысловасці харчовай. Пабудованы Дрэваапрацоўчы камбінат, фанерны завод імя Кірава, швейная фабрыка імя Дзержынскага, механізаваны хлебазавод і т. д.

Расце і культурна-матар'яльны добрабыт рабочых. Заработная плата многіх стаханаўцаў перавышае 1000 руб. у месяц. Токар завода імя Варашылава Філіповіч Іван зарабляе 1.300 рублёў, Філіповіч Владзімір—900 руб. і т. д. Каб задаволіць культурныя патрабаванні працоўных, мы толькі ў гэтым годзе пабудавалі дзве новыя сталінскія школы, будуем вялікі клуб для рабочых Лесакамбіната, фанернага завода імя Кірава і завода № 4.

Так хутка мы ідзем наперад на ўсіх участках нашага вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.

Да Окцябрскай рэволюцыі ў Бабруйску было 7 школ «казённых» і 6 прыватных, а на вёсцы—у межах сучаснага Бабруйскага раёна—толькі 4 школы. Дзікім здзекам над працоўным людам гучыць пісьмо «прасвяціцельніцы» Расіі—Екацерыны II, адрасаванае маскоўскаму генерал-губернатару: «Нам у нашай дзяржаве патрэбны школы для таго, каб грамадская думка не выключыла нас з ліку цывілізаваных нацый. Але мы не павінны лічыць бядой тое, што гэтыя школы ў нас дрэнна прывіваюцца, бо калі-б наш народ сапраўды навучыўся калі-небудзь чытаць і пісаць, наўрад-ці я або вы засталіся на сваіх месцах». Такая царская «міласць» вітала і над Бабруйскам.

Толькі Совецкая ўлада правяла ўсеагульнае пачатковае навучанне. У сучасны момант у Бабруйску 30 школ і ў раёне 12 поўных і 17 няпоўных сямігодак.

У галіне выканання гадавога промфінплана мы дасягнулі значных поспехаў. Але ўперадзе яшчэ многа работы. Трэба выканаць абавязацельства па выпуску звышпланавай прадукцыі. К канцу 1936 стаханаўскага года дзяржпрадпрыемствы павінны даць звыш плана на 17 мільёнаў рублёў добраякаснай прадукцыі, сістэма промкааперацыі—на 6,5 мільёна руб., цагельная прамысловасць—6.000.000 штук абпаленай цэглы. Нельга таксама забываць, што многія нашы прадпрыемствы мала сочаць за якасцю сваіх вырабаў. Фабрыка «Чырвоны харчавік», шклозавод «Комінтэрн», арцель «Чырвоны мэблеўшчык» усё яшчэ не здолелі мабілізаваць масы рабочых на барацьбу за вынатную якасць прадукцыі, за гонар сваёй фабрычнай маркі.

Баявы абавязак кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага кіраўніка прадпрыемства і арцелі, кожнай профсаюзнай арганізацыі і інжынерна-тэхнічнага работніка—забяспечыць далейшае разгортванне стаханаўскага руху ўшыр і ўглыб, змагацца за суцэльныя стаханаўскія прадпрыемствы, за вырошчванне новых соцень і тысяч стаханаўцаў, аўладаўшых вышынямі навейшай тэхнікі, праяўляць штодзенны клопат да жывога чалавека, умацаваць работу з ударнікамі—заўтрашнімі стаханаўцамі, усямерна дапамагаючы ім авалодваць тэхнікай вытворчасці, асвойваць новыя тэхнічныя нормы.

Наша неадкладная задача—уцягнуць у тэхнічную вучобу пагалоўна ўсіх стаханаўцаў і ўсю масу рабочых. Дапамагчы ў гэтай важнейшай справе павінны інжынерна-тэхнічныя работнікі. Падбору выкладчыцкіх кадраў і якасці тэхвучобы трэба ўдзяліць асобую ўвагу.

«За культуру на вытворчасці і ў быту»—вось асноўны лозунг дня. Узорныя інтэрнаты, культурныя і ўтульныя чырвоныя куткі, клубы, сталовыя і буфеты, шырокае разгортванне зімовага спорту, арганізацыя культурнага адпачынку стаханаўцаў і ўсіх рабочых—асноўныя мерапрыемствы, якія мы павінны найстойліва праводзіць пры ўсямерным і актыўным удзеле саміх стаханаўскіх мас.

Усямерна ўзнімаючы рэвалюцыйную пільнасць, бязлітасна выкрываючы ворагаў соцыялізма—ганебных бандытаў, дыверсантаў, агентаў фашызма з трацкісцка-зіноўеўскай зграі,—яшчэ цясней згуртуем свае рады вакол ЦК ВКП(б) і любімага правадыра таварыша Сталіна. Партыйныя і непартыйныя бальшэвікі нашага раёна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, яшчэ шырэй разгарнуўшы магутны стаханаўскі рух, з бальшэвіцкай адданасцю будуць змагацца за замацаванне дасягнутых поспехаў, за ўтрыманне пераходнага Чырвонага сцягу ЦК КП(б)Б і СНК БССР, за перадавое месца нашага раёна ў ордэнаноснай БССР.

---



Уп. Галоўлітбела № П—5016.
Тыраж 8.500.
316.800 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў набор 16/XI—36 г.
Падпісана да друку 4/XII—36 г.

*Рэдкалегія* Д. Конік, Г. Рубінштэйн

*Нам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 1218.

ЦАНА 40 кап.




ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 7.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1937 г.

НА ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

| | | |
|---|---|---|
| год выдання 11-ы | ОРГАН ЦК КП(б)Б | 12 нумароў у год |

**„БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ" асвятляе:**

вопыт і практыку работы партыйных арганізацый і соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР; тэарэтычныя пытанні марксізма-ленінізма; пытанні гісторыі КП(б)Б і рэволюцыйнага руху на Беларусі; міжнародны рабочы рух і барацьбу працоўных за сваё вызваленне; міжнароднае становішча і ўзаемаадносіны СССР з капіталістычнымі краінамі, і інш.

**„БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ" разлічан:**

на шырокія колы партыйнага актыва, кіруючых партыйных, савецкіх, профсаюзных і гаспадарчых работнікаў, прапагандыстаў і шырокія масы беспартыйных большэвікоў.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

на 12 мес. — 4 р. 80 к.
на 6 мес. — 2 р. 40 к.
на 3 мес. — 1 р. 20 к.
на 1 мес. — — 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**

штомесяц усімі райбюро „Саюздруку", упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.